# КААПЭРАЦЫЯ БССР

ЧАСОПІСЬ

КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАУ БССР,
БЕЛСЕЛЬБАНКУ І ЎСЕКАБАНКУ


КРАСАВІК

№ 1-2

1929

МЕНСК




# ЗЬМЕСТ



## Практыка нашае працы



## На мясцох



## Каапэрацыя за мяжою



## Бібліяграфія



## Афіцыйны аддзел

## Дарагія таварышы каапэратары!

Вышаў у сьвет №№ 1—2 двухтыднёвага адзінага каапэрацыйнага часопісу ў БССР—„Каапэрацыя БССР“.

Наш часопіс ставіць сваёй задачай, побач з абслугоўваньнем нашага кіруючага актыву, большае абслугоўваньне чытача каапэрацыйнага нізавога актывістага.

Складанасьць абслугоўваньня ўсіх каапэрацыйных сыстэм, усіх яе відаў вымагае шырокае ўвагі і падтрыманьня часопісу з боку ўсяе нашае каапэрацыйнае грамадзкасьці.

Чым у першую чаргу кожнаму сьвядомаму каапэратару трэба дапамагчы свайму часопісу?

Неадкладна падпісацца самому на часопіс, паклапаціцца і прасачыць за тым, каб ён быў у кожнай каапэрацыйнай адзінцы, у кожным аддзяленьні, у кожнай краме.

Самому пісаць аб жыцьці і патрэбах каапэрацыі на мясцох, рашуча высьвятляючы ўсе хібы нашае работы.

Гэта самае першае.

Чым больш увагі мы аддамо нашаму адзінаму каапэрацыйнаму органу, тым лепш мы паставім яго, тым большую масу ён задаволіць, тым больш ён будзе адпавядаць запатрабаваньням свайго чытача.

Ітак, таварышы-каапэратары! Дружна за распаўсюджаньне свайго часопісу! За дружны ўдзел у ім!

За дапамогу!

Рэдакцыйная калегія

„Каапэрацыі БССР“.

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!



# КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.

ДВУХТЫДНЁВЫ ОРГАН
КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР,
БЕЛСЕЛЬБАНКУ, і ЎСЕКАБАНКУ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
М. БРЫСЬКІНА, КРАСОЎСКАГА,
Г. ХАСКІНА і А. ФРЫДА

ПЕРШЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

## № 1–2

КРАСАВІК





МЕНСК — 1929

# ГАРАЧЫ ПРЫВЕТ IX УСЕБЕЛАРУСКАМУ ЗЬЕЗДУ САВЕТАЎ

**Рэзалюцыя пленуму ЦК КП(б)Б**

## Аб веснавой пасеўнай кампаніі

1. Веснавая пасеўная кампанія бягучага году набывае выключна вялікае палітычнае і эканамічнае значэньне ў сувязі з неабходнасьцю практычнага выкананьня задач па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, вытворчым каапэраваньні, калектывізацыі, узмацненьні саўгасаў, пад'ёме бядняцка-серадняцкіх індывідуальных гаспадарак, уздыме ўраджайнасьці, павялічэньні таварнасьці і далейшым рашучым наступленьні на кулака.

Вырашэньне гэтых задач ва ўмовах абвастрэньня клясавай барацьбы на вёсцы патрабуе ад усяе КП(б)Б напружанай увагі, арганізацыі вясковых камуністых, камсамольцаў, беднаты, батрацтва і серадняцкіх мас навакол практычных задач, зьвязаных з правядзеньнем веснавой сяўбы.

2. Аднак пленум ЦК адзначае, што пры своечасовым вызначэньні асноўных мерапрыемстваў па правядзеньні пасеўнай кампаніі практычная праца як у цэнтры, так і асабліва на мясцох распачата са спазьненьнем і праводзіцца нездавальняючым тэмпам. Асноўнымі недахопамі ў падрыхтоўчай працы да веснавой сяўбы зьяўляюцца:

а) слаба разгорнута масавая праца сярод бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі па ўзьняцьці самадзейнасьці і ініцыятывы іх навакол ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў, вызначаных для правядзеньня ў часе пасеўнай кампаніі;

б) калектывізацыя і вытворчае каапэраваньне праходзіць нездавальняюча;

в) значнае недавыкананьне плянаў мясцовых загатовак насеньня, асабліва канюшыны, вікі, лубіну, караньплодаў і ўгнаеньня, а таксама па завозе штучнага ўгнаеньня;

г) спазьненьне з выданьнем інструкцый, дагавораў, устанаўленьнем цэн і пераводам грошай на кантрактацыю, частыя зьмены ўмоў і заданьняў з боку цэнтральных установ, невыстарчальнае разгортваньне працы на мясцох па кантрактацыі — усё гэта пагражае зрывам плянаў па кантрактацыі;

д) недастаткова разгорнута работа па арганізацыі працоўнай дапамогі беднаце і скарыстаньні фондаў для каапэраваньня беднаты, а таксама слабасьць работы КСУ;

е) слаба разгорнута азнаямленьне бядняцка-серадняцкіх сялянскіх мас з новым законам аб сельска-гаспадарчым падатку і законам аб аграмінімуме.

3. Вызначаныя заданьні ў галіне пашырэньня пасеўных плошчаў яравых культур у індывідуальных сялянскіх гаспадарках на 3 проц., у саўгасах на 6 проц. і ў калгасах на 82 проц. (уключаючы плошчу калгасаў, што арганізуюцца ў бягучым годзе) зьяўляюцца мінімальнымі і патрабуюць абавязковага выкананьня.

4. Падвышэньне ўраджайнасьці ў індывідуальных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарках на 7 проц., у саўгасах і калгасах на 12 проц. зьяўляецца задачай, якая павінна быць абавязкова выканана, і гэта зусім магчыма ў сувязі са значнымі капітальнымі ўкладаньнямі ў сельскую гаспадарку ў бягучым годзе, павялічэньнем ільгот па сельска-гаспадарчым падатку і г. д.

Пленум ЦК КП(б)Б, выходзячы з таго, што да пачатку сяўбы застаўся кароткі тэрмін, у які патрэбна мабілізаваць усе сілы для выкананьня плянаў па веснавой пасеўнай кампаніі, прапануе:

1) усім арганізацыям КП(б)Б зрабіць генэральную праверку да 20 красавіка 1929 г., ці забясьпечана правядзеньне ўсіх мерапрыемстваў з боку партыйных, савецкіх, грамадзкіх арганізацый, саўгасаў і калгасаў, гарантуючых выкананьне ў веснавую сяўбу лімітаў па пашырэньні пасеўнай плошчы, падвышэньні ўраджайнасьці, па арганізацыі калгасаў, вытворчых каапэратываў і г. д. Трэба асабліва жорстка аднесьціся да выкананьня плянаў мясцовых загатовак насеньня вікі, лубіну, канюшыны, бульбы, забясьпечыўшы поўнае выкананьне плянаў і своечасовую дастаўку на месцы загатаванага; абавязаць ВСНГ, Белсельсаюз і Наркамзем абавязкова поўнасьцю і ў тэрмін выканаць усе пляны па забесьпячэньні прамысловасьці ВСНГ Бел. сродкамі вытворчасьці сельскай гаспадаркі да веснавой сяўбы; Белсельбанку і Наркамфіну праверыць, ці дайшлі ўсе грашовыя сродкі, прызначаныя калгасам, каапэрацыйным вытворчым аб'яднаньням і сялянству на веснавую сяўбу да месца прызначэньня і як яны скарыстоўваюцца;

2) пленум ЦК даручае акругкомам, Белсельбанку і Калгассаюзу забясьпечыць абавязковае выкананьне пляну па арганізацыі калгасаў і вытворчых каапэратываў, у прыватнасьці малочных і насеннаводных, прыняўшы захады да ўтварэньня больш буйных калгасаў і забесьпячэньня нанава арганізуемых арганізацыйнай дапамогай і сродкамі вытворчасьці;

у зьвязку з арганізацыяй буйных калгасаў, даручыць Бюро ЦК забясьпечыць гэтыя гаспадаркі належнымі кіраўнікамі з кадраў, якія ёсьць, а таксама прыняць меры да сталай падрыхтоўкі кіраўнікоў буйных калгасаў;

3) Наркамгандлю, Белсельсаюзу і акруговым арганізацыям дабіцца поўнага выкананьня плянаў па кантрактацыі;

4) акругкомам КП(б)Б правесьці, дзе яшчэ не праведзены, бядняцка-серадняцкія сходы сялян, дэлегацкія сходы жанчын, на якіх падрабязна растлумачыць задачы веснавой пасеўнай кампаніі і мерапрыемствы партыі і ўлады ў галіне ўзьняцьця прадукцыйнасьці сельскай гаспадаркі (закон аб аграмінімуме, сельска-гаспадарчым падатку, павялічэньне крэдытаў і інш.), падрабязна абгаварыўшы, што канкрэтна трэба рабіць у кожным асобным сельсавеце, шырока прыцягваючы да гэтае працы грамадзкія арганізацыі;

5) пленум ЦК абавязвае партыйныя і камсамольскія арганізацыі, фракцыі саветаў, зямельныя і каапэрацыйныя органы прыняць усе захады да найбольш шырокага разгортваньня паходу за ўраджай і калектывізацыю; у паход, які праводзіцца па прынцыпе сацыялістычнага спаборніцтва, павінны быць уцягнуты цэлыя сельсаветы, раёны, калгасы, саўгасы і шэфскія таварыствы; ухваляючы ініцыятыву камсамолу ў правядзеньні веснавога сьвята „першай баразны", пленум ЦК прапануе ўсім арганізацыям КП(б)Б аказаць належную дапамогу камсамольскім арганізацыям;

6) пленум ЦК даручае прафэсіянальным і шэфскім арганізацыям разгарнуць значна большую работу па агрыкультурным абслугоўваньні вёскі і арганізацыі дапамогі беднаце шляхам камандыраваньня рабочых брыгад, рамонту сельска-гаспадарчага інвэнтару, забесьпячэньня літаратурай і інш.;

7) саўгасы і калгасы ўсё яшчэ недастаткова аказваюць агрыкультурную дапамогу наўкольнаму бядняцка-серадняцкаму насельніцтву; Наркамзем і Калгассаюз павінны дабіцца рашучага ўзмацненьня агрыкультурнай дапамогі сялянскім гаспадаркам калгасамі і саўгасамі.

Пленум ЦК даручае ўсім арганізацыям КП(б)Б і фракцыям адпаведных органаў прыняць самыя рашучыя захады да выкананьня гэтае пастановы, вядучы рашучую барацьбу з нядбайнымі адносінамі, з скрыўленьнем клясавай лініі з боку паасобных арганізацый і асоб да выкананьня важнейшых мерапрыемстваў па правядзеньні веснавой пасеўнай кампаніі, прыцягваючы да суровай адказнасьці вінаватых;

8) даручыць акруговым і раённым арганізацыям скарыстаць веснавую пасеўную кампанію для падрыхтоўкі сялянства да ўсебеларускага сел.-гасп. конкурсу на лепшы сельска гаспадарчы раён.

---

# У дзень 1 мая праверым і падзесяцярым сваю работу

Наша савецкая каапэрацыя—гэта просты шлях да сацыялізму. Посьпехі савецкае каапэрацыі—гэта посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва. Каапэрацыя ў нашых умовах—гэта надзейнае арудзьдзе смычкі рабочае клясы з бядняцка-серадняцкімі коламі сялянства і арудзьдзе барацьбы апошніх супроць нэпманаў і кулацтва.

Зусім другое ў капіталістычных краінах. Да апошняга часу на чале большасьці каапэрацыйных арганізацый у капіталыстічных краінах стаяць здрадныя, згодніцкія правадыры, якія ўсе сілы кладуць на тое, каб адвесьці каапэраваныя масы ад рэвалюцыйнае барацьбы, каб узмацніць капіталістычны лад. Ёсьць там і рэвалюцыйныя каапэратары, якія па прыкладзе нашае каапэрацыі і пад кіраўніцтвам камуністычных партый навучаюць рабочых і сялян капіталістычных краін будаваць сваю каапэрацыю так, каб яна сапраўды абараняла інтарэсы працоўных і дапамагала ім у барацьбе за рэвалюцыйнае зьнішчэньне капіталістычнага ладу. І не здарма капіталісты з пенаю ў роце імкнуцца разбурыць тую каапэрацыю, якая становіцца сапраўднаю рэвалюцыйнаю пралетарскаю арганізацыяю.

Нашым савецкім каапэратарам у дзень 1 мая трэба ўспомніць аб прыгнечаных братох, якія змагаюцца за сваё вызваленьне. Толькі памятаючы заўсёды аб сваіх прыгнечаных братох і дапамагаючы ім, савецкі каапэратар разумее і значэньне і шляхі разьвіцьця нашае каапэрацыі.

Якія-ж унутраныя задачы стаяць перад нашай каапэрацыяй у сучасны момант і якія трэба высьветліць перад шырокімі коламі працоўных мас?

Ачышчэньне шэрагаў каапэрацыйных арганізацый ад кулацка-нэпманскіх і іншых варожых нам элемэнтаў, сканцэнтраваньне ўвагі рабочых і бядняцкіх працоўных мас у горадзе, батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас на вёсцы вакол задачы разгорнутага наступу іх у галіне будаўніцтва сацыялізму супроць кулака і нэпмана, бюракрата, растратчыка, якія падрываюць нашае будаўніцтва.

Арганізацыя буйных калгасаў і палепшаньне працы існуючых, актыўнае садзейнічаньне бядняцкім і серадняцкім масам вёскі ў справе пашырэньня веснавое пасеўнае плошчы, правядзеньне агрыкультурных мерапрыемстваў з мэтаю падняцьця ураджайнасьці, масавае ўцягненьне ў вытворчыя каапэрацыйныя аб'яднаньні беднякоў і серадлякоў, поўнае правядзеньне кантрактацыі па намечанаму пляну, падняцьце актыўнасьці

каапэрацыйных арганізацый пры дапамозе беднякоў і серадлякоў у нарыхтоўках хлеба і сыравіны, правядзеньне грамадзкага байкоту супроць кулакоў, якія спэкулююць на цяжкасьцях, хаваючы ў сябе вялікія запасы хлеба і сыравіны, збываючы іх па спэкуляцыйных цэнах, правядзеньне дыфэрэнцыраванага паю і яго зьбіраньне, правядзеньне практычных мерапрыемстваў па рэжыму эканоміі і за паляпшэньне якасьці і прадукцыйнасьці працы каапэрацыйнымі арганізацыямі, барацьба супроць спэкуляцыйнага падвышэньня цэн, забесьпячэньне на перавыбарчых сходах дастатковае актыўнасьці беднякоў і батракоў і абіраньне іх сумесна з серадлякамі ў кіруючыя і рэвізійныя органы, ажыўленьне працы сходаў і груп бедняты, поўнае ачышчэньне кіруючых і рэвізійных органаў ад спэкулянтаў, кулакоў, рвачоў, растратчыкаў, гандляроў і г. д.

Вось асноўныя задачы, якія стаяць перад нашай каапэрацыйнай грамадзкасьцю і якія павінны быць папулярызаваны ў дзень 1 мая.

**За пасьпяховае прасоўваньне ўперад у галіне будаўніцтва сацыялізму!**

**За індустрыялізацыю краіны! За калектывізацыю сельскае гаспадаркі!**

**Рашучая барацьба з капіталістычнымі элемэнтамі!**

**Да згуртаваньня працоўных мас пад сьцягам пралетарскае дыктатуры, вакол УсеКП(б), вакол Камінтэрну!**

---

А. Фрыд

# Асноўныя моманты пяцігадовага пляну спажывецкае каапсыстэмы БССР

*(у папярэднім варыянце)*

Тэмпы росту прамысловасьці, якія плянуюцца, росту прадукцыі і таварнасьці сельскае гаспадаркі на базе інтэнсыўнага яе аграмаджаньня і вытворчага каапэраваньня і пашырэньне плацежаздольнага попыту насельніцтва, якое вызначаецца, ствараюць спрыяючыя ўмовы да далейшага прысьпешанага тэмпу разьвіцьця тавараздвароту спажывецкай сыстэмы каапэрацыі, якая зрабілася ўжо ў сучасны момант асноўным праваднікам спажывецкіх тавараў у краіне.

Разьвіцьцё тавараздваротаў спажывецкай каапэрацыйнай сыстэмы павінна ісьці побач з: а) усё больш поўнай і рацыянальнай увязкай гаспадарчых узаемаадносін спажыўсыстэмы з дзяржаўнай і каапэрацыйнай саматужна-рамесьніцкай прамысловасьцю, з вытворчымі відамі сельска-гаспадарчай каапэрацыі (калгасы, малочная і садова-агародная каапэрацыя) і з дзяржаўным сэктарам сельскае гаспадаркі; б) рацыяналізацыяй спосабаў прамысловага таварапрасоўваньня і тавараразьмеркаваньня шляхам разьвіцьця транзыту, спрашчэньня саюзнага зьвенчаку сыстэмы, узбуйненьня яе першапачатковага зьвенчаку і пашырэньня крамнай сеткі; в) з рацыяналізацыяй і мэханізацыяй працэсаў захаваньня (складзкая гаспадарка, перапрацоўка і разьмеркаваньне, хлебазаводы і грамадзкія сталоўкі); г) прысьпешаным тэмпам каапэраваньня насельніцтва і прыцягненьнем да гэтага яго сродкаў; д) забесьпячэньнем у сыстэме кіруючай ролі пралетарскіх і паўпралетарскіх элемэнтаў насельніцтва ў саюзе з серадняком і

рашучай барацьбой з кулацкімі і капіталістычнымі элемэнтамі гораду і вёскі; е) узьняцьцём палітычнага і культурнага ўзроўню кадраў каапэрацыйных працаўнікоў і каапэраванага насельніцтва.

Рост раздробнага таваразвароту спажывецкай сыстэмы характарызуецца наступнай табліцай:

| Гады | Першапачатк. | Саюзы | Усяго | У % % да ўсяго раздробнага таваразвароту |
|---|---|---|---|---|
| | У мільёнах рублёў | | | |
| 1925-26 | 89,87 | 0,11 | 89,88 | 38,9 |
| 1926-27 | 117,47 | 0,10 | 117,57 | 44,6 |
| 1927-28 | 148,08 | 0,04 | 148,12 | 54,4 |
| 1928-29 | 182,54 | — | 182,54 | 59,6 |
| 1932-33 | 318,70 | — | 318,70 | 62,4 |

Тэмп прыросту раздробнага таваразвароту спажывецкай сыстэмы за апошнія гады дазваляе плянаваць прырост раздробнага звароту на апошні год пяцігодзьдзя на 115,1 проц., супроць 27-28 г., што складае ў сярэднім каля 20 проц. у год. Рост раздробнага таваразвароту каапэрацыйнай сыстэмы за папярэднія гады характарызуецца наступнымі двума момантамі: 1) тэмп прыросту звароту ў сельскай сетцы перавышае тэмп росту гарадзкой сеткі; 2) прырост зваротаў гарадзкой сеткі з прадукцыяй сельскай гаспадаркі перавышае прырост зваротаў з прадукцыяй прамысловасьці. Гэтыя тэндэнцыі застаюцца і на пяцігодку.

Павышэньне з году ў год ўдзельнае вагі спажыўсыстэмы ў агульнай суме раздробнага таваразвароту, што адбываецца за лік выцісканьня прыватніка і скарачэньня непасрэдніцкіх форм таваразвароту, захоўвае сваю сілу на пяцігодьдзе, што плянуецца.

Агульны таваразварот сыстэмы ствараецца з двух частак: работы саюзнага зьвенчаку па прасоўваньню прамтавараў у першапачатковую сетку і работы абодвых зьвенчакоў сыстэмы, першапачатковай і саюзнай, з сельска-гаспадарчымі прадуктамі па іх прасоўваньню ад сельскага вытворцы да спажыўца, пераважна гарадзкога, і часткова на экспарт і для прамысловасьці.

Разьвіцьцё гуртовага таваразвароту сыстэмы адбывалася за папярэднія гады і сплянавана на пяцігодзьдзе ў наступным выглядзе:

| Гады | Саюзы | Першапачатк. | Усяго | Удзельная вага ва ўсім гурт. таваразвароце |
|---|---|---|---|---|
| | У мільёнах рублёў | | | |
| 1925-26 | 54,02 | 4,65 | 58,67 | 28,7 |
| 1926-27 | 65,06 | 3,80 | 68,86 | 36,1 |
| 1927-28 | 104,77 | 5,57 | 110,34 | 41,5 |
| 1928-29 | 137,03 | 7,94 | 144,97 | 37,8 |
| 1932-33 | 271,60 | 28,00 | 299,60 | 27,2 |

Зьніжэньне ўдзельнае вагі спажыўсыстэмы ў гуртовым звароце ў пэрспэктыве пяцігодзьдзя зьяўляецца вынікам інтэнсыўнага ўзьняцьця гуртовай работы сельска-гаспадарчай каапэрацыйнай сыстэмы на рынку сельгаспрадуктаў. Унутры-ж зваротаў сыстэмы рост гурту па тэмпу (прырост за 5 год на 187,2 проц.) выпярэджвае рост раздробнага гандлю з прычыны плянуемага працэсу, павялічэньня гандлёвых сувязяй першапачатковых зьвенчакоў з саюзным зьвенчаком. Аднак, сума гуртовага звароту, якая

плянуецца, можа ў працягу пацігодзьдзя зьменшыцца, калі насьпее неабходнасьць скарачэньня другога саюзнага зьвенчаку, чаму будзе спрыяць узбуйненьне спажыўтаварыстваў, разьвіцьцё гендагавораў, транзыту і сыстэмы папярэдніх запатрабаваньняў.

Рост гандлёвых зваротаў патрабуе ўзмоцненага росту зваротнага фонду сыстэмы. У складзе апошняга ўдзельная вага таварных каштоўнасьцяй будзе ўзрастаць. На 1 кастрычніка 1928 г. сума зваротных фондаў сыстэмы раўняецца 22,8 млн., з якіх 75,8 проц. знаходзілася ў таварах, рэшта ў касе, на бягучых рахунках і дэбітораў. За пяць год запраэктаваны прырост зваротных фондаў на 134,6 проц., а ўдзельная вага тавараў у зваротным фондзе да канца пяцігодкі ў памеры 82,7 проц.

У працягу пяцігодзьдзя роля паявых і ўласных капіталаў у фінансаваньні зваротаў сыстэмы інтэнсыўна ўзрастае. Складаючы на 1 кастрычніка 1928 г. 36,8 проц. зваротнага фонду, да 1 кастрычніка 1933 г. удзельная вага паявых і ўласных капіталаў у зваротным фондзе паднімаецца да 70,5 проц.

Паявыя капіталы павінны стаць да канца пяцігодзьдзя асновай фінансавай базы сыстэмы. Паянакапленьне ў інтэнсыўным тэмпе, за лік узрастаючай колькасьці пайшчыкаў і памера паю, дыктуецца агульнымі задачамі народнае гаспадаркі, якая патрабуе значных рэсурсаў для патрэб прамысловасьці і сельскае гаспадаркі. Таварны зварот павінен павышацца, галоўным чынам, за лік накапленьняў унутраных рэсурсаў сыстэмы. Сума паявога капіталу спажывецкай сыстэмы, якая складае на 1 кастрычніка 1928 г. 4.186 тыс. руб., павінна павялічыцца да 1 кастрычніка 1933 г. да 25.121 тыс. руб. Пэрспэктывы росту даходу насельніцтва дазваляюць павялічыць матар'яльны ўдзел яго ў спажывецкай каапэрацыі да спраэктаваных памераў.

Накапленьне ўласных сродкаў у сыстэме для патрэб гандлёвага звароту з прыбыткаў будзе ўзрастаць у меншым тэмпе, чым паявыя капіталы. Агульная сума паявых і ўласных капіталаў у сыстэме, якія ўдзельнічаюць у яе зваротным фондзе, спраэктавана да канца пяцігодзьдзя ў памеры 33,8 млн. руб. Рэшта зваротнага фонду будзе фінансавацца сродкамі пазычковымі, у якіх між іншым павінны ўдзельнічаць сродкі каапэрацыйных і крэдытна-каапэрацыйных цэнтраў, а таксама ўклады і авансы пайшчыкаў.

Нізкі ўзровень гандлёвага і вытворча-тэхнічнага апарату сыстэмы і колькасны яго недахват патрабуе капітальных укладаньняў для яго ўдасканаленьня і пашырэньня.

Асноўныя капітальныя работы па спажывецкай сыстэме на бліжэйшы пэрыод вызначаны наступныя:

а) Крамавае будаўніцтва. Уход прыватніка з рынку ідзе побач са значным скарачэньнем крамавай сеткі. Напрыклад, у 1927-28 г. лік крам па БССР скараціўся на 18,2 проц. Прыватныя памяшканьні, што пакідаюцца гандлярамі, у пераважнай сваёй частцы не прыстасаваны для скарыстаньня каапэрацыяй. Капітальныя ўкладаньні ў крамавае будаўніцтва павінны быць накіраваны на пабудову новых памяшканьняў і частковую на пераабсталяваньне памяшканьняў, што пакінулі прыватнікі. У працягу пяцігодкі мяркуецца сетку крам па гораду павялічыць на 409 адзінак, а па сельскай і местачковай сетцы—на 625 адзінак.

б) Складзкае будаўніцтва запраэктавана на бліжэйшыя пяць год у наступным выглядзе: пабудова цэнтральнае падсартыровачнае базы ў Воршы, рэспубліканскае базы ў Гомлі, наладжваньне ў гарадох складаў пры станцыях чыгунак, 3 сховішча для гародніны, 8 халадзільнікаў для сталовак і

пабудова шэрагу складаў пры больш буйных прыстанцыйных каапэрацыйных арганізацыях для абслугоўваньня куставых аб'яднаньняў спажыўкаапэрацыі.

в) Пабудова сталовак і чайных у гарадох, мястэчках і сельскіх мясцовасьцях.

г) Будаўніцтва і абсталяваньне хлебазаводаў і хлебапякарань у гарадох, мястэчках і сельскіх мясцовасьцях.

Усяго па сыстэме за пяць год мяркуюцца новыя капітальныя ўкладаньні ў памеры 11,5 млн. руб. На 1 кастрычніка 1928 г. сума асноўных капіталаў сыстэмы, якія ўкладзены ў маемасьць, складала 4,7 млн., да 1 кастрычніка 1933 г. гэта сума павінна павялічыцца да 16 млн. руб., у ліку якіх 10 млн. павінны складаць сродкі самой сыстэмы, 6 млн.—пазычковыя сродкі.

Посьпехі гандлёвай фінансавай дзейнасьці ў сыстэме залежаць ад пашырэньня і ўзбуйненьня яе пралетарскае грамадзкае базы і ад інтэнсыўнага каапэраваньня насельніцтва. Асноўныя ўстаноўкі ў пэрспэктыве плянаў каапэраваньня ў бліжэйшыя пяць год наступныя:

а) поўнае ўцягненьне ў сыстэму беднаты і батрацтва;

б) амаль поўнае каапэраваньне сялянскіх гаспадарак і сямей;

в) каапэраваньне ўсіх членаў калгасаў;

г) значнае ўцягненьне ў лік пайшчыкаў сыстэмы другіх членаў сям'і, у прыватнасьці жанчын і моладзі, маючы ў пэрспэктыве каапэраваньне ўсяго працаздольнага дарослага насельніцтва.

Лічбовае выяўленьне тэмпу каапэраваньня за мінулыя гады і пяцігодзьдзе ілюструецца наступнай табліцай (у тысячах рублёў):

| | 1 кастрычн. 1926 г. | 1 кастрычн. 1927 г. | 1 кастрычн. 1928 г. | 1 кастрычн. 1929 г. | 1 кастрычн. 1933 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Па вёсцы і мястэчку: | | | | | |
| Агульны лік пайшчыкаў | 294,00 | 378,20 | 512,80 | 628,30 | 975,80 |
| % каапэр. даросл. насельніцтва | 13,00 | 16,80 | 22,30 | 27,1 | 40,90 |
| Бедната і батрацтва | 29,00 | 96,00 | 145,10 | 195,00 | 245,00 |
| Другія члены сям'і | — | — | 5,00 | 32,00 | 120,00 |
| Сельск. гасп. | 230,00 | 308,00 | 415,00 | 507,20 | 742,20 |
| % каап. сялянск. гасп. | 29,40 | 39,00 | 52,00 | 63,00 | 90,70 |
| Інш. сямей | 66,00 | 70,20 | 82,80 | 95,20 | 112,80 |
| Па гораду: | | | | | |
| Агульны лік пайшчыкаў | 79,20 | 101,20 | 127,50 | 159,00 | 273,00 |
| % каапэр. даросл насельніцтва | 45,10 | 31,10 | 35,90 | 44,80 | 67,00 |
| Каапэр. членаў прафсаюзаў | 62,00 | 83,70 | 102,50 | 121,30 | 175,50 |
| % каапэр. членаў прафсаюзаў | 56,50 | 70,00 | 78,00 | 87,60 | 90,00 |
| Усяго каапэраванага па гораду і мястэчку дарослага насельніцтва | 373,20 | 379,40 | 640,30 | 794,00 | 1248,00 |
| % каапэр. даросл. насельніцтва | 14,80 | 48,60 | 24,30 | 29,50 | 41,60 |

Працэс каапэраванага дарослаго насельніцтва ў працягу пяцігодзьдзя, а таксама процант каапэраваньня дарослага насельніцтва на пяцігодзьдзе спраэктаваны па горадзе ў некалькі больш высокім тэмпе, чым на вёсцы.

Каапэраваньне беднаты і батрацтва на вёсцы сплянавана на 100 проц.

Пасьпяховае каапэраваньне беднаты і другіх членаў сям'і, а таксама поўная адпаведнасьць паміж матар'яльным удзелам ў стварэньні паявога капіталу сыстэмы і плацежаздольнасьцю розных груп насельніцтва забясьпечваецца:

а) фондам каапэраваньня беднаты;

б) сыстэмаю дыфэрэнцыяванага паю; апошняя ўводзіцца з першага году пяцігодзьдзя і прадугледжвае ільготныя памеры паю для беднаты і другіх членаў сям'і і найбольш высокі памер паю для груп, якія маюць найбольш высокі заробак у горадзе, і для заможных пластоў вёскі.

Тэмп паянакапленьня сплянаваны вышэй тэмпу разьвіцьця тавараразвароту, а тэмп разьвіцьця апошняга некалькі выпярэджвае тэмп каапэраваньня, што адпавядае пэрспэктывам росту даходу насельніцтва і росту агульнага тавараразвароту і найлепшым чынам павінна забясьпечыць выкананьне пляну разьвіцьця спажыўсыстэмы на бліжэйшае пяцігодзьдзе.

На базе шырока разгорнутае гаспадарчае і грамадзкае дзейнасьці спажывецкая каапэрацыя пляние на бліжэйшае пяцігодзьдзе вялікую праграму сацыяльна-культурных мерапрыемстваў сярод каапэраваных рабоча-сялянскіх мас і сярод каапэрацыйнага актыву: шырокае разгортваньне гандлю кнігамі, абсталяваньне сеткі кіно і радыё-установак, арганізацыя сеткі сацыяльна-бытавых і культурных установ, якія маюць сваёй мэтай, галоўным чынам, вызваленьне жанчын ад старых форм сямейнага прыгнечаньня, арганізацыя курсаў і школ для спэцыяльнай і масавай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі каапэрацыйнага актыву, арганізацыя курсаў па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, дапамога вучнёўскай беднаце, выданьне каапэрацыйнага друку і г. д.

Для забесьпячэньня гэтых мерапрыемстваў матар'яльнымі сродкамі ўстаноўлены штогоднія адлічэньні асыгнаваньняў з прыбыткаў і ад звароту спажыўсыстэмы ў культурныя і бытавыя фонды. Агульны памер гэтых фондаў на 5 год сплянаваны ў суме 5.856,5 тыс. руб.

Гаспадарчы, грамадзкі і культурны ўздым каапэрацыйнай сыстэмы павінен у працягу плянуемага пяцігодзьдзя высока ўзьняць актыўнасьць рабочых і сялянскіх мас, якія ёю арганізуюцца, і такім чынам забясьпечыць поўнасьцю выкананьне вызначанага пляну разгортваньня работ спажыўсыстэмы ў мэтах нанясеньня рашучага ўдару спэкуляцыйным і кулацкім элемэнтам і стварэньня найбольш спрыяючых умоў для разьвіцьця ўсяе народнае гаспадаркі рэспублікі і падняцьця дабрабыту працоўнага насельніцтва.

---

Г. Хаскін

# Аб чыстцы каапэрацыйнага апарату

Пытаньне аб чыстцы савецкага, гаспадарчага і гандлёва-каапэрацыйнага апарату ў сучасны час пераходзіць з галіны размоў і абгаварэньняў у практычнае яго зьдзейсьненьне. Пачатак чысткі вызначаны з першых дзён мая.

Для ўсіх зусім ясна, што генэральная чыстка ставіць перад сабой задачу ачысьціць савецкі, гаспадарчы і гандлёва-каапэрацыйны апарат ад усіх чужых і варожых пралетарскай дзяржаве элемэнтаў, г. зн. былых паноў, фабрыкантаў, царскіх чыноўнікаў, актыўных дзеячоў контр-рэвалюцыі, гандляроў, кулакоў, а таксама ад усіх злосных бюракратаў, растратчыкаў, хабарнікаў, п'яніц і г. д.

Часу засталося мала, адсюль зусім правільнае пытаньне, ці ўсё мы зрабілі ў сябе для таго, каб быць поўнасьцю гатовымі да гэтае чысткі,

бо зусім ясна, што без дапамогі шырокіх мас рабочых у горадзе, бядняцкіх і батрацкіх мас на вёсцы і кожнага паасобку адданага і добрасумленнага працаўніка ў установе, органы ЦКК НКРСІ, пад кіраўніцтвам якіх будзе праходзіць гэтая чыстка, з гэтаю работаю ня справяцца. Пагэтаму зараз асабліва важна ў інтарэсах пасьпяховасьці чысткі праверыць, наколькі мы сапраўды да яе падрыхтаваны. Асаблівае значэньне набывае генэральная чыстка нашых каапэрацыйных апаратаў. Спажывецкая каапэрацыя, якая мае справу з шырачэйшымі масамі рабочых і сялян, якая зьдзяйсьняе смычку гораду з вёскай праз таваразварот, патрабуе, каб выкананьне гэтае вялікае і важнае задачы знаходзілася ў руках сапраўды рэвалюцыйнага апарату, адданага справе і які ўмеў-бы цьвёрда, безадгаворачна праводзіць клясавую лінію ў рабоце.

Ці можа хто ўзяць на сябе адказнасьць сказаць, што наш апарат, пачынаючы ад цэнтральнага і канчаючы спажывецкім таварыствам, сапраўды зьяўляецца такім. Ніхто сказаць гэтага ня можа, а, наадварот, можна і трэба сказаць, што наш апарат дужа засьмецьцены, што ў нашым апараце дужа многа чужых і варожых нам элемэнтаў (хабарнікаў, растратчыкаў і п'яніц), якія сваім прабываньнем у апараце ня толькі падрываюць аўтарытэт усяе сыстэмы, якая выконвае найадказьнейшую задачу, але прыносяць вялізарнейшыя страты, а часта і простае шкодніцтва. Мы ў нашай практычнай рабоце дужа часта сустракаемся з абураючымі фактамі скрыўленьня клясавае лініі, асабліва ў нізавым зьвенчаку нашае сыстэмы (вёска), бюракратычных скажэньняў, грубага нячулага, непралетарскага падыходу да абслугоўваньня спажыўца.

Мы маем цэлы шэраг выпадкаў, калі асобныя працаўнікі нашае сыстэмы, асабліва зараз, калі мы перажываем цэлы шэраг цяжкасьцяй, немагчымасьці поўнага здавальненьня асобнымі таварамі і прадуктамі харчаваньня на попыт, які нам даецца, ня толькі не растлумачваюць нашаму спажыўцу і наогул працоўным аб прычынах гэтых недастач, але, наадварот, займаюцца антысавецкай агітацыяй: „што, гэта яшчэ нічога, будзе горш, запасецеся хутчэй тымі таварамі, якія ёсьць", альбо: „дурань, хлеб здаеш у каапэрацыю, а сам потым будзеш з голаду мерці".

XII зьезд КПБ(б) па пытаньню аб грубых і бюракратычных адносінах да абслугоўваньня працоўных мас даў зусім пэўную ўстаноўку. Ён сказаў: „КК РСІ разам з прафсаюзамі абавязаны асабліва павесьці жорсткую барацьбу з грубымі бюракратычнымі адносінамі працаўнікоў апарату да працоўных наведвальнікаў, вычышчаючы вінаватых у гэтым і прыцягваючы іх да суровае адказнасьці за сабатаж і шкодніцтва перад пралетарскаю дзяржаваю".

У нашай загатоўчай рабоце патрабуюцца асабліва добраякасныя адносіны да прыёмкі тых альбо іншых відаў сельска-гаспадарчае сыравіны, якая здаецца нам сялянствам. Аднак, мы маем шмат фактаў, калі асобныя загатоўчыя працаўнікі, асабліва з нядаўніх гандляроў, ужываюць мэтады гандлярства, а часамі і проста жульніцтва, сьвядома ўносячы перабоі, а часамі і дэзарганізацыю, на загатоўчым рынку. Выкананьне пляну загатовак па хлебу пры наліччы некаторых цяжкасьцяў у нармальным забесьпячэньні насельніцтва мае асабліва важнае значэньне. Ёсьць выпадкі, калі асобныя кулацка-настроеныя працаўнікі ўваходзяць у розныя згоды з кулакамі-млынарамі, памяншаюць вызначную суму хлеба да здачы, самі выступаюць на судзе ў якасьці сьведак, што гэты млынар сапраўды ня можа здаць вызначаную колькасьць хлеба, і тым самым злосна зрываюць выкананьне пляну.

Вось таму зараз, калі перад намі стаяць найадказьнейшыя, вялікія задачы, вызначаныя нашай партыяй па індустрыялізацыі краіны, уздыме сельскае гаспадаркі, калі на шляху зьдзейсьненьня гэтых задач мы сустракаем

шэраг цяжкасьцяй, калі наш клясавы вораг з усёю ярасьцю на асобных вучастках нашае працы робіць наступ, нам неабходна з усёю рашучасьцю выкінуць з апарату нашае сыстэмы ўвесь гэты нягодны, варожы, які шкодзіць нашай рабоце, элемэнт, а для зьдзейсьненьня гэтае задачы нам трэба, пакуль яшчэ ня позна, мабілізаваць увагу рабочых, батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас, а таксама наш каапэрацыйны актыў для таго, каб пры іх дапамозе мы сапраўды здолелі знайсьці гэтых канкрэтных насіцеляў зла.

XII зьезд КП(б)Б па пытаньню прыцягненьня мас да гэтае чысткі сказаў: „зьезд выказваецца за неабходнасьць правядзеньня гэтае работы (чысткі) гласна з шырокім прыцягненьнем рабочых мас друку і партыйна-савецкае грамадзкасьці.

Побач з правядзеньнем гэтае работы перад нашай сыстэмай павінна паўстаць з усёю вострасьцю пытаньне высоўваньня і падрыхтоўкі новых сапраўды-пралетарскіх кадраў. Гэтую работу трэба таксама без усялякага адкладу пачаць зараз-жа падрыхтоўваць. Маючы вялізарнейшы каапэрацыйны актыў як у горадзе, так і на вёсцы, нам лягчэй, чым каму-б ні было, высунуць неабходную колькасьць людзей для замяшчэньня тых, якіх вычысьцяць, бо ні адну хвіліну нельга забыцца на рашэньне XII зьезду КП(б)Б, дзе сказана: „устанавіць самую суровую адказнасьць кіраўнікоў установаў за прыём вычышчаных. Ясна, што пры чыстцы нашага каапэрацыйнага апарату нам таксама трэба ў мэтах недапушчэньня цэлага шэрагу памылак, перагібаў і г. д. асноўвацца ня толькі на фармальныя вызначэньні на таго ці іншага працаўніка ў адносінах належнасьці яго да так званых „былых людзей“; тут давядзецца кіравацца рэвалюцыйнай мэтазгоднасьцю пры пакіданьні таго ці іншага працаўніка на рабоце, бо сярод гэтых людзей „былых“ ёсьць шмат каштоўных і адданых нашай рабоце. Адсюль відаць, якую вялізарнейшую работу ў справе дапамогі органам ЦКК РСІ пры правядзеньні гэтае генэральнае чысткі мы павінны правесьці, бо толькі пры правядзеньні гэтае работы нам сапраўды ўдасца ачысьціць і ўзмацніць наш каапэрацыйны апарат і тым самым у значнай меры забясьпечыць правядзеньне тае вялікае і адказнае работы, якая ўскладзена нашай партыяй на сыстэму спажывецкае каапэрацыі.

---

Аграном Кудзінаў

# Папярэднія вынікі калгаснага будаўніцтва ў БССР да пачатку вясновае пасеўнае кампаніі

Апошнія паўтары гады адзначыліся ў БССР буйным ростам калгасаў. Колькасьць іх павялічылася ў 3 разы. Гэта сьведчыць аб тым, што бядняцка-серадняцкія масы БССР маюць надзвычайна вялікую цягу да калектывізацыі.

Разам трэба і сказаць, што калгасы ў асноўнай сваёй масе гаспадарча ўзмацніліся, павялічылі сваю вагу ў таваразвароце вёскі, ідуць уперадзі яе ў сэнсе прыкладных культурных спосабаў вядзеньня гаспадаркі.

Аднак у калгасным руху на Беларусі ёсьць і шмат недахопаў, з якіх асноўнымі зьяўляюцца значная колькасьць дробных калгасаў і недастатковасьць узбуйненьня тых, якія ўжо існуюць, малая прадукцыйнасьць працы, слабы тэмп індустрыялізацыі, неналаджанасьць унутранага распарадку іх і інш.

У мэтах разьвіцьця і ўзмацьненьня будаўніцтва калектыўных гаспадарак СНК БССР пастанавіў: павялічыць у 1928-29 г. сель.-гас. зямельную плошчу ў калгасах ня менш, як на 50.000 гэкт., зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўзбуйненьне існуючых калгасаў праз уцягненьне ў іх большае колькасьці бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак і куставаньне суседніх калгасаў, узяць рашучы курс на арганізацыю больш буйных калгасаў, завесьці ў новых калгасах, якія ўтвараюцца на землях працоўнага карыстаньня, у сярэднім да 140 гэкт., а на ДЗМ да 500 гэкт., арганізаваць у 1929 г. ня менш 30 буйных калгасаў і г. д.

## Дырэктывы ўраду пакуль што ня выкананы

Як-жа выконваюцца на мясцох гэтыя дырэктывы ўраду у адносінах калектывізацыі?

Трэба канстатаваць, што ў той час, калі калгасны рух на Беларусі пачынае шпарка разгортвацца, яшчэ ня ўсюды з боку мясцовых партыйных, савецкіх і каапэрацыйных арганізацый дастаткова праяўлена ініцыятыва і сталае кіраўніцтва ў практычнай працы па арганізацыі буйных і ўзбуйненьню тых калгасаў, якія ўжо існуюць.

Агульная колькасьць арганізаваных на 1/X-28 г. калгасаў складае 996 адзінак, пры чым сярэдняя зямельная плошча аднаго калгасу дасягае толькі 91,2 гэктара. Найбольш буйныя па памерах калгасы арганізаваліся ў Мазырскай і Магілеўскай акругах. Сярэдні памер калгасаў па БССР у гэтым, 1928-29 г., наогул павысіўся да 123 гэкт. Але гэтага мала. Такім чынам дырэктывы ўраду аб павялічэньні плошчы ўноў арганізуемых калгасаў да 140 гэкт. па БССР ня выкананы.

Па няпоўных вестках, на 1 красавіка арганізавана 287 новых калгасаў на плошчы 35.221,85 гэкт.; выкананьне пляну БКалгаса на 83,5 проц.

## Папярэдзі Гомельшчына і Бабруйшчына

У той час, калі ў галіне арганізацыі ў гэтым годзе больш менш буйных калгасаў папярэдзі ідуць Гомельская і Бабруйская акругі, Мазырская і Полацкая адстаюць, а Аршанская, Менская, Бабруйская і Віцебская цягнуцца ў хвасьце.

Гэта сьведчыць аб недастатковай нарыхтаванасьці да арганізацыі калгасаў некаторых акруг.

## Як ствараюцца буйныя калгасы?

У дачыненьні арганізацыі буйных калгасаў на чале стаіць Бабруйская акруга. Там арганізаваны калгас імя 11-годзьдзя Кастрычнікавае рэвалюцыі з 73 двароў на плошчы каля 1.000 гэкт. Калгас Пераможац зьліўся з Расьсьветам і пасьля ўзбуйненьня атрымаў агульную плошчу каля 1.000 гэкт.

Калгас „Луч Камуны“, узбуйнены на 65 гаспадарак, цяпер налічвае 76 гаспадарак на плошчы каля 700—800 гэкт.

На Случчыне з хутароў вёскі „Сьліва“ арганізаваны калгас у 45 двароў.

У Мазырскай акрузе калгас „Чырвоная вёска“, з 23 сямей, на плошчы 557 гэкт., прыняў статут сел.-гас. кам., пад назвай „Авангард“.

Прыступлена да юрыдычнага афармленьня 3 буйных калгасаў, з плошчаю зямлі ня менш 600 гэкт. У Пятрыкоўскім раёне арганізуецца калгас на плошчы у 1.000 гэктараў.

У Магілеўскай акрузе арганізаваўся калгас на плошчы 1005 гэктараў, у якім аб'ядналася 134 двары.

У акрузе рыхтуецца арганізацыя шэрагу буйных калгасаў.

У Гомельскай акрузе з 32 ўноў арганізаваных калгасаў—20 створаны на плошчы ад 200 да 600 гэктараў. Ёсьць калгасы, арганізаваныя на плошчы да 1000 гэктараў. Узбуйненьне праводзіцца, галоўным чынам, за кошт далучэньня сялянскіх гаспадарак з навакольных пасёлкаў і вёсак.

У Полацкай акрузе ўзбуйнена 9 калгасаў, якія маюць наогул 942—1443 гэктараў праз далучэньне гаспадарак навакольнага сялянства.

### Бліжэйшыя задачы

У далейшым на мясцох трэба ўсю працу па калектывізацыі перастроіць у напрамку арганізацыі больш буйных калгасаў і ўзбуйненьня існуючых, распрацаваўшы ўсе мерапрыемствы такім чынам, каб плян па калектывізацыі і дырэктывы ўраду былі выкананы.

Паколькі рух бядняцка-серадняцкіх мас сялянства Беларусі да калектывізацыі мае рэзка выражаны клясавы характар і прыводзіць да разгортваньня вакол сябе бязьлітаснае клясавае барацьбы на вёсцы, трэба забясьпечыць правільнае клясавае кіраўніцтва калгасным рухам, арганізаваць адпор кулаком, якія імкнуцца перакінуцца ў калгасы для выкарыстаньня сваіх інтарэсаў, і ўзмацніць рашучую барацьбу з ложнымі калгасамі і кулацкім уплывам унутры самога калгаснага руху.

На грамадзка-палітычную работу сярод членаў калгасаў трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу.

---

Каструлёў

## Аб дыфэрэнцыраваным паі

На спажывецкую каапэрацыю ў нас выпадае зусім выключная па свайму значэньню роля па прасоўваньню тавараў да спажыўца гораду і вёскі. Яна надае сабою адзін з асноўных элемэнтаў народнае гаспадаркі. Мы цяпер ужо не гаворым аб тым, што гэтая арганізацыя грамадзкага гандлю зьяўляецца найбольш мэтазгоднай і лепшай для нас формай. Гэта даказана вынікамі разьвіцьця і абхопам працы каапэрацыі.

Асноўнай задачай, якая вызначае далейшую працу сыстэмы, зьяўляецца забесьпячэньне ня толькі простага росту абхопу, сумы працы, але і радыкальнага паляпшэньня якасьці каапэрацыйнага абслугоўваньня. Магчымасьць далейшага пасьпяховага разьвіцьця ў значнай ступені вызначаецца менавіта тым, у якой меры будзе зьвязаны колькасны рост працы з якасным яго ростам.

Вырашэньне пытаньня якаснага паляпшэньня каапэрацыйнага абслугоўваньня зьяўляецца найбольш сур'ёзным і цяжкім зараз, калі каапэрацыя, амаль поўнасьцю вычарпаўшы матар'яльна-тэхнічную базу, якая ў яе мелася, уваходзіць у паласу каранное рэканструкцыі, што патрабуе ўкладаў вялізарных капіталаў.

Нельга сур'ёзна думаць аб правядзеньні сапраўднае рацыяналізацыі працы, аб пераходзе ад азіяцкіх мэтадаў гандлярства да культурнага гандлю без арганізацыі складзкае гаспадаркі, без пабудовы шырокае сеткі гандлёвых памяшканьняў у горадзе і ў вёсцы, не праводзячы мэханізацыі хлебапячэньня, пабудовы новых сталовак, грамадзкіх кухань, не павялічыўшы наогул тэхнічнага абсталяваньня гандлёвых і вытворчых пунктаў.

Зусім яскрава, што вырашэньне ўсіх гэтых пытаньняў мяркуе праядзеньне рашучай мабілізацыі сродкаў спажыўцоў, бо разьлічваць на атрыманьне вялікіх сродкаў з дзяржавы мы ня можам. На індустрыялізацыю краіны, на мерапрыемствы па ўздыму сельскае гаспадаркі ідзе асноўная маса дзяржаўных сродкаў.

*Патрэбы ў капіталах гандлёвага сэктару павінны пакрывацца сродкамі самых спажыўцоў.* Зьдзейсьненьне пляну капітальнага будаўніцтва, неабходнасьць разгортваньня зваротаў ня толькі дзякуючы таварным попытам спажыўца, але і ў сувязі з хуткім уходам з рынку прыватнага гандлю, патрабуе павялічэньня ўдзелу пайшчыкаў у стварэньні капіталаў спажыўкаапэрацыі. Да гэтага часу ён быў зусім нязначным. Зусім яскрава, што спажыўцу трэба ісьці на фарсіраванае і падвышанае паянакапленьне так, каб забясьпечыць пры гэтым найбольш правільнае разьмеркаваньне цяжару на асобныя групы насельніцтва. Да гэтага часу памер паявых ўзносаў не зьяўляўся пытаньнем прынцыповым, паколькі яго ўзровень наогул быў нязначны, але цяпер, пры падвышэньні ролі гэтых капіталаў, мы ня можам не правесьці мяжы паміж бедняком і заможным, паміж рабочым кваліфікаваным і тым, які мае невялікі заробак.

Вось чаму ў спажывецкай сыстэме ўводзіцца з гэтага году дыфэрэнцыраваны пай, пай розных памераў для асобных груп насельніцтва ў залежнасьці ад іх прыбытку альбо заробку.

Для сельскага насельніцтва, якое займаецца сельскай гаспадаркай, устаноўлены пай трох памераў у залежнасьці ад гаспадаркі:

1. Для вызваленых ад сельгаспадатку пай . . . . . . . . . . . 10 руб.
2. „ тых, якія плоцяць падатак без надбаўкі і з надбаўкай . . 25 „
3. „ „ „ „ у індывідуальным парадку . . . . . . . 40 „

Разьмеркаваньне гаспадарак у Беларусі па гэтых групах зараз уяўляецца так: першае групы—35 проц., другое—64 проц., і трэцяе групы—1 проц.

Для рабочых і служачых пай ўстанаўляецца ў залежнасьці ад прыналежнасьці іх да аднае з пяці наступных груп:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Для атрым. зарплату да | 50 | руб. . . . . . . | 15 руб. |
| 2. „ „ „ | 50—100 | „ . . . . . . | 20 „ |
| 3. „ „ „ | 100—150 | „ . . . . . . | 30 „ |
| 4. „ „ „ | 150—225 | „ . . . . . . | 40 „ |
| 5. „ „ „ | звыш 225 | „ . . . . . . | 50 „ |

Саматужнікі ў адносіне паю ў залежнасьці ад прыбыткаў прыраўніваюцца да аднае з гэтых пяці груп.

Для другіх членаў сям'і сялян, служачых, рабочых і саматужнікаў першых двух груп (якія атрымоўваюць заробак да 100 р.) памер паю устаноўлены ў $^1/_4$ частку ад паю асноўнага члена сям'і, а для тых, якія атрымоўваюць зарплату звыш 100 руб., у $^1/_3$.

Для інвалідаў працы РСЧА, якія атрымоўваюць дапамогу ад сабезу да 50 руб. у месяц, памер паю ўстаноўлены ў 5 руб. па вёсцы і 7 р. 50 к. па гораду. Чырвонаармейцы, чырвонафлётцы і малодшы камандны склад уносяць у каапэрацыю толькі ўступны ўзнос 50 коп.

Адначасова з дыфэрэнцыяцыяй памераў паю ў залежнасьці ад становішча гаспадаркі асобных груп сялянства ўстанаўляюцца і розныя тэрміны ўзносу: для першае групы сялян (10 руб.) ад трох да пяці год, для

другое групы (25 руб.) ад аднаго году да трох год і трэцяе групы (40 р.) ад 6 да 18 месяцаў. Такім чынам, тут улічваецца ня толькі становішча асобных груп сялянства і больш моцных з іх, якія павінны ўносіць большыя сумы ў меншы тэрмін, але і ўнутры асобных груп устанаўляецца адпаведная градацыя тэрмінаў.

Для рабочых і служачых усіх груп час узносаў вызначаны ў два гады. Другія члены сям'і ўносяць паі ў час, які адпаведны тэрміну асноўных членаў. Дыфэрэнцыраваны пай азначае сабой каранную ломку існуючых адносін да паю, ён павінен дысцыплінаваць пайшчыкаў да акуратнага выкананьня паявых абавязкаў.

Вось асноўныя меркаваньні аб дыфэрэнцыраваным паі. Урэшце трэба сказаць, што ўвядзеньнем гэтае сыстэмы паявых ўзносаў, якая носіць яскрава выказаны клясавы характар, мы адкідаем прынцып усеагульнай роўнасьці пазаклясавасьці. Гэта павядзе ў новы этап разьвіцьця—паласу сацыялістычнай рэканструкцыі.

---

**Карп**

## Пэрспэктывы саматужніцкае каапэрацыі

*(З прамовы на апошняй сэсіі савету Белсампрамсаюзу)*

У нас ёсьць вядомая пастанова СНК і вышэйшых партыйных органаў па пытаньні сампрамкаапэрацыі. Надзвычайна характэрна таксама выступленьне тав. Молатава на апошняй Маскоўскай канферэнцыі, дзе ён адзначыў некаторыя моманты працы сампрамкаапэрацыі.

Як-жа ў нас на Беларусі павінна праводзіцца гэтая праца?

У саматужных промыслах у нас занята 79.000 чалавек,—у два разы больш, як у цэнзавай промысловасьці. Валавая прадукцыя саматужных промыслаў у нас, на Беларусі, улічваючы і тое, што цэлы шэраг промыслаў працуе на сыравіне заказчыкаў, паводле статыстыкі вызначаецца ў 162 000.000 руб. Лічба гэта вялікая. Прамкаапэрацыя да гэтага часу здолела абхапіць у арцельныя формы толькі 26 проц. саматужнікаў. У нас на Беларусі, бясспрэчна, ёсьць вялікія магчымасьці, каб разьвіць сампрамкаапэрацыю ў тых промыслах, якія ў нас ёсьць. Значыць, справа ня ў тым, якія галіны можна разьвінаць, і якіх нельга, але справа ў тым, каб ахапіць каапэрацыяй тыя галіны, якія існуюць і якія працуюць.

У нас яшчэ ёсьць не каапэраваныя і не ахопленыя сыстэмаю саматужнікі. А яны-ж таксама працуюць і даюць вядомую карысьць, і іх вытворчая праца ідзе на наш рынак і павялічвае таварную масу. Трэба яшчэ многа працаваць, каб іх абхапіць.

Якія галіны можна разьвіць? Цэлы шэраг галін у нас яшчэ мала абхоплены. Ганчарэйная галіна, рымарства і іншыя промыслы ў нас яшчэ мала разьвіты, ня глёдзячы на тое, што ў даваенны час на Беларусі яны былі. Яшчэ слаба разьвіты цэлы шэраг вясковых промыслаў, якія таксама ў даваенны час былі больш разьвіты, чымся цяпер, асабліва ў Мазырскай і б. Калінінскай акругах.

ВСНГ Саюзу, адзначаючы вельмі значную ролю саматужных промыслаў у народнай гаспадарцы БССР, лічыць неабходным зьвярнуць на гэтую справу сур'ёзную ўвагу і даручае саматужкамітэту пры ВСНГ Саюзу ўжыць усе захады, каб узмацніць каапэраваньне ў Беларусі саматужнае прамысловасьці, а таксама ўжыць усе захады да больш поўнага забесьпячэньня сампрамкаапэрацыі Беларусі неабходнымі сродкамі.

Такая вось досыць ясная дырэктыва была дана нашым вышэйшым саюзным гаспадарчым органам, і яна, бясспрэчна, будзе рэалізавана ў далейшым, калі мы будзем на гэта націскаць.

Другі момант. Урадам у нас зараз вельмі шырока пастаўлена пытаньне пра мястэчкі. І тут зусім ясна, што трэба разьвінуць большую працу, чымся гэта было да гэтага часу. Белсампрамсаюз у гэтым пытаньні павінен быць ня-толькі павадыром, але і штурхачом, ініцыятарам, таму што ў нас ёсьць сумнівы, ці ўдасца нам правясьці ўсе гэтыя рашэньні, калі ў гэтых адносінах ня будзе адпаведнай ініцыятывы з боку самых мас, якія могуць быць арганізаваны сампрамкаапэрацыяй.

124.000 руб., якія сёлета даны сампрамкаапэрацыі, зьяўляюцца толькі пачаткам. У наступным годзе нам дадуць яшчэ большую суму. Для ўраду не будзе іграць вялікае ролі даць больш на 20 ці 50 тыс. руб., але трэба паказаць, што праводзіцца нейкая праца, і тады можна будзе забясьпечыць сябе грашыма.

У Маскве ў бягучым годзе на бюджэтнай камісіі ЦВК Саюзу была прынята спэцыяльная пастанова павялічыць агульныя асыгнаваньні для беларускае каапэрацыі, выходзячы з таго, што трэба ўзмацніць фінансаваньне сампрамкаапэрацыі. У гэтых адносінах будзе адыгрываць вялікую ролю тое, як мы зможам разьвіць сваю ініцыятыву, каб забясьпечыць сябе сродкамі. Некаторыя таварышы выказвалі сумневасьць, ці атрымаюць яны тыя сродкі, якія былі адпушчаны. Магчыма, што сёлета сродкі былі даны з вялікім спазьненьнем, бо ўвесь наш бюджэт распрацованы вельмі позна. У апошнім квартале гэтыя грошы будуць цалкам атрыманы.

Цяпер я хачу заватрыць яшчэ некалькі пытаньняў. Хачу адзначыць пра нацыянальныя пытаньні ў нашай саматужнай каапэрацыі наогул. Мы павінны так пабудаваць нашу саматужную каапэрацыю і ахоп саматужных промыслаў з улікам таго, што пытаньне саматужнае каапэрацыі ў Беларусі зьяўляецца ня выключна яўрэйскім пытаньнем, і, значыць, увага, якая аддаецца партыяй і ўрадам пытаньню саматужнае каапэрацыі, вырастае з рамак еўбюро, як спэцыяльнае яўрэйскае пытаньне, і зьяўляецца агульным пытаньнем. Тут павінна быць праведзена адпаведная праца. У сэнсе абгаварэньня і адпаведнае ўвязкі на мясцох пытаньне павінна быць пастаўлена куды шырэй. Было-б' надзвычайна шкодным для сампрамкаапэрацыі, каб на мясцох гэтае пытаньне разглядалася ў абмяжованых рамках, як яўрэйскае пытаньне. Тут у сэнсе пашырэньня і ахопу саматужнікаў павінна быць аддана вялікая ўвага ахопу ўсіх саматужнікаў, асабліва саматужнікаў вясковых. У гэтай справе мы яшчэ ўсяго не зрабілі. Але і тут павінна быць праяўлена шмат энэргіі. Пытаньне ахопу вясковага саматужніка ставіцца яшчэ сур'ёзней таму, што асноўнае пытаньне—гэта пытаньне аграрнае перанасялёнасьці нашае краіны. Вось чаму пытаньне сампрамкаапэрацыі мы ня можам паставіць, як местачковае пытаньне. Патрэбны самы рашучы пералом у сэнсе ўсяе ўстаноўкі і падыходу да арганізацыі сампрамкаапэрацыі. Рамкі ахопу вясковага саматужніка павінны быць пашыраны. Гэта адна з баявых палітычных задач.

Я не кажу, што ва ўсім гэтым вінавата саматужная сыстэма. Але пытаньні якасьці адыгрываюць вялікую ролю. Наша прадукцыя ня можа прадавацца на беларускім рынку ці ў тых гарадох, дзе яна выраблЯецца. Яна павінна пайсьці на больш шырокі рынак, і таму-та нам трэба зьвярнуць вялізную ўвагу на якасьць.

Нарэшце, яшчэ адно вельмі важнае пытаньне ўзмацненьня нашае сыстэмы. Тут і пытаньне дысцыпліны, і пытаньне рэгуляваньня, і фінансавае дысцыпліны, і у сэнсе кіраўніцтва ў паасобных пытаньнях,—зарплаты, жыцьця ўнутры арцеляй і г. д. Нельга дапускаць такіх зьявішчаў, каб кожны рабіў, што хоча. Трэба рэгуляваць так, каб трымаць усю справу

ў руках, каб ня было такіх зьявішчаў, калі ў адных і тых самых галінах зарплата даходзіць да 270 руб. у адным месцы, а ў другім толькі дасягае 30 руб. Калі гаварыць па „саматужніцку“, што, маўляў, не звяртайце на гэта ўвагі, няхай кожны жыве як хоча,—тады мы бясспрэчна дойдзем да таго, што ў нас будзе не саматужная каапэрацыя, а будзе збор вальнадумцаў. Таму-та пытаньні дысцыпліны і рэгуляваньня, бязумоўна, іграюць вялікую ролю.

Некалькі слоў пра агульныя ўстаноўкі ў адносінах да сампрамкаапэрацыі. Я лічу магчымым, што сампрамкаапэрацыя ў нас можа разьвівацца таму, што наша дзяржпрамысловасьць і каапэрацыя разьвіваюцца ў значнай ступені за лік агульнасаюзных рынкаў, якія зараз перажываюць вялікі таварны голад. Гэты таварны голад, відаць, будзе цягнуцца ў працягу бліжэйшых гадоў. Мы ў сваёй пяцёхгодцы прадбачым вельмі вялікі рост дзяржпрамысловасьці і разьлічваем на агульнасаюзныя рынкі.

Сампрамкаапэрацыя разьвілася і ўзмацнілася. Яна павінна будзе і далей перарастаць з сампрамкаапэрацыі ў прамыслова-дзяржаўныя прадпрыемствы, так сказаць, у паслядова-сацыялістычны тып. Зусім ясным павінна быць, што для будучыні цэлага шэрагу паасобных узмоцненых і разьвінутых арцеляй нам максымальна прыдзецца ісьці па шляху рацыяналізацыі, што ў будучыні нам будзе яшчэ цяжэй. Нам прыдзецца ісьці да шэрагу паасобных узмоцненых арцеляй, яны будуць перарастаць, будуць мэханізавацца і зробяцца як прадпрыемствы цэнзавае дзяржпрамысловасьці. Я думаю, што тады ўжо ня будзе вялікай розьніцы ў сэнсе зарплаты паміж аднымі і другімі.

---

Ан. Ракіта

# Барацьба за ўраджай—галоўная задача каапэрацыі

Савецкая ўлада і камуністычная партыя зварочваюць вельмі вялікую і сур'ёзную ўвагу пытаньням падвышэньня ўраджайнасьці сельскае гаспадаркі.

Да гэтае вялікае і адказнае задачы павінна быць прыкавана ўвага ўсяе савецкае і каапэрацыйнае грамадзкасьці, усяе рабочае і сялянскае масы. Трэба ўсім добра ведаць, што правядзеньне генэральнае лініі індустрыялізацыі нашае краіны пачынае ўпірацца ў маруднае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі. Калі мы ў прамысловасьці ўжо перасягнулі даваенны ўзровень, дык у сельскай гаспадарцы мы яшчэ не дайшлі да гэтага. Разам з тым патрэба ў хлебе з кожным годам павялічваецца. Растуць нашы прамысловыя цэнтры, якія патрабуюць усе больш і больш хлеба, патрабуе яго і шырока-разгорнутае капітальнае будаўніцтва, дзе заняты вялізарныя масы будаўнічых рабочых, адбіваецца гэта і ў сувязі з прыростам насельніцтва.

Трэба сказаць, што рост, які мы мелі ў сельскай гаспадарцы, не пасьпявае за агульным ростам краіны, а таму нам неабходна дасягнуць падвышэньня гэтага росту. Мы ўсе павінны памятаць, што гэта зьяўляецца тым гаспадарчым заданьнем, якое павінна быць поўнасьцю выканана.

Кулак часамі падбівае серадняка не пашыраць пасеўнае плошчы. Мы павінны ў адказ яму арганізаваць усе бядняцка-серадняцкія масы вёскі вакол пытаньня падвышэньня ўраджайнасьці і павялічэньня пасеўнае плошчы. Надзвычайна многа ў гэтым можа зрабіць каапэрацыя ўсіх відаў і асабліва сельска-гаспадарчая.

Падвышэньне ўраджайнасьці—задача ня толькі сёньняшняга дню, а яна павінна стаяць заўсёды ў цэнтры нашае ўвагі. У сельска-гаспадарчай тэхніцы мы стаім яшчэ надзвычайна нізка, а гэта раней усяго шкодна адбіваецца на матар'яльным становішчы селяніна. Якія-ж прасьцейшыя мерапрыемствы з тых, што могуць значна падвысіць ураджайнасьць нашых палёў, якія можна зрабіць зараз? Возьмем, напрыклад, барацьбу са шкоднікамі. На гэтую барацьбу да гэтага часу зьвярталася зусім мала ўвагі, а шкоднікі прыносяць вельмі шмат шкоды, і селянін у барацьбе з імі раней выступаў толькі з адным сродкам—папоўскім малебнам. Трэба навучыць і нашага селяніна пасьпяховай барацьбе са шкоднікамі. Тады будуць захаваны сотні мільёнаў пудоў хлеба. Каапэрацыя-ж практычна ў гэтай справе ўдзельнічала надзвычайна мала, а яна можа зрабіць шмат. Неабходна барацьбу са шкоднікамі сельскае гаспадаркі ўвесьці ў плян практычнае працы гаспадаркі.

Другім вялікім недахопам у нашай сельскай гаспадарцы зьяўляецца вялікая засьмецьценасьць нашых палёў, што значна зьніжае ўраджайнасьць. Ужо задужа на нашых палёх многа красак. Мы павінны павесьці барацьбу за зьнішчэньне гэтых красак. Засьмецьценасьць палёў тлумачыцца шэрагам прычын. Адна з галоўных бед—гэта вялікая цераспалосіца і багатая колькасьць меж. Трэба ўсё больш і больш тлумачыць селяніну, якую шкоду прыносяць дробныя палоскі з межамі. Барацьба за зьнішчэньне межаў павінна стаць адной з чарговых практычных задач. Другая прычына засьмецьценасьці—гэта дрэнная ўспашка палёў. Дробнае ральлё ня зьнішчае крыніц сьмецьцевых траў, і яны зноў зьяўляюцца. Трэба растлумачыць селяніну, каб ён усюды ведаў, што трэба пераходзіць ад ворава дзедаўскаю сахою да плугоў. Трэба растлумачыць селяніну і аб карысьці раньняга ворава.

Але галоўнае значэньне, канечне, маюць чыста гатунковае і высокагатунковае насеньне. Нашы палі засьмецьцены таму, мто мала ўдзяляецца ўвагі ачыстцы насеньня. Зараз павялічваецца забесьпячэньне трыерамі, і трэба зернаачысьцільную работу паставіць на належную вышыню. Трэба прывучыць селяніна да грамадзкае і каапэрацыйнае ачысткі насеньня. Разам з тым трэба весьці барацьбу ня толькі за ачышчаны насенны матар'ял, але і за высокаякасны матар'ял. Нашым урадам зараз праводзіцца вялізарная праца па стварэньню высокагатунковага насеннага фонду.

Падвышэньне ўраджайнасьці адначасова высоўвае задачу арганізацыі машыназабесьпячэньня вёскі. Каб падвысіць ураджайнасьць, трэба правільна арганізаваць забесьпячэньне сел.-гасп. машынамі і навучыць селяніна правільна карыстацца гэтымі машынамі, асабліва складанымі сельскагаспадарчымі машынамі.

У першую чаргу, канечне, неабходна пасылаць машыны ў саўгасы і калгасы, якія сапраўды павінны стаць паказальнікамі для ўсяго сялянства. Потым машыны павінны ісьці да абслугоўваньня бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Канечне, неабходна і тут машыназабесьпячэньне і абслугоўваньне індывідуальных гаспадарак паставіць праз грамадзка-каапэрацыйныя арганізацыі. Мы павінны дабіцца таго, каб ніводная машына не папала кулаку, бо машына ў руках кулака—сродак для закабаленьня бедняка.

Задача падвышэньня ўраджайнасьці яшчэ больш высоўвае неабходнасьць пашырэньня работы па контрактацыі. Кантрактацыя зьяўляецца адным з сродкаў падвышэньня ўраджайнасьці і матар'яльнай і вытворчай дапамогі бядняцка-серадняцкім гаспадаркам. Павялічэньне пасяўное плошчы

высоўвае неабходнасьць узмацненьня мэліорацыйных прац. Нам трэба ўзмацніць нашы мэліорацыйныя таварыствы і як можна часьцей правяраць іх працу.

Падвышэньне ўраджайнасьці паставіла перад краінаю выключную задачу ліквідацыі агранамічнае няпісьменнасьці сярод насельніцтва. Трэба, каб селянін ведаў усе дасягненьні сучаснае сельска-гаспадарчае навукі і тэхнікі. Каапэрацыя павінна павялічыць кадры аграномаў, спэцыялістаў па сельскай гаспадарцы, і праз іх арганізаваць працу на мясцох. Асабліва важная роля агранома-каапэратара, бо ў яго загадзе знаходзіцца арганізованае сялянства. Трэба толькі ўмець прывесьці каапэраванае сялянства ў рух.

Наступ на фронце сельскае гаспадаркі ідзе. Каапэрацыя павінна стаць у першыя шэрагі наступаючых!

---

А. Дубіна

# Якім павінна быць сельска-гаспадарчае крэдытнае таварыства

У сувязі с разьвіцьцём крэдытнае і сел.-гасп. каапэрацыі і правадзімай спэцыялізацыяй яе паўстае пытаньне, што трэба зрабіць, каб нізоўка, якая вельмі загружана рознаю работай і кепска працуе, добра выконвала крэдытную працу, каапэраваньне насельніцтва, апэрацыі па збыту, забесьпячэньню і калектывізацыі сельскае гаспадаркі, каб крэдытныя т-вы маглі зараз-жа саўладаць з асноўнаю работаю па прыцягненьню сродкаў насельніцтва і мабілізацыі сродкаў унутры самой сельскай гаспадаркі, добра наладзіўшы арганізацыйны бок справы на вёсцы, без чаго мы ня будзем мець магчымасьці выканаць галоўнейшую задачу па ўздыму ўраджайнасьці.

На III-м усесаюзным зьезьдзе сыстэмы сел.-гасп. крэдыту ў Маскве некаторымі работнікамі было высунута пытаньне аб утварэньні чыстае крэдыткі, альбо нават раённага банку з разрахунковымі функцыямі, каб гэтым мець адзіную банкаўскую сыстэму сел.-гасп. крэдыту без пасярэдніцкіх функцыяў па забесьпячальна-збытавых апэрацыях. Сельска-гаспадарчы крэдыт павінен быць шчыльна і непасрэдна зьвязаны з усімі вытворчымі мерапрыемствамі па рэканструкцыі і каапэраваньню сельскае гаспадаркі, каб пры дапамозе крэдытам маглі пасоўваць уперад тыя працэсы сацыялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі, якія зараз разгарнуліся,—праводзячы правільную палітычную, клясавую лінію, усямерна дапамагаючы беднаце. Пагэтаму наша задача не павінна абмяжоўвацца толькі выдачай крэдыту і атрыманьнем за яго проценту.

Паколькі партыя і ўрад зацікаўлены і прымаюць усе практычныя захады да разьвіцьця і ўзмацненьня сацыялістычнага сэктару, а таксам і паасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, дабіваючыся ўздыму ўраджайнасьці, патолькі неабходна ня толькі выдаць крэдыт, а і праверыць праз каапэрацыйны актыў і дапамагчы праз агранома, каб крэдыт быў скарыстаны мэтазгодна і з магчымаю карысьцю для сельскае гаспадаркі. Паміж гэтага, мы практыкуем выдачу крэдыту натурай: сел.-гасп. машынамі, насеньнем, калёсамі і інш. рэчамі, а таксама пазыкі сялянствам у значнай частцы зварочваюцца натурай: хлебам, ільном, ільно-насеньнем і г. д. Мы праводзім праз нізоўку кантрактацыю. І калі мы павінны прыцягваць сродкі сялянства шляхам укладаў, задаткаў на набыцьцё сел.-гасп. машын, насеньня, ўгнаеньня і шэрагу іншых гаспадарчых мерапрыемстваў праз сел.-

гасп. крэдытныя таварыствы, дык адарванае ад вытворчае сель-гасп. каапэрацыі без пасярэдніцкіх функцыяў чыстае сель-гасп. крэдытнае таварыства ня зможа выканаць гэту задачу. Давялося-б побач з чыстымі крэдыткамі арганізаваць такую-ж па колькасьці спэцыяльную сетку збытазабесьпячальных таварыстваў сель-гасп. каапэрацыі бяз крэдытных функцыяў, што ні ў якім разе рабіць нельга, так як гэта зламала-б усю каапэрацыйную сыстэму на вёсцы і прымусіла-б мець вялікія дататковыя выдаткі на ўтрыманьне непатрэбнага апарату.

Пагэтаму зусім відавочна, што адарваць крэдыт ад сель-гасп. машыны, насеньня, ўгнаеньня, загатовак хлебу, лёну і прадукцы па кантрактацыі немагчыма. А для таго, каб сель-гасп. крэдытныя т-вы працавалі добра і маглі б лепш выканаць тыя задачы, якія ўскладзены на нізоўку, яе трэба паступова разгрузіць ад тых загатовак, якія павінны загатаўляць спэцыяльныя саюзы сель-гасп. каапэрацыі, як, напрыклад, скуры, рогі, капыты, конскі волас, яйкі і інш., што трэба перадаць малочна-жывёлагадоўчаму саюзу.

Адначасова з гэтым,—ажывіць работу саветаў, праўленьняў і рэвізійных камісій, лепш арганізаваць работу каапэрацыйнага актыву вакол крэдытных таварыстваў і апошнія зьвязаць у рабоце з групамі беднаты і сельсаветамі; не дапушчаць частых зьмен старшынь крэдытных таварыстваў (на працягу году зьмянілася 50 проц. складу старшынь); выгнаць з нізоўкі цяжарную складаную справаздачу і канцэляршчыну, якая не дае магчымасьці крэдытнаму таварыству займацца больш прадукцыйнай, жывой, гаспадарчай работай па сучаснаму; ускласьці, як правіла, на аднаго з членаў праўленьня крэдытную работу, каб ён ёю кіраваў і за яе адказваў пад агульным кіраўніцтвам і адказнасьцю ўсяго праўленьня, маючы пры гэтым пры праўленьні агранома для абслугоўваньня калгасаў, мэліорацыйных і машынных таварыстваў там, дзе гэта патрэбна.

Калі мы гэта зробім, а мы павінны гэта зрабіць, тады крэдытнае таварыства, пры неабходнай дапамозе мясцовых партыйных і савецкіх органаў, будзе добра працаваць і зьявіцца сапраўдным арганізатарам каапэраваньня сельскае гаспадаркі з прыцягненьнем і мабілізацыяй сродкаў на вёсцы неабходных для больш пасьпяховага ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў па ўздыму ўраджайнасьці.

*Ад рэдакцыі.* Рэдакцыя просіць таварышоў выказаць сваю думку па закранутаму тав. Дубіна пытаньню.

# ПРАКТЫКА НАШАЕ ПРАЦЫ

Г. Хаскін

## Да вынікаў гандлёвае нарады спажыўкаапэрацыі БССР

Спэцыялізаваная гандлёвая нарада сыстэмы спажыўкаапэрацыі па групе гаспадарчых тавараў, якая адбывалася 20 красавіка і была склікана па ініцыятыве Цэнтрасаюзу, дае магчымасьць канстатаваць, што яна сябе поўнасьцю апраўдала, і што падобныя нарады па асобных спэцыяльных сэктарах нашае гандлёвай работы трэба і ў далейшым практыкаваць.

На нарадзе былі прадстаўлены ўсе саюзы і аддзяленьні спажыўсыстэмы, амаль усе цэрабкопы, а таксама прадстаўнікі сындыкацкіх аддзяленьняў Беларусі.

Нарадаю было абмеркавана адно асноўнае пытаньне, якое выяўлена ў двух выніковых дакладах Цэнтрасаюзу і Белкаапсаюзу—гэта пытаньне аб гандлі групай гаспадарчых тавараў, г. зн. сілікатамі, мэталамі, нафтапрадуктамі і мэбляю, пад кутом погляду выяўленьня і зьнішчэньня цэлага шэрагу прычын, якія перашкаджаюць як самой нармальнай рабоце, так і далейшаму пашырэньню гандлёвай дзейнасьці сыстэмы гэтымі таварамі. Трэба адзначыць, што група гаспадарчых тавараў займае адно з выдатных месц у рабоце спажыўкаапэрацыі, і яна зьяўляецца асноўным праваднікам гэтай групы як у горадзе, так і на вёсцы. Як і трэба было чакаць, слабыя месцы ў рабоце былі падзелены ўдзельнікамі нарады на дзьве часткі, дзе, з аднаго боку, адзначаліся промахі, нягібкасьць, няўважлівасьць, невыстарчальная ацэнка важнасьці работы гэтымі таварамі, асабліва дастатковымі, самой сыстэмай, і, з другога—цэлы шэраг буйных недахватаў, якія дапушчаюцца паасобнымі сындыкатамі пры выкананьні гендагавораў.

Якія-ж слабыя месцы ў гандлёвай дзейнасьці гэтымі таварамі ёсьць у сапраўднасьці?

1. У галіне гандлёвай работы нафтапрадуктамі зусім выразна было падкрэсьлена, што сыстэма генэральных згод, якая практыкуецца да апошняга часу, не дае магчымасьці ўстанавіць адзінага, уніфікаванага мэтаду разьлікаў і скідак, і што імкненьні Нафтасындыкату да захаваньня зараз існуючага парадку і на далейшы час, угрунтаваны выключна на жаданьні сындыкату захаваць свой апарат на мясцох. Нарадаю была зьвернута ўвага таксама і на няправільнасьць лініі Нафтасындыкату пры перадачы спажыўсыстэме сваіх складаў, якая выявілася ў перадачы выключна тых складаў, якія зьяўляюцца дэфіцытнымі для яго. Такіх нафтаскладаў перадана сыстэме 11. Між тым ёсьць шэраг нафтаскладаў, дзе спажыўкаапэрацыя зьяўляецца спажыўцом нафтапрадуктаў амаль на 90 проц., і, ня гледзячы на настойлівыя просьбы аб перадачы гэтых складаў каапэрацыі, Нафтасындыкат ўпарта адмаўляецца ад перадачы. І зусім правільна нарада пастанавіла катэгарычна дамагацца ад Нафтасындыкату аб перадачы спажыўкаапэрацыі ня толькі дэфіцытных сельскіх нафтаскладаў, але і ўсіх местачковых і гарадзкіх, акрамя, хіба, Менскага, Віцебскага і Гомельскага.

2. У адносінах работы самай сыстэмы нафтапрадуктамі давялося з усёй рашучасьцю падкрэсьліць цэлы шэраг буйных недахватаў. Першае—гэта тое, што дзякуючы адсутнасьці цэлага шэрагу арганізацый спажыўсыстэмы неабходнага ўліку патрэб насельніцтва ў нафта-забесьпячэньні, раёны,

што абслугоўваюцца гэтымі арганізацыямі, вельмі часта знаходзяцца пад пагрозай перабояў, а ў некаторых мясцох ужо мелі места перабоі. Другое—гэта тое, што работа каапэрацыі іншымі нафтапрадуктамі ахоплена недастаткова. Асабліва нездавальняюча стаіць справа з забесьпячэньнем трактара-трымальнікаў, а таксама з гандлем змазачнымі матар'яламі. Для зьнішчэньня гэтых недахватаў намечаны цэлы шэраг канкрэтных мерапрыемстваў.

3. Работа сыстэмы металятаварамі мае цэлы шэраг перабояў. Першае—гэтае тое, што цэлы шэраг прадметаў зьяўляецца дэфіцытным і што ў сілу шэрагу аб'ектыўных умоў, спажывецкая каапэрацыя сёлета атрымлівае значна менш мэталятавараў, чым летась. І другое—гэта тое, што пытаньне аб пашырэньні гандлю спажывецкай сыстэмы металятаварамі сустракае з боку Наркамгандлю шэраг абмежаваньняў, з прычыны таго, што апошні стаіць на пункце гледжаньня выцісканьня спажывецкай каапэрацыі з гандлю асноўнымі мэталятаварамі (шынным, гатунковым, кровельным жалезам і чорным чыгуном) за лік пашырэньня работы гэтымі таварамі сельска-гаспадарчай каапэрацыі, ня лічачыся з тым, што рынак гэтымі таварамі сельска-гаспадарчай каапэрацыі слаба ахоплены і што на бліжэйшы час мэтазгодна было-б ня згортваць гэтую работу спажывецкай каапэрацыі.

Зусім правільна зазначалася, што існуючы парадак закуплі скабяных і гаспадарчых тавараў Цэнтрасаюзам, з разьмеркаваньнем па арганізацыях, не дае магчымасьці пашырыць работу гэтымі таварамі, і што ў зьвязку з гэтым прыходзіцца закупляць гэты тавар праз другія рукі. Таму вывад, які нарада зрабіла аб неабходнасьці, ў далейшым ставіць пытаньне аб заключэньні далявога дагавору, хоць-бы на асноўныя прадметы, з асноўнымі пастаўшчыкамі, зьяўляецца зусім правільным.

Нарадаю было падкрэсьлена, што паасобныя арганізацыі спажывецкай сыстэмы яшчэ кепска працуюць выстарчальнымі мэталятаварамі і ня ведаюць свайго рынку, дзякуючы чаму ёсьць выпадкі, калі тавар, на які вялікі попыт, ня мае ніякага збыту.

4. На нарадзе было таксама канстатавана, што з боку ВМС наглядаецца шмат ненармальнасьцяй пры выкананьні заявак спажыўсыстэмы. Асноўнае—гэта тое, што адгрузка тавараў адбываецца ненармальна. Выстарчальныя тавары адгружаюцца ў несэзонны час да пачатку кварталу за ўвесь квартал поўнасьцю, што стварае лішнюю загрузку складаў. Адным з недахватаў зьяўляецца таксама сыстэма адгрузкі ў кожным вагоне па адным памеры таго-ж самага тавару, і гэтым ствараецца немагчымасьць рэгуляваньня асартымэнту продажу. Акрамя таго, было адзначана невыстарчальнае рэгуляваньне з боку ВМС на паасобныя скаргі арганізацый як на асартымэнт, так і на якасьць, і што ВМС на гэтыя скаргі адказвае часта фармальнай адпіскай. Таму, пры заключэньні новага гендагавору трэба будзе прадугледзець цэлы шэраг момантаў, якія павінны зьнішчыць выпадкі пратэрмінаваньня дастаўкі тавараў, празьмерную пасьпяховасьць адгрузкі ў несэзонны час, а таксама трэба будзе агаварыць, што адгрузка тавараў можа быць толькі па спэцыяльна ўзгодненым асартымэнце.

5. Адно з вялікіх месц у рабоце нарады заняло пытаньне аб рабоце з сілікатнымі таварамі. Трэба адкрыта сказаць, што ва ўсёй рабоце сыстэмы спажывецкай каапэрацыі БССР самае вузкае месца—гэта работа сілікатнымі таварамі. Досыць сказаць, што ў БССР на душу насельніцтва ў год прыпадае сілікатных тавараў на суму ўсяго каля 20 к. Ёсьць раёны, дзе гэтая лічба даходзіць да 9 к., тады як сума, што прыпадае на душу насельніцтва ў сярэднім па ўсім Саюзе значна большая і даходзіць да 1 р. 20 к.

Калі-ж зьвярнуцца да ўдзельнае вагі сілікатных тавараў у зваротах сыстэмы, дык атрымаецца ячшэ больш дзіўны малюнак, бо ўдзельная вага ў сярэднім не перавышае 1 проц., а па некаторых саюзах і ЦРК зьніжаецца да 0,75 кап. і яшчэ ніжэй.

Асабліва дрэнна пастаўлена работа з гэтымі таварамі на вёсцы. Ёсьць шэраг фактаў, калі ў буйных спажыўтаварыствах амаль поўнасьцю адсутнічае такі прадмет, як шклянкі, талеркі і г. д І ўсё гэта мае месца ў той час, калі пытаньне аб пашырэньні гандлю выстарчальнымі таварамі набывае самае актуальнае значэньне.

Якія-ж прычыны? Асноўная прычына—гэта супраціўленьне апарату, які ўсяляк адхіляецца ад гандлю вялізарнымі, крохкімі і па свайму асартымэнту складанымі таварамі.

Аднак, у сілу цэлага шэрагу праведзеных мерапрыемстваў, праўленьню Белкаапсаюзу ўдалося за апошні год крануць з мёртвага пункту гэтую работу і ўжо да моманту склікаsuccessful гэтае нарады ёсьць магчымасьць канстатаваць некаторыя станоўчыя вынікі. За апошні час былі праведзены спэцыяльныя абсьледваньні ў 4 акругах для высьвятленьня пастаноўкі работы з сілікатнымі таварамі. У выніку гэтых абсьледваньняў выявілася, што запасы на складах невыстарчальныя, і што адсутнічае патрэбны асартымэнт. Адзначаны таксама выпадкі высокіх накладаньняў, адсутнасьці патрэбнага кіраўніцтва з боку саюзаў гэтай работай і амаль поўная адсутнасьць кваліфікаваных працаўнікоў па гэтай групе тавараў.

6. Адзначаныя вышэй ненармальнасьці ў рабоце сілікатамі падваяюцца яшчэ і тым, як правільна адзначана нарадай, што Продасілікат пры выкананьні гендагавораў ужывае рад ненармальных мэтадаў, якія яшчэ больш ускладняюць работу спажывецкай сыстэмы. Так, напрыклад:

1. Дадзенае продасілікату паводле гендагавору права 5-проц. адхіленьня ад заказаў, што даецца яму спажыўсыстэмай, выкарыстоўваецца ім амаль выключна для адгрузкі зусім няходкіх тавараў.

2. Ня гледзячы на рад паказаньняў, даных продасілікату з боку арганізацый, у тым ліку і Белкаапсаюзам, што плоскія талеркі, якія адгружаюцца па за ўсякай нормай і залежнасьцю ад узгадненьня спэцыфікацый ня могуць быць рэалізаваны,—ён усё-ж і да гэтага часу працягвае адгружаць гэты тавар, ствараючы затаварваньне ў сыстэме.

3, Частыя выпадкі незахаваньня тэрмінаў адгрузкі, што не дае магчымасьці сваечасова правільна рэгуляваць патрэбны сартымэнт. Засылаюцца часта тавары з такіх заводаў, прадукцыя якіх ня мае попыту на беларускім рынку. Вось што піша кіраўнік Заходняй канторы продасілікату ў сваім дакладзе ад 7 сакавіка 1929 году Наркамгандлю БССР і праўленьню продасілікату, пасьля зробленага ім абсьледваньня Гомельскае і Мазырскае акругі.

„У адносінах асартымэнту заяўляецца шмат скаргаў на тое, што заводы ня прытрымліваюцца спэцыфікацый і засылаюць тавар, які не адпавядае попыту рынку, у прыватнасьці і сялянскага. Так, Гомрайсаюзам атрыманы з Волхаўскай фабрыкі вагон тавару, у якім ёсьць 50 проц. непатрэбных вёсцы тавараў, як плоскія талеркі і інш., у вагоне гатунковага начыньня з заводу „Домбаля“ атрымалася 10.000 шт. сальніц і г. д“.

Нарада зусім правільна паставіла пытаньне аб тым, каб пры перазаключэньні гендагавору ўсе гэтыя ненармальнасьці зьнішчыць і больш поўна абгаварыць, што папярэднія заказы павінны ў меншай ступені абавязваць і прамысловасьць і выконвацца дакладна і поўнасьцю, з бясспрэчным зваротам таго асартымэнту, які не прадугледжаны папярэднім заказам. Гэтым самым можна будзе спыніць лішнюю трату вялікіх сродкаў

па паездках спэцыяльных працаўнікоў на заводы для адбору тавараў. Адначасова надаць права арганізацыям рабіць зьмены асартымэнту па згодзе з заводам.

7. Ня меншая ўвага была зьвернута нарадаю на пытаньне аб якасьці прадукцыі наогул і ўпаасобку прадасілікацкай. Тут падавалася мноства фактаў, якія сьцьвярджалі нізкую якасьць паасобных тавараў і невыстарчальнае рэагаваньне на гэта з боку прамысловасьці. У паданым вышэй дакладзе кіраўніка Заходняй канторы Продасілікату гаворыцца наступнае: „Лямпавае шкло з заводу „Кастрычнік“ дае да 50 проц. бою, шкло дрэнна абрэзана, цёмнага колеру, сьценкі не роўнамернае таўшчыні; з прычыны таго, што лямпавае шкло запакавана у салому, хаваецца на заводах пад адкрытым небам, салома гніе, і пры разборцы шкло б‘ецца. Шклянкі выдуўныя маюць вельмі тонкі верх, берагі абрэзаны няроўна, маюць шмат шчарбін, і шмат гэтага тавару пры разборцы прыходзіцца адносіць да глуму“.

Сыстэма спажывецкай каапэрацыі зусім правільна і своечасова сыгналізуе прамысловасьці аб недахватах якасьці яе прадукцыі, але бяда ў тым, што вельмі рэдка прыслухоўваюцца да голасу сыстэмы, часта адносячы скаргі каапэрацыі да прычэпак і г. д.

Адным з спрэчных пытаньняў, у выніку абгаварэньня дакладаў Цэнтрасаюзу і Белкаапсаюзу, было пытаньне, высунутае прадстаўнікамі сындыкацкіх аддзяленьняў Беларусі і Белбюро Савету сындыкатаў. Імі было высунута пытаньне аб неабходнасьці дэцэнтралізацыі генэральных дагавораў, якія зьяўляюцца (па іх думцы) асноўным злом ва ўсіх вышэйадзначаных недахватах і труднасьцях.

Трэба сказаць, што і на гэты раз, як гэта часта здараецца з прадстаўнікамі сындыкатаў у спрэчках з каапэрацыяй, былі ўзяты нікуды няварты сродкі для абгрунтаваньня правільнасьці высунутае імі прапановы— апэляцыі да асяродковага і нізавога зьвеньчака спажывецкай сыстэмы аб тым, што асноўнае зло заключаецца ў гендагаворах, і дзякуючы ім сыстэма спажывецкай каапэрацыі траціць ня толькі ў колькасьці (у тым ліку дэфіцытных), але і ў асартымэнце, у якасьці і ва ўмовах разрахункаў. І для „выратаваньня“ каапэрацыі яе „добрачынцы“ высоўваюць лёзунг дэцэнтралізацыі генэральных дагавароў: „давайце напасрэдна зьвязвацца с сыстэмай, заключыўшы з арганізацыямі генэральныя згоды, замест існуючага гендагавору, які цалкам сябе апраўдвае, тады ніякіх дэфэктаў у рабоце ня будзе“.

Гэта тэорыя была поўнасьцю і аднадушна адхілена нарадай, бо як Белкаапсаюз, так і ўся яго сыстэма стаяць цьвёрда на тым пункце гледжаньня, што гендагаворы сябе апраўдалі і што калі трэба гаварыць, дык не аб адмаўленьні ад іх, а толькі аб удасканаленьні цэлага шэрагу патрэбных момантаў, часткова аб якіх ужо гаварылася вышэй, якія часткa самім жыцьцём высунуты.

Узятая-ж лінія прадстаўнікамі сындыкацкіх аддзяленьняў на адштурхваньне сыстэмы ад сваіх кіруючых цэнтраў, за кошт умацаваньня сваёй сеткі на пэрыфэрыі, зьяўляецца лініяй фальшывай, якая ня мае пад сабой ні гаспадарчага, ні палітычнага грунту, бо зусім ясна павінна быць кожнаму, што, па меры далейшага ўмацаваньня і росту спажывецкай каапэрацыі, яна ў канчатковым выніку зьявіцца асноўным рэзэрвуарам, які ўбірае ў сябе ўсе гэтыя зараз існуючыя сындыкацкія аддзяленьні, канторы і г. д.

Трэба лепш, замест гэтага, у інтарэсах агульнае нашае справы, адзін другому дапамагчы зьнішчыць цэлы шэраг буйных недахватаў, якія ўплываюць на агульную справу разьвіцьця сацыялістычнага будаўніцтва.

А. Дубіна

# Аб дзейнасьці сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту за 1927-28 г. і роля крэдыту ва ўздыме ўраджайнасьці

Работа сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту Беларусі за мінулы апэрацыйны год праходзіла ў кірунку забесьпячэньня крэдытам сацыялістычнага сэктару, саўгасаў, калгасаў, вытворчых сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў і індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак з правядзеньнем шэрагу спрыяючых мерапрыемстваў па калектывізыцыі і каапэраваньню сельскае гаспадаркі крэдытам. Адначасова з гэтым неабходна было арганізацыйна наблізіць першапачатковую сетку да сялянства з мэтаю лепшага абслугоўваньня сельскае гаспадаркі і самога насельніцтва, шляхам пашырэньня сеткі крэдытных таварыстваў, каб мець на 1 кастрычніка 1928 г. у сярэднім 2500 двароў на адно таварыства, што зьяўляецца часоваю арыэнтыроўкаю на гэты год.

Такім чынам, пашырэньне сеткі сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў і каапэраваньне насельніцтва мела такі выгляд:

| | Лік таварыстваў | Лік членаў | | % каапэр. сялян. гасп. | Прыходз. у сярэдн. на 1 т-ва | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Паасобн. у тыс. | Арганіз. | | Паасобн. членаў | Сялян. гасп. |
| На 1/X—1927 г. | 203 | 241 | 2418 | 30,2 | 1186 | 3963 |
| На 1/VII—1928 г. | 241 | 293 | 2977 | 36,9 | 1220 | 3310 |
| На 1/X—1928 г. | 293 | 320 | 3500 | 40,0 | 1066 | 2650 |

Рост балянсаў зьвеньняў і асноўных капіталаў быў такі:

| | Белсельбанк | | | Акрсельбанк | | | Пачатков сетка | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сума балян. у т. р. | Сума асноўн. кап. у т. р. | % іх да балян. | Сума балян. у т. р. | Сума асноўн. кап. у т. р. | % іх да балян. | Сума балян. у т. р. | Сума уласн. кап. у т. р. | % іх да балян. |
| На 1/X-27 г. | 20948 | 3119 | 14,9 | 15202 | 1209 | 9,3 | 15396 | 1567 | 10,0 |
| На 1/VII-28 г. | 26910 | 4073 | 15,1 | 20134 | 1632 | 8,1 | 21728 | 2303 | 10,0 |
| На 1/X-28 г. | 30329 | 4954 | 15,4 | 23813 | 1931 | 8,1 | 25916 | 2132 | 8,2 |

Адсюль бачым значны рост балянсаў усіх зьвенчакоў сыстэмы, пры чым роля сваіх капіталаў толькі па Белсельбанку стабільная, а па акрсельбанках і нізоўцы яна значна адстае, наогул „роля уласных сродкаў у балянсах усіх зьвеньняў вельмі нізкая, і мерапрыемствы па іх папаўненьню павінны праводзіцца настойліва і ў далейшым.

Прыцягненьне пачатковаю сеткай сродкаў сялянства шляхам паёў і укладаў мела такі выгляд:

| | Паі | | Уклады | | | Прыходз. сялян. укладаў | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сума ў т. р. | У сярэдн. на 1 чл. у т. р. | Агульн. сума ў т. р. | % да балянсу | % паасобн. у іх | На 1 чл т-ва | На 1 сялянск. гасп. у руб. |
| На 1/X—27 г. | 1058 | 4,3 | 609 | 4,0 | 34 | 0,88 | 0,26 |
| На 1/VII—28 г. | 1619 | 5,5 | 1196 | 5,5 | 22 | 0,90 | 0,33 |
| На 1/X—28 г. | 1613 | 5,3 | 1464 | 5,6 | 22 | 1,08 | 0,41 |

Адсюль бачым:

1. Па паёх і ўкладах сетка за год мела прырост 1410 тыс. руб. (555 тыс. руб. па паёх і 855 тыс. руб. па ўкладах). З гэтае сумы сялянскіх сродкаў уцягнута 823, 5 тыс. руб. Запазычанасьць сялянства сетцы па пазыках за гэты-ж пэрыод павялічылася на 6124,5 тыс. руб.

2. Сялянскія ўклады ўзрасьлі з 212 тыс. руб. да 327 тыс. руб, альбо на 54,3 проц. Нязначны яны па агульным памеры (1 руб. 08 кап. на члена і 41 кап. на адну сельскую гаспадарку) і па ролі ў агульнай суме ўкладаў—22 проц., якая была на 1/X-1927 г. 34 проц.

3. Тэмп росту ўсіх укладаў 140 проц. за год.

Задачу прыцягненьня сродкаў сялянства можна яшчэ лічыць не разьвязанай.

Задача ахопу сыстэмай разрахункаў паміж вёскай і горадам значна пасоўваецца. У справаздачным годзе карэспандэнцкія даручэньні таварыстваў на акрсельбанкі складалі каля 11 міл. руб., даручэньні акрсельбанкаў на таварыствы каля 9 міл. руб. Аднак,, і яна затрымліваецца нежаданьнем некаторых установаў карыстацца паслугамі сыстэмы ў гэтай адносіне. З агульнае сумы даручэньняў акрсельбанкаў у 9 міл. руб. даручэньні Лесзагу складаюць 1276 тыс. руб. і Лесбелу 373 тыс. руб. Дзякуючы гэтаму і шэрагу іншых прычын, гэтыя апэрацыі сеткі яшчэ не сталі магутным мэтадам уцягненьня сялянсхіх сродкаў.

За 1927-28 год па БССР за рахунак фонду каапэраваньня беднаты каапэравана сельска-гаспадарчымі крэдытнымі таварыствамі 34390 бednякоў. Усяго каапэравана ў таварыствах беднякоў за ўвесь час 44090. Усяго фонду на 1 кастрычніка 1928 году маецца 158,7 тыс. руб., з іх вылучана Белсельбанкам і акрсельбанкамі з прыбыткаў 104,3 тыс. руб., пачатковаю сеткай 41,8 тыс. руб. і іншымі арганізацыямі (СТУ і каапэр. саюзы)—12,6 тыс. руб.

На 1 кастрычніка 1928 году мелася нескарыстанага фонду каапэраваньня беднаты 6590 руб., 25 тыс. руб,, што было выдадзена на каапэраваньне беднаты ў вытворчым сельска-гаспадарчым аб'яднаньні.

Увесь фонд у сыстэме на крэдытаваньне беднаты на 1 кастрычніка 1928 году складаў 1500 тыс. руб., з іх за 1927-28 год паступіла 547,2 тыс. руб. Уся гэтая сума перададзена акругам.

Па вестках на 1 кастрычніка 1928 году, у акруговых таварыствах увесь фонд быў цалкам скарыстаны. У пачатковай сетцы скарыстаньне фонду праходзіць ня так скора, у ёй маецца астача каля 100 тыс. руб. (на 1 кастрычніка 1928 году на 155 таварыстваў—20 тыс. руб.). Парадак накіраваньня фонду сеткай некалькі палепшыўся ў сэнсе больш правільнага падбору пазычнікаў, правільнага падыходу пры вызначэньні крэдыту (падняўся сярэдні разьмер пазыкі да 80 руб. і г. д.). Аднак, шэраг недахопаў (запатрабаваньне паручыцельстваў па пазыках з фонду, недастатковая праверка скарыстаньня і г. д.) усё яшчэ мае месца ў працы сеткі.

На 1 кастрычніка 1928 году сеткай з фонду было закрэдытавана 16000 бядняцкіх гаспадарак. Процант па крэдытах з фонду зьніжаны да 25 проц. гадавых з беспасярэднага пазычніку.

Справа з пратэрміноўкамі пазык была такая.

| Д А Т А | Сума пратэр. пазык у т. р. | % іх да астачы пазык |
|---|---|---|
| На 1/X—27 г. | 827 | 7,9 |
| На 1/I—28 г. | 1319 | 16,1 |
| На 1/IV—28 г. | 699 | 7,7 |
| На 1/VII—28 г. | 602 | 4,3 |
| На 1/X—28 г. | 831 | 5,0 |

Пратэрміноўкі, як відаць, у гэтым годзе мелі ненармальна высокі ўздым у студзені і лютым, калі яны дасягалі 1,5 міл. руб., што выклікала неабходнасьць правядзеньня ўдарнае кампаніі па іх спагнаньню, з прыцягненьнем да ўдзелу ў ёй усіх мясцовых арганізацый. У выніку маецца зьніжэньне пратэрмінаваных пазык да ўзроўню найбольш нізкага за ўсе гады. Пачынаючы з кастрычніка і да гэтага часу пашыраецца новы ўздым пратэрміновак.

Крэдытны плян Белсельбанку і акруговых таварыстваў сельска-гаспадарчага крэдыту БССР на 1927-28 год і яго выкананьне ў агульных сумах па вытворчых крэдытах мелі такі выгляд (у тыс. руб.):

| | Агульн. ср. сыстэме | | | Спэц. бюдж. сродкі | | Увесь плян | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Доўг. | Карот. | Усяго | Доўг. | Карот. | Доўг. | Карот. | Усяго |
| Вызнач. плян . . . . . | 7768 | 4726 | 12494 | 3483 | — | 11251 | 4726 | 15977 |
| Фактыч выдадз. . . . | 8760 | 5730 | 14490 | 3630 | 217 | 12390 | 5947 | 18337 |
| % выкананьня . . . . . | 113 | 121 | 116 | 110 | — | 110 | 126 | 115 |
| % выканан. ў 1926-27 г. | — | — | — | — | — | 90 | 115 | 104 |

Як відаць, у агуле плян перавышаны на 15 проц. супроць леташняга 4 проц. Па спецсродках перавышэньне 10 проц. і па агульных 16 проц. Гэтае перавышэньне маецца як па доўгатэрміновых (на 10 проц.), так і па кароткатэрміновых (на 26 проц.). Па доўгатэрміновых—перавышэньне тлумачыцца атрыманьнем ад Цэнтрсельбанку крэдытаў на 745 тыс. руб. больш, чым прадугледжвалася плянам, а таксама атрымана з бюджэту ў асноўны капітал банку за рахунак 1928-29 г. 600 тыс. руб.

Па кароткатэрміновых не прадугледжаных плянам паступленьнях крэдытаў на кантрактацыю за рахунах Дзяржбанку (715 тыс. руб.), прамыслова-васьці (97 тыс. руб.).

Такім чынам, у агуле выкананьне пляну ў 1927-28 годзе адбывалася пры нармальным, дастатковым і сваячасовым паступленьні сродкаў, што дазволіла сваячасова прафінансаваць важнейшыя мерапрыемствы (пасеўкампанія і інш.). Паніжэньне фінансавай кан'юнктуры мела месца ў пачатку III кварталу і напружаньне яе ў пачатку IV кварталу.

Патрэбнасьць сельскае гаспадаркі ў вытворчых крэдытах па вытворчаму пляну НКЗ БССР і здавальненьне яе сыстэмай сель.-гасп. крэдыту ў 1927-28 г. былі такія (у міл. руб.):

| | Доўгатэр. | Каротка-тэр. | Усяго |
|---|---|---|---|
| Патрэбн. (па пл. НКЗ) . . . . . . . . . . . . | 14,2 | 7,7 | 21,9 |
| Фактычна выдадзена . . . . . . . . . . . . | 12,4 | 5,9 | 18,3 |
| % здавальненьня . . . . . . . . . . . . . . . . | 87,0 | 80,0 | 83,6 |
| % здавальненьня ў 1926-27 г. . . . . . . . . . . | 58,0 | 91,5 | 69,3 |

Відавочна, што хоць процант здавальненьня і няпоўны, але значна вышэй леташняга і пры тым вышэйшы па доўгатэрміновых крэдытах, а ў 1926-27 г. было наадварот.

Агульная сума накіраваных вытворчых крэдытаў па выкананьню крэдытнага пляну сыстэмы і накіраваньне гэтых сродкаў па асобных сэктарах сельскае гаспадаркі па гадох было такое:

| | Агульн. сума выдадз. крэд. у міл. р. | 0/0 доўгатэр. з іх | 0/0 ад агульн. сумы накірован. | | У тым ліку (0/0 да ітогу) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Паасобн. гасп. | Сацыял. сэктару | Саўгасам | Калгасам | Інш. пачатк. каап. |
| За 1926-27 г. . . | 12,7 | 52,0 | 54,0 | 46,0 | 15,6 | 6,3 | 8,2 |
| „ 1927-28 г. (за 3 кв.) . . . . . | 18,3 | 67,6 | 49,0 | 51,0 | 16,5 | 9,3 | 10,0 |

Адсюль заўважваем:

а) значны рост агульнага ахопу вытворчых крэдытаў;

б) рост доўгатэрміновае яго часткі, як найбольш адпавядаючай звароту капіталаў у сельскай гаспадарцы;

в) значнае зьніжэньне ролі ў крэдытах прыватнага сэктару за кошт павялічэньня ролі сацыялістычнага сэктару;

г) найбольшы рост у сацыялістычным сэктару калгасаў, як віду гаспадарак, праз якія вёска падойдзе да сацыялістычнага земляробства, хоць яны не занялі сваёй ролі, вызначанае па пляну (11,7 проц,). Такое самае адставаньне ад пляну маюць і іншыя пачатковыя каапэратывы (10 проц. супроць 15,1 проц. па пляну); саўгасы перавысілі плян.

Трэба мець на ўвазе, што за ўвесь 1927-28 год проц. крэдытаў сацыялістычнаму сэктару будзе некалькі вышэйшы, чым за тры кварталы, так як III квартал вясеньняе пасяўное кампаніі, даўшы значны процант крэтытаў паасобным гаспадаркам (насеньне, машыны і г. д.)

У IV квартале іх роля будзе меншай.

У адпаведнасьці з гэтым зьмянілася і запазычанасьць розных сэктараў сыстэме сель.-гасп. крэдыту.

| ДАТА | Агульная запазычанасьць сыстэме непасрэдн. кліентуры ў міл. р. | Прыходз. у 0/0 да ітогу | | У тым ліку | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | На паасобн. сэктар | На сацыял. сэктар | Саўгасы | Калгасы | Інш. с/гасп каапэр. |
| На 1/X -27 г. . . . . . . | 16.5 | 59,0 | 41,0 | 14,3 | 7,0 | 7,5 |
| На 1/VII—28 г. . . . . . . | 20,3 | 50,0 | 50,0 | 18,4 | 10.4 | 9,6 |
| На 1/X—28 г. . . . . . . | 26,4 | 50,0 | 50,0 | 17,2 | 10,5 | 8,3 |

Апрача гэтага, за дзяржаўнымі і каапэрацыйнымі ўстановамі лічылася доўгу сыстэме на 1 кастрычніка 1928 году па крэдытах па фінансаваньне сельска-гаспадарчага тавараз вароту—5,55 міл. руб , з іх за цэнтральнымі саюзамі сельска-гаспадарчай каапэрацыі—650 тыс. руб., за акруговымі сельсаюзамі—1100 тыс. руб., за сельска-гаспадарчымі крэдытнымі таварыствамі—225 тыс. руб., за калгасамі—25 тыс. руб., за іншымі пачатковымі сельска-гаспадарчымі каапэратывамі 170 тыс. руб., за саматужна-прамысловымі каапэрацыямі—735 тыс. руб., за Белсельтрэстам—450 тыс. руб., за Цэнтраземскладам—1100 тыс. руб., за Лесзагам НКЗ—800 тыс. руб. за Белмясгандлем—275 тыс. руб., іншымі арганізацыямі—20 тыс. руб.

Запытаньні на крэдыт з боку калгасаў у гэтым годзе некалькі ўзрасьлі пры ўсё яшчэ нездаровым скарыстаньні сродкаў, у зьвязку з арганізацыяй новых калгасаў, што часткова знаходзіцца ў сувязі з перадачай іх крэдытаваньня пачатковай сетцы, згодна дырэктыў, якія меліся на гэта.

Поўных зьвестак аб складзе прыватнага сэктару (паасобных пазычнікаў) у 1927-28 г. пакуль што няма; яны будуць атрыманы па сканчэньні працы па аднаўленьню вестак аб маёмасным становішчы членаў і пазычнікаў пачатковай сеткі, распачатай у першай палове г. г.

Аднак, весткі, якія маюцца па вясеньняй пасяўной кампаніі, папярэдні паказваюць аб наяўнасьці значнага паляпшэньня ў гэтым напрамку і аб выкананьні сеткай дырэктывы аб спыненьні крэдытаваньня кулакоў. Так, роля розных груп паасобных пазычнікаў у гэту кампанію па зьвестках сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў была такая:

| Выдадзена ў пасеўкампанію паасобным пазычнікам у % да ітогу | | | |
|---|---|---|---|
| Бедняк. | Сераднях. | Заможным | Усяго |
| 62,1 | 36,0 | 1,9 | 100 |

Калі ўлічыць, што 72 проц. з сум, якія атрыманы заможнымі, падае на кантрактацыю, дык трэба заўважыць, што роля іх у іншых крэдытах зусім нязначная (0,5 проц.).

Падлік пазычнікаў па некаторых акругах у групоўцы па натуральных пазычніках паказвае значнае зьніжэньне іх у параўнаньні з мінулым годам.

Так, па Віцебскай акрузе маем наступнае:

| | У % да ітогу пазык (сумы) | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Групы па пасеўн. | | | Групы па працжывёле | | | Групы па кароўнасьці | | |
| | Да 2 дз. | 2-6 дз. | Звыш. 6 дз. | Без прац. | Жыв. з 1 гал. | З 2 і больш. | Бес. кароўн. | З 1 кар. | З 2 і больш. |
| 1926-27 г. | 38,5 | 55,1 | 6,4 | 17,5 | 71,0 | 11,5 | 8,5 | 50,2 | 41,3 |
| 1927-28 г. | 54,7 | 43,7 | 1,6 | 41,0 | 56,0 | 3,0 | 18,0 | 52,0 | 30,0 |

Тут роля крэдытаў па лініі ніжэйшых груп надта павялічылася.

Па Гомельскай акрузе маецца разьмеркаваньне пазык на групах пазычнікаў (па суме сель.-гасп. падатку):

| Групы | Сума руб. | % да ітогу |
|---|---|---|
| Зволеныя ад сель-гасп. падатку | 168073 | 38,3 |
| З падаткам да 10 руб. | 143253 | 32,5 |
| " " " 10—20 " | 73537 | 17,0 |
| " " " 20—40 " | 35655 | 8,1 |
| " " " 40—75 " | 13504 | 3,0 |
| " " звыш. 75 " | 4689 | 1,1 |
| Усяго | 738711 | 100,0 |

Тут, калі лічыць бядняцкімі гаспадаркамі ня толькі зволеныя ад сельска гаспадарчага падатку, а частку платнікаў з невялікаю сумай, як гэта прынята ЭН (па шкале машьназдавальненьня) і аднесьці да беднаты ўсіх плацячых да 10 руб. сельска-гаспадарчага падатку, будзем мець, што бедната сярод пазычнікаў складала 70,8 проц.

Па Магілеўскай акрузе, аднесены ўмоўна да беднаты гаспадаркі з пасевам да 2 дзес., бясконныя, бескароўныя і з 1 каровай, да заможных— с пасевам звыш. 8 дзес., з 2-мя і больш. коньмі ці каровамі, а ўсе іншыя да сераднякоў, што дае такое разьмяркаваньне пазычнікаў па групах:

| | | |
|---|---|---|
| 1. Беднякі | 64,4% | да ітогу |
| 2. Серадмякі | 32,7% | " " |
| 3. Заможныя | 2,9% | " " |
| Усяго | 100,0% | да ітогу |

Па Бабруйскай акрузе даюцца такія весткі (таксама ў пераходзе ад натуральных эканамічных паказчыкаў да сацыяльных груп):

| Групы | У %% да itогу 1926-27 г. | 1927-28 г. |
|---|---|---|
| Бедняки | 39,0 | 62,2 |
| Серадняки | 58,0 | 35,4 |
| Заможныя | 3,0 | 2,4 |
| Усяго | 100,0 | 100,0 |

Як відаць, групоўка пазычнікаў акруговымі таварыствамі сельска-гаспадарчага крэдыту па розных пазычніках, усюды дае проц. беднаты да ітогу звыш. 60 проц.

Наогул трэба лічыць, што ў гэтым годзе сельска-гаспадарчымі крэдытнымі таварыствамі зроблен быў круты пералом у сэнсе пераважнага накіраваньня крэдыту беднаце, нават настолькі, што ў некаторых таварыствах мела месца недакрэдытаваньне сераднякоў.

Зразумела, што ёсьць яшчэ паасобныя выпадкі, хоць і радзей, чым летась, скрыўленьня лініі і выдачы крэдытаў заможным гаспадаркам.

Бядняцкія гаспадаркі маюць найбольшую ролю ў крэдытах на працжывёлу і зерневыя культуры (насеньне), пры паніжанай ролі ў кантрактацыі, машынах і спэцкультурах.

Серадняцкія маюць падвышаную ролю ў крэдытах на кантрактацыю, травасеяньне, сель.-гасп. машыны і штучнае ўгнаеньне.

Заможныя бяруць крэдыт найбольш на кантрактацыю (72 проц. ад усяе сумы), сельска-гаспадарчыя машыны (13 проц.) і травасеяньне (6,6 проц.).

Калі ўзяць галоўнейшыя галіны і працэсы сельскай гаспадаркі, садзейнічаць разьвіцьцю якіх прызвана сыстэма сельска-гаспадарчага крэдыту, то ўбачым наступнае (па выкананьню пляну Белсельбанку і акрсельбанкаў):

| НАЗВА ПРЫЗНАЧЭНЬНЯЎ | Выдадзена ў 26-27 г. | | Па пляну на 27/28 г. вызн. міл. руб. | Выдадзена ў 27-28 г. | | | Маркуецца плянам на 28-29 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сума ў міл. руб. | % да ітогу | | Сума ў міл. руб. | % да ітогу | % у адносін. да летапн. году | Сума ў міл. руб. | % да ітогу | % узросту ў адн. да лет. г. |
| Машыназабясьпячэньне | 1,2 | 9,5 | 1,90 | 2.05 | 11,2 | 71 | 2,9 | 10,9 | 41 |
| Земляўпарадкав. | 0,9 | 7,1 | 1,30 | 1,54 | 8,5 | 74 | 2,1 | 7,9 | 35 |
| Мэліорацыя | 0,5 | 3,9 | 1,00 | 0,86 | 4,7 | 72 | 1,6 | 5,9 | 83 |
| Мінэр. угнаеньне | 0,2 | 1,6 | 0,55 | 0,49 | 2,7 | 145 | 1,2 | 4,5 | 145 |
| Гатунков. насеньне | 0.1 | 0,7 | 0,50 | 0,24 | 1,3 | 140 | 0,6 | 2,2 | 150 |
| Травасеяньне | 0,6 | 4,7 | 0,80 | 0,76 | 4,1 | 27 | 1,0 | 3,7 | 32 |
| Спэц. культуры | 0,2 | 1,6 | 0.40 | 0,44 | 2,4 | 120 | 0 8 | 2,9 | 82 |
| Кантрактацыя | 0.4 | 3,1 | 0,30 | 1,27 | 6.9 | 218 | 2,3 | 8,5 | 82 |
| Прадукты жывёл. | 0,8 | 6,3 | 1,40 | 1,52 | 8,3 | 90 | 3,0 | 11,3 | 98 |
| Індустр. с.-гасп. | 0,6 | 5,0 | 2,10 | 1,69 | 9,2 | 182 | 3.5 | 12,9 | 108 |
| Іншыя | 7,2 | 56,5 | 5,75 | 7,47 | 40,7 | 4 | 7,8 | 29,3 | 4 |
| Усяго | 12,7 | 100,0 | 16,00 | 18,35 | 100,0 | 45 | 26,8 | 100,0 | 46 |

З гэтых лічбаў відаць наступнае:

1. У 1927-28 г. найбольшы рост мелі сродкі на кантрактацыю сельска-гаспадарчае прадукцыі (21,8 проц. ад папярэдняга году), пры чым

выдадзена на ільно-валакно 286 тыс. руб., на бульбу—291 тыс. руб., на зерневыя культуры—175 тыс. руб., на насеньне—173 тыс. руб., на ільнонасеньне—100 тыс. руб.

2. Разам з ёю ўзьняліся сродкі на індустрыялізацыю сельскай гаспадаркі (на 182 проц.), пры чым па выдачы першае месца (783 тыс. руб.) займае пабудова прадпрыемстваў па перааапрацоўцы малака, па другіх (525 тыс. руб.) прадпрыемствах па перааапрацоўцы бульбы, затым ідзе перааапрацоўка зерня (255 тыс. руб.), ільну (176 тыс. руб.) і смалакураныя заводы (120 тыс. руб.) у мэтах разьвіцьця экспарту.

3. Амаль такі-ж тэмп росту даюць мерапрыемствы па ўздыме ўраджайнасьці: штучнае ўгнаеньне (145 проц.), насеньняводзтва (140 проц.)

4. Значны рост даюць сыр'явыя культуры (спэцкультуры)—120 проц. (лён, каноплі, бульба);

5. Роўналежна з імі ўзрасьлі крэдыты і на прадукцыйнае жывёлаводзтва (90 проц.).

6. Узьнялася таксама і роля крэдытаў на земляўпарадкаваньне (74 проц.), на мэліорацыю (72 проц.) і машынізацыю сельскае гаспадаркі (71 проц.).

Зьмяншэньне мелі такія прадпрыемствы, як працжывёла, звычайныя будынкі і г. д.

Усе гэтыя тэндэнцыі, як відаць, адбіваюцца і ў пляне на 1928-29 г. супроць 1927-28 г. з тым толькі, што мерапрыемствы па ўздыме ўраджайнасьці высоўваюцца па тэмпу наперад.

Некаторая дэпрэсія маецца толькі па машыназдавальненьню, куды ўсё-ж мяркуецца накіраваць значную суму сродкаў (2,9 міл. руб. супроць 2,05 міл. руб. 1927-28 г.)

Аднак, трэба заўважыць шэраг прычын, якія дрэнна адбіваюцца на эфэктыўнасьці крэдыту. Найбольш балючым зьяўляецца няправільнае скарыстаньне пазык пазычнікамі як паасобнымі, так і калектыўнымі. Другое, што залежыць ад якасьці крэдытаў, тэрміны якіх яшчэ ня зусім адпавядаюць нармальнаму капіталазвароту ў сельскай гаспадарцы, а таксама: не заўсёды правільным пацыходзе крэдытных устаноў (драбленьне крэдыту і г. д.).

З гэтымі зьявішчамі (асабліва з няправільным скарыстаньнем пазык) сыстэма вядзе барацьбу шляхам праверкі скарыстаньня пазык пазычнікамі і датэрміновага спагнаньня пазык з пазычнікаў, якія скарысталі атрыманыя пазыкі не па прызначэньню. Аднак, сваімі сіламі сыстэма яшчэ ня справілася і ня можа пакуль што справіцца з гэтаю справай, і, чым больш актыўна прыдзе ёй на дапамогу ўся савецкая, партыйная і грамадзкая думка на мясцох, тым скарэй тут будуць дасягнуты станоўчыя вынікі.

Такім чынам, можна канстатаваць, што палітычная лінія па сацыяльнаму накіраваньню крэдытаў была ў асноўным адпавядаючаю пастановам камуністычнай партыі і ўраду, што разьмеркаваньне сродкаў паміж сацыялістычным сэктарам і паасобнымі гаспадаркамі (прыватны сэктар) дало магчымасьць поўнасьцю забясьпечыць тыя плянавыя запатрабаваньні, якія былі прадугледжаны плянам НКЗ Беларусі па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, а таксама значна больш выдаць крэдытаў саўгасам, калгасам і на вытворчую каапэрацыю, чымся гэта было ў мінулым 1926-27 годзе.

Вялікім і самым галоўным недахопам ў нашай працы зьяўляецца зусім недастатковае прыцягненьне ў сыстэму сельска-гаспадарчага крэдыту сялянскіх сродкаў. Праўда, гэта зьявішча ня ёсьць толькі беларускае, яно зьяўляецца агульным недахопам усесаюзнага парадку, калі, напрыклад, у нас у БССР на 1-е кастрычніка 1928 году сялянскіх сродкаў было ўложана сялянствам ўсяго 327 тыс. руб., гэта значыць прыходзіцца на адно крэдытнае таварыства 1117 руб., альбо на 1 сялянскую гаспадарку

41 капейка. Гэта гаворыць аб тым, што тут мы нічога не зрабілі. Запазычанасьць-жа сыстэме сельска-гаспадарчага крэдыту і Белсельбанку з боку сельскай гаспадаркі на 1 кастрычніка 1928 году была 26 міл. руб., з якіх 50 проц. паасобнымі гаспадаркамі (сялянамі), пры чым з гэтае запазычанасьці мы маем пратэрмінаваных пазычак на сёньняшні дзень (1 лютага) 1800 тыс. руб.

Зусім відавочна, што ў выніку ўсяго гэтага работа ўстаноў сыстэм сельска-гаспадарчага крэдыту па вытворчаму крэдытаваньню разьвівалася, галоўным чынам, за кошт дзяржаўных бюджэтных сродкаў і крэдытаў, якія даваліся і даюцца Дзяржбанкам. Далейшае становішча работы сыстэмы ў такім напрамку зьяўляецца недапусьцімым, і мы павінны ў гэтым годзе дабіцца рашучага пералому ў справе прыцягненьня сродкаў насельніцтва ў сельска-гаспадарчае крэдытнае таварыства і не дапушчаць на будучы час пратэрміновак. Што мы зараз у першую чаргу рашуча павінны зрабіць?

1. Усімі сіламі сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту, каапэрацыі, пры дапамозе партыі і савецкіх органаў, праводзячы клясавы прынцып да беднаты, спагнаць пратэрміноўкі з паасобных сялянскіх гаспадарак і розных арганізацый не пазьней як да правядзеньня вясеньняе пасяўное кампаніі, каб гэтым самым забясьпечыць сродкамі адно з галоўнейшых мерапрыемстваў па ўздыму ўраджайнасьці ў гэтым годзе, шляхам правядзеньня гэтае пасяўное кампаніі асабліва тады, калі мы маем вельмі напружанае становішча нашага крэдытнага пляну і небясьпеку рэальна задаволіць сродкамі складзены крэдытны плян на гэты год.

2. Адначасова з гэтым ужыць канкрэтныя захады да прыцягненьня (мабілізацыі) сродкаў сялянства ў сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы, асабліва мэтавым шляхам задаткаў і іншымі шляхамі, увязваючы гэта з набыцьцём насеньня, штучнага ўгнаеньня, харчоў, жывёлы, сельска-гаспадарчых машын, прылад і г. д., з агульнай мэтай уздыму ўраджаю сялянскіх гаспадарак і наогул сельскай гаспадаркі, улічваючы тое, што дзяржава ня мае магчымасьці задаволіць усіх тых вялікіх запатрабаваньняў, якія маюцца з боку насельніцтва і якіх патрабуе наша сельская гаспадарка.

Па-першае, трэба жывым шляхам (а не казенным, мёртвым) шырока растлумачыць закон цэнтральнага ўраду ад 31 жніўня 1927 году аб укладах ў сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы з захаваньнем суровай тайны пры ўкладах і гарантыі з боку дзяржавы звароту ўкладчыкам грошай.

Па-другое, трэба рашуча кінуць пустыя размовы і хістаньні з боку некаторых працаўнікоў сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту вакол цяжкасьці і немагчымасьці прыцягненьня сродкаў. Ужо зараз мы маем такія крэдытныя таварыствы, якія сабралі каля 30-40 тыс. укладаў насельніцтва. Так што ўсё залежыць ад энэргіі саміх працаўнікоў сыстэмы.

Па трэцяе, увесьці ў практыку работы таварыства прыём мэтавых укладаў з выдачай укладчыку, пры дасягненьні яго ўкладу вызначанае сумы, пазыкі ў нехапаючым да каштоўнасьці мэтавага прадмэту памеры, захоўваючы пры гэтым клясавую лінію ў галіне сельска-гаспадарчага крэдытаваньня.

Па-чацьвёртае, для большай зацікаўленасьці ўкладчыкаў у здачы сваіх сродкаў на захаваньне, у крэдытных таварыствах увесьці ў практыку работы ільготнае абслугоўваньне іх разрахунка-касавых апэрацыяў (пераводы грошай, інкасавыя даручэньні, хаваньне і кіраваньне каштоўных папер, хаваньне касавай наяўнасьці і г. д.).

Па-пятае, забясьпечыць сапраўдную тайну ўкладаў, вёўшы рашучую барацьбу з выпадкамі скажэньня яе на практыцы. Аднэй з мер забесьпячэньня

тайны ўкладаў у прыватнасьці можа быць і прыём укладаў у хаце ўкладчыкаў, абсталяваньне асобных памяшканьняў для прыёму ўкладаў і інш.

Вось тыя рашучыя мерапрыемствы, якія неабходна зараз-жа прымяняць крэдытным таварыствам і дабіцца прыцягненьня сродкаў насельніцтва ў гэтым годзе ня менш, як 1500 тыс. руб., што ўпаўне магчыма будзе зрабіць.

Потым тыя сродкі, якія мы на вёсцы зьбіраем на мясцовыя патрэбы па самаабкладаньню насельніцтва, павінны прыцягвацца ва ўклады сельска-гаспадарчых крэдытных таварystваў.

Нашай галоўнейшай задачай зараз зьяўляецца ўздым ураджайнасьці на 30-35 проц. у пяць год.

Ад уздыму вытворчых сіл сельскае гаспадаркі наогул і ў прыватнасьці ад уздыму ўраджайнасьці залежаць, ва ўмовах Савецкага Саюзу, ўсе галоўнейшыя сучасныя пытаньні эканамічнае палітыкі (тэмп індустрыялізацыі, уздым вытворчасьці працы, зьнішчэньне беспрацоўя, дабрабыт працоўных мас і г. д.).

Пад гэтым шляхам каранное рэканструкцыі разумеецца правядзеньне шэрагу мерапрыёмстваў у сельскай гаспадарцы, як: а) правільная арганізацыя сельска-гаспадарчай тэрыторыі, на якой можна было-б з эканамічным эфэктам весьці інтэнсыўную гаспадарку,—землеўпарадкаваньне; б) наданьне няўдобнай глебе такіх якасьцяў, якія-б дазвалялі ёй даваць больш высокую прадукцыю,—мэліорацыя; в) перабудова самога тыпу сельскіх гаспадарак, які-б даваў магчымасьць рэнтабельнае экстэнсыфікацыі гаспадаркі,—пераход ад дробных сялянскіх гаспадарак да буйнага сацыялістычнага земляробства—калгасы; г) шэраг агратэхнічных палепшаньняў, як-та: падвышэньне якасьці апрацоўкі глебы, пасеву і апрацоўкі ўраджаю (ачыстка насеньня і г. д.) праз машынізацыю. Увядзеньне больш прадукцыйных гатункаў насеньня сельска-гаспадарчых культур і парод прадукцыйнай жывёлы, увядзеньне новых спосабаў угнаеньня глебы (штучнае, зялёнае, тарпяное) і г. д.

Усе гэтыя мерапрыемствы інтэнсыўнага шляху ўздыму ўраджайнасьці вымагаюць укладаньня ў сельскую гаспадарку шмат новых і новых капіталаў. За мінулыя пяць год у сельскую гаспадарку БССР было накіравана вытворчых крэдытаў 50 міл. руб., амаль што дзяржаўных сродкаў.

На бліжэйшае пяцігодзьдзе мяркуецца накіраваць 250 міл. руб. у якасьці крэдытных укладаньняў, г. з. у 5 раз больш таго, што было накіравана за мінулыя пяць год.

Сыстэма сельска-гаспадарчага крэдыту павінна так разгарнуць сваю працу, каб насустрач крэдытнаму дзяржаўнаму рублю мабілізаваць ня менш аднаго рубля з распыленых рэсурсаў вёскі.

Насустрач значным укладаньням, якія ідуць зараз у сельскую гаспадарку праз установы сельска-гаспадарчага крэдыту з боку дзяржаўнага бюджэту, сыстэма сельска-гаспадарчага крэдыту павінна арганізаваць акумуляцыю сродкаў, якія накапляюцца ў самой сельскай гаспадарцы, бо, само сабой зразумела, аднымі дзяржаўнымі рэсурсамі забясьпечыць шпаркую перабудову сельскай гаспадаркі немагчыма.

Калі мы даб'емся гэтага жывога пералому на вёсцы, мабілізуем сродкі і самадзейнасьць бядняцка-серадняцкага насельніцтва і добра арганізуем гэтую справу, то мы з пастаўленай зараз перад намі партыяй і ўрадам задачай справімся.

А. Бірыла

# Не дапушчаць скрыўленьня лініі ў адносінах да прамкаапэрацыі

Цікавы факт скрыўленьня лініі ў адносінах да прамкаапэрацыі меў ня так даўно месца з боку ВСНГБ і Белсампрамсаюзу, гэта значыць, з боку органаў, якія па свайму становішчу павінны былі клапаціцца аб ажыцьцяўленьні ўсіх законаў адносна прамкаапэрацыі і стаяць на варце яе інтарэсаў, бо першы з іх—ВСНГБ ажыцьцяўляе дзяржаўнае рэгуляваньне прамкаапэрацыі, а другі—Белсампрамсаюз зьяўляецца непасрэдным кіраўніком прамысловае каапэрацыі.

Аб'ектам скрыўленьня лініі была арцель па вырабу грабянёў „Спартак“ у Менску. Ініцыятыва арганізацыі гэтае арцелі належыць да групы былых рабочых фабрыкі „Франсуа Шурнье“, якая існавала да вайны ў Менску. Складзеная імі арцель, пры дапамозе Белсампрамсаюзу, адбудавала сваімі сіламі маленькую фабрыку, якую пусьціла ў ход толькі 1 кастрычніка 1927 году. За год арцель вызвалілася ад запазычанасьці і атрымала прыбытак у сувязі з тым, што на грабянёвы тавар увесь час меўся вялікі попыт. Наогул мала разьвітая прамкаапэрацыя Беларусі ўзбагацілася такім чынам адным прыкладным каапэрацыйным прадпрыемствам.

Не прайшло і паўгода існаваньня арцелі, як у ВСНГБ і Белсампрамсаюзе насьпела думка ліквідаваць арцель і перадаць яе галянтарэйнай фабрыцы ВСНГБ, якая ўноў будуецца.

У каго першага ўзьнікла гэтая „геныяльная ідэя“, цяпер сказаць цяжка; вядома толькі, што былы старшыня Белсампрамсаюзу тав. Мар'ясін падхапіў гэтую думку і парашыў у чым-бы ні было „паднесьці ВСНГБ арцель на талерцы“.

„Наша арцель перарасьце ў буйную дзяржаўную фабрыку—ёсьць чым ганарыцца“, так апраўдваў тав. Мар'ясін сваю лінію. Думаючы так, Мар'ясін ведаў пра адпаведныя дырэктывы ўраду і партыі, якія катэгарычна забараняюць перадачу каапэрацыйных прадпрыемстваў дзяржпрамысловасьці, паколькі такія зьявішчы дрэнна ўплываюць на ўсю прамкаапэрацыю. Тав. Мар'ясін не зьмяніў свае думкі нават пасьля выданьня пастановы ЦК УсеКП(б) ад 3-га кастрычніка 1928 году, ў якой гаворыцца: „ЦК прапануе ўсім партыйным, савецкім і каапэрацыйным арганізацыям узмацніць увагу і дапамогу саматужна-прамысловай каапэрацыі, ліквідаваць недарэчнасьці ва ўзаемаадносінах, якія маюць месца паміж прамкаапэрацыяй і дзяржпрамысловасьцю, і рашуча змагацца з фактамі адабраньня дзяржпрамысловасьцю каапэрацыйных прадпрыемстваў, няправільнага рэгуляваньня рынкаў саматужных вырабаў і сыравіны, што ўжо прывяло ў шэрагу раёнаў да зрыву вытворчае дзейнасьці прамкаапэрацыі (Скурсындыкат). Неабходна дабіцца таго, каб прадпрыемствы, якія пабудаваны альбо заснаваны сродкамі прамкаапэрацыі, не адбіраліся і не перадаваліся дзяржтрэстам; наадварот, неабходна аказваць усямерную дапамогу прамкаапэрацыі як замацаваньнем за прамкаапэрацыяю часткі ня выкарыстаных дзяржпрамысловасьцю прадпрыемстваў, так і аказваючы адпаведную грашовую дапамогу“.

Так ці інш, летам мінулага году перад арцельлю было пастаўлена пытаньне аб утварэньні дагавору з будаўніцтвам галянтарэйнае фабрыкі аб „добраахвотным“ самаліквідаваньні і пераходзе ўсяе маёмасьці арцелі і сяброў яе да галянтарэйнае фабрыкі.

Каб падкрэсьліць „добраахвотнасьць“ пераходу арцелі, было сказана тав. Мар‘ясіным: „калі не пяройдзеце, дык ВСНГБ можа вас зарэгуляваць і не даць замежнага сырцу, ну, а тады вы зможаце працаваць толькі як „дзікая арцель“. Чуючы з вуснаў старшыні свайго саюзу аб такой пэрспэктыве, вядома, што сябры арцелі пайшлі на ўтварэньне дагавору з утварэньнем галянтарэйнай фабрыкі, тым больш, што адначасова пачаліся замінкі ў збыце тавару, які праводзіў Белсампрамсаюз (прыціснуў і з другога боку). А на падставе дагавору ВСНГБ пачаў будаваць разам з арцельнаю фабрыкаю дзяржаўную галянтарэйную фабрыку.

Аднак, азнаёміўшыся больш дэтальна з дырэктывамі партыі і ўраду, сябры арцелі хутка ўбачылі, што з імі паступілі незаконна і падалі скаргу ў ВСНГ СССР, а пасьля—ў НК РСІ Беларусі.

На запытаньне першага ВСНГБ нават ня даў адказу і толькі тады, калі гэтым пытаньнем зацікавіўся НК РСІ і калі прыехаў у Менск прадстаўнік ВСНГ СССР, толькі тады Белсампрамсаюз і ВСНГБ убачылі, што яны зрабілі ў адносінах да арцелі няправільна, дагавор быў скасаваны, арцелі быў дадзен тэрмін для пераходу ў новае памяшканьне, паколькі на адным двары не маглі існаваць дзяржаўныя і каапэрацыйныя прадпрыемствы.

Паколькі заставалася спрэчным яшчэ пытаньне аб імпартнай сыравіне—цэлюлёідзе, пытаньне аб арцелі „Спартак“ разглядалася на калегіі НК РСІ, якая, па-першае, адзначыла, што з боку ВСНГБ з самага пачатку ня былі ўжыты рашэньні, якія зыходзілі-б з адпаведных рашэньняў саюзнага ўраду і, па-другое, калегія вынесла адпаведнае рашэньне наконт сыравіны.

Трэба дадаць яшчэ пра астатнія буйныя недахопы ў кіраваньні з боку Белсампрамсаюзу, якія вызначаліся на прыкладзе арцелі „Спартак“. Галоўнаю прычынаю адмаўленьня арцелі „Спартак“ уліцца ў дзяржаўную фабрыку была пэрспэктыва значнага зьніжэньня зарплаты пры пераходзе туды. Дзякуючы таму, што Белсампрамсаюз ня вёў тарыфна-нарміровачнае працы сярод сваіх таварыстваў, арцель „Спартак“, карыстаючыся вельмі карыснаю каньюнктураю на грабянёвы тавар з цэлюлёіду асабліва прыкметнага, значна ўздула зарплату для сваіх сяброў (майстра атрымоўваў ад 200—250 рублёў у месяц, некваліфікаваная работніца—да 150 руб.).

Нават старшыня арцелі, партыец, пасклізнуўся на гэтай глебе, давёў сваю пэнсію да 300 руб. у месяц і пачаў будаваць дамы.

Аднак, галоўным віноўцам таго, што ў арцелі зьявілася „рвацтва“, трэба лічыць Белсампрамсаюз. Высьветлілася яшчэ, што арцельлю кіруе не асяродак былых рабочых, а дробна-буржуазная група домаўласьнікаў, якая ўдзельнічае ў арцелі са сваімі капіталамі.

З пераходам у новае памяшканьне патрэбна пашырыць арцель і ўліць у яе групу беспрацоўных, а абсталяваньне гэта дазваляе.

Наогул прыклад арцелі „Спартак“ сьведчыць, што ў нас не заўсёды захоўваецца выразная лінія партыі і ўраду ў адносінах да прамкаапэрацыі, якая мае асабліва важнае значэньне для аграрна-перанасялёнае Беларусі. У прыватнасьці, не заўсёды захоўваюцца правільныя ўзаемаадносіны паміж дзяржпрамысловасьцю і прамкаапэрацыяй.

І. Г.

# Агляд кан'юнктуры па сыстэме спажыўкаапэрацыі БССР за сакавік м-ц

*(паводле матар'ялаў Пл.-Эк. Бюро БКС)*

*Агульная ацэнка.* Параўнальна з лютым, які характарызаваўся памеранай кан'юнктурай, сакавік прынёс прыкметнае ажыўленьне. Гэты пералом у большай меры выявіўся ў нізавым зьвенчаку, і асабліва ў сельскім яго сэктары.

Адзначаныя тэндэнцыі ў нізавым зьвенчаку, аднак, не пасьпелі яшчэ перайсьці поўнасьцю ў верхнія зьвенчакі сыстэмы, як вынік натуральнага імкненьня нізавога зьвенчака вызваліцца ад тых падвышаных запасаў, з якімі яно ўступіла ў сакавік месяц.

Тэмпы прыросту зваротаў асобных арганізацый у сакавіку, параўнальна з лютым бягучага і мінулага году, паказаны ў наступнай табліцы:

| Зьвенчакі | Гады | Паступл. тавараў | Зварот па продажы | Рэшта: У абсал. выраж. | Рэшта: У днёх: Люты | Рэшта: У днёх: Сакавік |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сельскія | 1928-29 | +18,0% | +29,0% | —0,4% | 47 | 36 |
| | 1927-28 | +49,4 „ | +34,5 „ | +21,5 „ | 37 | 35 |
| Ц. Р. К. | 1928-29 | 8,2 „ | 10,6 „ | —4,8 „ | 43 | 36 |
| | 1927-28 | 36,0 „ | 18,2 „ | 25,6 „ | 37 | 40 |
| Саюзы | 1928-29 | —3,5 „ | 14,6 „ | —16,0 „ | 30 | 22 |
| | 1927-28 | 35,5 „ | 45,5 „ | —4,6 „ | 29 | 21,5 |

Ажыўленьне зваротаў у гэтым годзе праходзіла менш інтэнсыўна, чым у сакавіку мінулага году, што ў асноўным тлумачыцца паніжэньнем задавальненьня некаторымі дэфіцытнымі таварамі спажыўкаапэрацыі БССР, таксама яшчэ і тым, што летась прадсьвяточная паласа ў гарадох прыпала на сакавік месяц, сёлета яна будзе мець месца ў красавіку.

У супярэчнасьці з падвышаным попытам паранейшаму знаходзілася нездавальненьне тавarнага асартымэнту, палітыка нармаваньня разьмеркаваньня найбольш важных тавараў спажываньня, што ў асноўным вызначыла наперад пры некаторым зьмякчэньні фінансавую напружанасьць усіх зьвенчакоў сыстэмы.

*Забесьпячэньне.* Паасобныя рынкі важных тавараў спажываньня у сакавіку не далі значных зьмен.

Завоз некаторых у сакавіку амаль падвоіўся параўнальна з лютым, устанавіўшыся на студзеньскім узроўні.

Гэтае павялічэньне ў асноўным праходзіла за лік папаўненьня недагрузак лютага і часткова нават студзеня. Да таго-ж, цэлы шэраг паступленьняў прыпаў на канец сакавіка і не пасьпеў таму аказаць уплыву на здавальненьне спажывецкага попыту.

Асартымэнт тэкстылю паранейшаму заставаўся нездавальняючым, і становішча тэкстыльнага рынку паранейшаму заставалася напружаным.

Адсутнічалі камвольныя і суконныя тканіны. У баваўнянай групе адчуваўся моцны дэфіцыт у асабліва ходкіх сэзонных тканінах і тканінах на бялізну пры наяўнасьці мала-ходкай шарсьцянкі.

Гатовае адзеньне атрымала ў сакавіку ажыўленую рэалізацыю. Разам з тым адзначаецца і далейшая недавыбарка гатовага адзеньня, у большай ступені сельскай сеткай і ў меншай—гарадзкой. Недавыбар занаражаных норм склаў адпаведна 45,5 проц. і 23 проц.

У значнай меры недавыбар зьвязаны з труднасьцямі якаснага і асартымэнтнага парадку. Арганізацыі паказваюць на востры недахват найбольш патрэбных памераў сэзонных сьветлых паліто і гарнітураў і г. д.

Рынак скураных тавараў заставаўся надзвычайна напружаным. Паранейшаму ня было палувалу і падэшвы. Некаторыя адгрузкі гэтых тавараў у канцы гэтага месяцу, акрамя сваей нязначнасьці, трапілі ўжо ў рэалізацыю ў красавіку. Адсутнасьць падэшвы і палувалу выклікала некаторую перагрузку сыстэмы мяккім раскроем—выцяжкамі і халявамі, што не знаходзіла выстарчальнае рэалізацыі.

Сэзоннае разьвіцьцё звароту з гатовым абуткам сустракала некаторыя перашкоды: на гарадзкім рынку—з прычыны недахопу каляровага прыгожага абутку і веснавога жаночага, і на сельскім рынку—у рабочых ботах і танным абутку масавага попыту (асабліва жаночым шагрэневым). Паасобныя паведамленьні карэспандэнтаў падаюць выпадкі надзвычайна істотных вытворчых недахватаў у саматужным абутку саматужнага вырабу (заднікі з кардону і ліпавае кары).

З групы прадуктаў харчаваньня прамысловага характару некалькі абвострылася становішча на цукровым рынку, з прычыны больш паменшанага завозу ў сакавіку супроць лютага і ўзросшага попыту насельніцтва. Неабходнасьць нармальнага забесьпячэньня насельніцтва патрабавала вылучэньня цукру ў кола тавараў, якія нармуюцца.

На соль у сакавіку месяцы прад'яўляўся вельмі падвышаны попыт: у выніку ў шэрагу арганізацый запасы солі к канцу сакавіка значна скараціліся пры падвышаным завозе.

Завоз алею павялічыўся, што забясьпечыла выстарчальную падрыхтоўку сеткі да ўзмоцненае рэалізацыі ў красавіку. Наогул, здавальняючай ацэнкай можна таксама адзначыць і стан забесьпячэньня гэтым прадуктам і гарадзкога насельніцтва.

Некаторае паляпшэньне чакаецца з забесьпячэньнем насельніцтва чаем, крупамі, рысам.

З групы гаспадарчых тавараў хатняга спажываньня ў вялікім попыце, пераважна з боку сельскага насельніцтва, былі самавары, прасы, мясарубкі, швэйныя машыны і мэбля.

Хлебны рынак характарызаваўся павялічэньнем завозу хлеба ў сакавіку параўнальна з ранейшымі месяцамі гэтага кварталу, пры невялікім падвышэньні ўнутраных загатовак. Завезена ў сакавіку 708 вагонаў, у лютым—489 і студзені—470. Загатоўлена ў сакавіку 5495 тон супроць 5275 тон у лютым.

Як мерапрыемства, накіраванае да далейшага рэгуляваньня разьмеркаваньня хлеба, трэба адзначыць падрыхтоўчую работу да ўвядзеньня хлебных заборных кніжак.

Што датычыцца іншых груп сельска-гаспадарчых тавараў, то мясны рынак у сакавіку праяўляў некаторыя адзнакі пагоршаньня кан'юнктуры, выкліканае забаронаю вывазу мясных прадуктаў з Украіны і зьніжэньня ўнутраных загатовак. З мяснога асартымэнту амаль зьнікла сьвіное мяса і вырабы з яго.

Забесьпячэньне насельніцтва малочнымі прадуктамі і яйкамі ў сакавіку значна палепшылася, у зьвязку з чым адзначаецца паніжэньне рыначных цэн на гэтыя прадукты.

*Загатоўкі.* Загатоўчыя апэрацыі спажыўкаапэрацыі ў сакавіку разьвіваліся пад уплывам адзнак, якія яму ўласьцівы, што характарызуюцца сканчэньнем зімовых кантынгентаў і пачаткам разгортваньня новых загатоўчых відаў.

Затрыманьнем для разьвіцьця загатовак у сакавіку месяцы плянавым сэктарам і ў тым ліку спажыўкаапэрацыяй зьяўлялася пераважнае асяданьне хлеба і сырцу ў заможных груп сельскага насельніцтва, якое ўстрымліваецца ад рэалізацыі, чакаючы больш высокіх цэн, далейшае разьвіцьцё ўнутрысялянскіх зваротаў і ў выніку гэтага некаторы далейшы разрыў загатоўчых і цэн рынку.

Вынікі загатовак спажыўсыстэмы ў адносным выяўленьні (%%) да пляну і да студзеня складаюць:

| | Выкананьне пляну =100% | | Сакавік у %% да лютага |
|---|---|---|---|
| | Люты | Сакавік | |
| Хлебапрадукты | 63,0 | 68,4 | 103,0 |
| Ільнасемя | 53,8 | 54,7 | 33,9 |
| С.-г. сырэц і прадукты | 75,0 | 88,8 | 116,0 |

З групы с.-г. сырцу і прадуктаў недавыкананьне плянавых меркаваньняў за месяц выяўляюць: пянька—66 проц., пушніна—27,3 проц., шчаціна—54,5 проц., масла сьмятаннае—36,5 проц., яйкі—67 проц. і анучы—48,2 проц.; перавышэньне заданьня на сакавік паказваюць: скірсырэц буйны +25 проц. і мехсырэц +73 проц.

У супроцьстаўленьні з родам загатовак па БССР у цэлым, можна адзначыць, што ў сакавіку спажыўкаапэрацыя працягвала захоўваць падвышаную ўдзельную вагу параўнальна з яе ўдзельным месцам па пляну.

*Фінансы.* Сакавік ў другой сваёй палове прынёс некаторае паслабленьне фінансавага напружаньня ў зьвязку з павялічэньнем зваротаў, зьмяншэньнем таварных запасаў, вызваленьнем загружаных у загатоўчых апэрацыях, таксама і прадстаўленьнем спажыўкаапэрацыі кароткатэрміновых пазык звыш банкаўскіх лімітаў.

Ня гледзячы на гэта, фінансавае становішча ўсіх зьвенчакоў сыстэмы знаходзілася паранейшаму ў стане значнага напружаньня, што грунтавалася ў асноўным у існуючых формах таварарэзьмеркаваньня (таварныя рэзэрвы), нездавальненьне асартымэнту, затрыманьне пастаўшчыкамі сродкаў сыстэмы ў відзе авансаў, падрыхтоўка запасаў да летняга сэзону за даволі працяглы пэрыод да яго наступленьня, пагоршаньне ўмоў разьліку.

Да групы фактараў, што пагаршаюць фінансавае становішча, трэба яшчэ аднесьці нездавальняючы ход паянакапленьня ў сыстэме—сабрана на 1/IV паявых капіталаў: па сельскаму сэктару—51 проц. гадавога заданьня, а па гарадзкой сетцы—70 проц. паўгадавога заданьня.

М. Жукаў

# Аб дзікіх каапэратывах у сыстэме сельгаскаапэрацыі БССР і мерах барацьбы з фіктыўнымі каапэратывамі

Выцісканьне дзяржаўнымі і каапэрацыйнымі арганізацыямі прыватна-капіталістычных элемэнтаў ставіць апошнія перад неабходнасьцю выкарыстаньня імі розных, у тым ліку і каапэрацыйных, форм у сваіх асабовых мэтах праз аб'яднаньне ў розныя каапэратывы.

Раней чым перайсьці да характарыстыкі асобных відаў фіктыўных каапэратываў, мэтадаў іх выяўленьня і барацьбы з імі, неабходна, хоць коратка, спыніцца на пытаньнях, якія зьвязаны з наліччам і прычынамі стварэньня так званых дзікіх каапэратываў, бо выяўленьне і барацьба з гэтымі каапэратывамі цесна зьвязана з пытаньнямі вывучэньня, абгляду і аздараўленьня дзікіх каапэратываў.

Па няпоўных ведах, па становішчу на 1 кастрычніка 1928 году ў сыстэме сельгаскаапэрацыі Беларусі ёсьць наступны лік дзікіх каапэратываў: у Гомельшчыне 3 малочныя таварыствы, у Бабруйшчыне 105 мэліорацыйных таварystваў, на Полаччыне 63 мэліорацыйных і 19 тарпяных, на Віцебшчыне 1 калгас, 30 машынных, 115 мэліорацыйных, 17 тарпяных, 4 рыбалоўных, і 8 насеннаводных, а ў Меншчыне 40 мэліорацыйных, 18 тарпяных, 4 насеннаводных, 13 жывёлагадоўчых, 2 кантрольных, 4 садова-гародных і 2 птушкаводных.

Неабходна адзначыць, што найбольшая колькасьць дзікіх каапэратываў прыпадае на мэліорацыйныя і тарпяныя таварыствы, а гэта тлумачыцца тым, што нядаўна толькі вырашана пытаньне аб пераходзе гэтага віду аб'яднаньняў у сыстэму селгаспкаапэрацыі, бо да гэтае пастановы гэтыя каапэратывы былі пад загадам земорганаў і не маглі быць адразу ўцягнуты ў сельгаспкаапэрацыю.

Налічча дзікіх каапэратываў ставіць перад селгаспкаапэрацыяй неадкладную задачу ў галіне абгляду іх, для ўцягненьня іх ў каапэрацыйныя сыстэмы, з аднаго боку, і, з другога, выяўленьня з іх асяродкаў яскрава-фіктыўных каапэрацыйных аб'яднаньняў і ўжыцьця адпаведных мер да іх ліквідацыі.

Праца па абгляду дзікіх каапэратываў павінна быць праведзена сельгаскаапэрацыяй у пэрыод правядзеньня справаздачы перавыбарчае кампаніі, пры чым папярэдні неабходна разам з рэгулюючымі органамі, як Акрза і Аддзел грашовых спраў, скласьці сьпіс каапэрацыйных аб'яднаньняў, якія зарэгістраваны, але не ўваходзяць у сыстэму, а таксама і тых каапэратываў, якія састаяць членамі каапэрацыйных саюзаў, але ня маюць з апошнімі належнае арганізацыйнае і гаспадарчае сувязі.

Да справы абгляду дзікіх аб'аднаньняў і выяўленьня фіктыўных каапэратываў павінны быць прыцягнуты сілы рэгіструючых органаў.

Пры вытварэньні абгляду, той, хто вытварае іх, павінен у акце разам з другімі весткамі даць заключэньне аб магчымасьці аздараўленьня таго ці іншага фіктыўнага каапэратыву з ліку абгледжаных дзікіх аб'яднаньняў.

Па сканчэньні абгляду каапэратываў вышэйпаданых катэгорый на мясцох у акрсельсаюзах ствараюцца камісіі, з удзелам прадстаўнікоў Акрвыканкому, РСІ, Акрза і Акрфо, якія, па дадзеных абгляду, выносяць

заключэньні аб магчымасьці ўцягненьня ў каапэрацыю асобных дзікіх каапэратываў і аб ліквідацыі тых з іх, якія ня могуць быць аздароўлены вышэйпаданымі мерамі і якія па сваёй існасьці і напрамку дзейнасьці зьяўляюцца яскрава фіктыўнымі каапэратывамі. Мерамі аздараўленьня ў адносінах да тых каапэратываў, дзе большасьць членаў складаюць беднякі і серадднякі і дзейнасьць якіх можа быць выпраўлена, зьяўляюцца наступныя:

а) перавыбары органаў кіраваньня і рэвізіі;

б) прыцягненьне ў склад членаў каапэратыву новых членаў з беднякоў і серадднякоў;

в) уцягненьне іх у каапэрацыйную сыстэму;

г) узмацненьне інструктарскага кіраўніцтва і кантролю;

д) выключэньне са складу каапэратыву кулацкіх элемэнтаў.

У мэтах уцягненьня ў каапэрацыйную сыстэму дзікіх каапэратываў неабходна ўжываць мэтады эканамічнага ўзьдзейнічаньня да ўпартых дзікіх каапэратываў. Гэтыя мэтады ў асноўным павінны быць наступныя:

а) поўнае зачыненьне крэдыту;

б) спыненьне водпуску тавараў;

в) неаказаньне агранамічнае і другое дапамогі і падтрыманьня.

Разам з гэтым павінна быць зьвернута вялікая ўвага на паляпшэньне справы арганізацыйнага і гаспадарчага абслугоўваньня ўсіх уцягнутых дзікіх каапэратываў, праводзячы гэтую работу з кропкі погляду стварэньня стымулю і неабходнасьці для астатняй пасыўнай часткі дзікіх аб'яднаньняў уваходжаньня ў каапэрацыйную сыстэму.

У мэтах папярэджаньня ў далейшым арганізацыі фіктыўных каапэратываў, неабходна патрабаваць пры рэгістрацыі новых каапэрацыйных аб'яднаньняў сьпісы ўстаноўцаў з абавязковаю адзнакаю маёмаснага становішча кожнага і другія весткі, якія характарызуюць сацыяльны склад устаноўцы (памеры сельгаспадатку і г. д.). Апрача таго, акрсельсаюзы павінны дабіцца пры дасылцы гадавое справаздачы абавязковае дасылкі асобных сьпісаў на „заможных“ і „іншых“, бо гэтым будзе створана магчымасьць ўстанаўленьня кантролю за сацыяльным складам выбарчых органаў каапэратыву.

У заключэньне неабходна адзначыць, што выпадкі падтрыманьня фіктыўных каапэратываў у форме крэдытаваньня, забесьпячэньня таварамі і г. д. яшчэ ёсьць, і гэтаму павінен быць пакладзены рашучы канец.

---

# НА МЯСЦОХ

А. Г.

## Бяспрытульныя

(*Бабруйская акруга*)

Як ні дзіўна, але трэба лічыцца з фактам, што агняўпартыя таварыствы нашае акругі застаюцца і па гэты дзень бяспрытульнымі. Таварыствы па агняўпартаму будаўніцтву пачалі разгортвацца ў апошнія дватры гады. Да жніўня 1928 году ўсе гэтыя таварыствы павінны былі быць членамі акрсельсаюзу і арганізацыйна ім абслугоўвацца. Але ў жніўні пастановаю Белсельсаюзу было вырашана ў парадку разьмежаваньня функцый паміж сельгаскаапэрацыяй і сампрамкаапэрацыяй перадаць усе таварыствы сампрамкаапэрацыі для абслугоўваньня. На гэтай падставе акрсельсаюз з адчуваньнем удзячнасьці пераслаў Сампрамсаюзу ўсе справы таварystваў і прасіў пачаць іх абслугоўваньне.

Але тут чамусьці захваляваліся працаўнікі зямельных органаў і часткова некаторыя кіраўнікі таварystваў і пачалі даказваць, што таварыствы павінны абслугоўвацца толькі Сельсаюзам, але ні ў якім выпадку сампрамкаапэрацыяй.

На нарадзе таварystваў было пастаноўлена перадаць сампрамкаапэрацыі толькі тыя таварыствы, членамі якіх зьяўляецца неземляробчае насельніцтва і якое займаецца выключна выпрацоўкай будаўнічых матар'ялаў. Астатнія перадаць сельгаскаапэрацыі і стварыць там сэкцыю.

Гэтая пастанова да гэтага часу ў жыцьцё не праведзена. Акрсельсаюз адмаўляецца ад абслугоўваньня таварystваў, а сампрамкаапэрацыі іх не перадаюць. У выніку таварыствы застаюцца бяспрытульнымі без усялякага арганізацыйнага кіраўніцтва.

А патрэба ў кіраўніцтве вялікая. Маюцца растраты, бывае, што справаздачнасьць зусім не вядзецца, не ўрэгуляваны пытаньні заробчае платы і калькуляцыі вырабаў. Заўважаецца замкнутасьць.

Можна было-б пералічыць яшчэ цэлы шэраг такіх зьявішчаў, але і гэтае паказвае, што пакінуць таварыствы агняўпартага будаўніцтва надалей без кіраўніцтва немагчыма.

---

Супрацоўнік

## „Узорны рэвізор"

(*Мазыршчына*)

Старшыня рэвізійнае камісіі Мазырскага спажывецкага т-ва „Смычка" тав. Піскуноў мае ўсе ўзоры „прыкладнага рэвізора".

Гаспадарчы год скончыўся ўжо пяць месяцаў назад, але яшчэ да гэтага часу няма актаў перавучоту тавараў па крамах спажывецкага т-ва, ня зроблена рэвізія бухгальтэрыі і не дадзена заключэньне гадавой справаздачы.

Калі член праўленьня зьвярнуўся да яго і пісьмова і вусна аб сканчэньні рэвізіі, дык Піскуноў абурыўшыся адказаў: „Не гарыць, пасьпеем з рэвізіяй", і гэта ў той час, калі хвалі растрат разьліваюцца па каапэрацыйнай сетцы, калі рэўкамісія павінна быць асабліва зоркай.

Затое Піскуноў можа служыць прыкладам „ашчадных“ адносін да каапэрацыйных сродкаў. Неафіцыйна набраў у краме тавараў у крэдыт рублёў на 50, што ўжо вядома праўленьню і, пэўна, на большую суму, яшчэ невядомую праўленьню, і ўжо больш году, ня гледзячы на неаднакротнае папярэджаньне, не аддае. Гэты, кажуць прыказчыкі, „сьпіртны доўг“ трымаецца дужа доўга!..

Калі да гэтага дадаць, што наш паважаны рэвізор за два гады знаходжаньня на выбарчай працы яшчэ не зьяўляецца пайшчыкам каапэрацыі (ён знаходзіць гэта лішнім) дык атрымаецца бясспрэчны малюнак „узорнага рэвізора“, якога трэба гнаць у шыю з каапэрацыі.

---

С. Іофінаў

## Чаму не паступае закантрактаваная бульба?

(*Багушэўскі раён, Аршанскае акругі*)

Самая галоўная прычына непаступленьня закантрактаванае бульбы ў нас—гэта няроўныя цэны.

Раней за бульбу плацілі 39 кап. за пуд, потым сталі плаціць 45 к., а зараз плацяць па 60 кап. Але чамусьці кантрактоўшчыкам плацяць менш, чым астатнім сялянам, усяго толькі па 45 кап, у той час, калі ўсім іншым па 60 кап.

Ёсьць пастанова акруговае бульбяное канвэнцыі аб тым, каб плаціць за бульбу кантрактоўшчыкам па Багушэўскаму раёну па 60 кап. Сельскагаспадарчае крэдытнае т-ва абвясьціла аб гэтым сялян, а Янаўскі завод яшчэ да гэтага часу плаціць кантрактоўшчыкам усяго толькі 45 кап. за пуд (кажуць, што няма пастановы з Менску). Завод чакае, чакаюць і сяляне здаваць бульбу, бо селянін за тое, што ён закантрактаваў з вясны бульбу і атрымаў 35 руб. авансам на гэктар, зараз церпіць страты супроць некантрактоўшчыкаў па 15 кап. на пудзе, альбо 39 руб. на гэктары. Выходзіць, што на атрыманы вясною аванс на гэктар 35 руб. селянін прымушаны зараз траціць 39 руб., больш чым 106 проц. Гэта адбівае ахвоту ў сялян на далейшую кантрактацыю. З эканамічнага боку селяніну карысьней заплаціць нават няўстойку і пені, але ня здаць закантрактаванае бульбы.

Дзякуючы гэтаму шмат кантрактоўшчыкаў здаюць сваю бульбу на завод праз сваіх суседзяў некантрактоўшчыкаў, каб атрымаць большую суму.

Акрамя гэтае розьніцы ў цэнах паміж кантрактоўшчыкамі і іншымі сялянамі, чамусьці завод залічвае за пуд выдадзенае бульбы на насеньне па 45 кап., калі згодна дагавору ён павінен быў-бы залічваць толькі 28 к. Такім чынам, фактычна зараз ня выконваюцца ўмовы па кантрактацыі. Гэтая розьніца ў цэнах на бульбу паміж кантрактоўшчыкамі і некантрактоўшчыкамі прымушае сялян прытрымліваць бульбу і чакаць далейшага падвышэньня цэн, а адсутнасьць у дагаворах пені за несваечасовую здачу бульбы дае поўную на гэта магчымасьць.

Неабходна зараз-жа спыніць гэтую вакханалію з цэнамі на бульбу, параўняць цэны для кантрактоўшчыкаў і некантрактоўшчыкаў, спыніць сыстэматычнае падвышэньне цэн і ўстанавіць точны процант пені за пратэрміноўку здачы бульбы.

Гэта павінна палепшыць становішча бульбянога рынку Аршанскае акругі.

---

К. Гэршковіч

# Неадкладныя задачы

Апрача асноўнае задачы перавыбараў органаў кіраўніцтва і кантролю перад сампрамарцелямі стаяць неакладныя сур'ёзныя задачы, якія ў штодзённай рабоце павінны праводзіцца ў жыцьцё. Асабліва цяпер гэтыя пытаньні маюць сваё кардынальнае значэньне. Задачы гэта такія: цэлы шэраг арцеляй дзякуючы розным „аб'ектыўным" і „суб'ектыўным" прычынам засьмецьцены чужым элемэнтам—„былымі людзьмі," нэпманамі малога і вялікага калібру і інш., якія не прыстасаваліся да арцельнага жыцьця, а для асабістых інтарэсаў „прыстасаваліся" з посьпехам. Яны выкарыстоўваюць арцелі для сябе: выкарыстоўваюць слабыя хваравітыя бакі арцелі, каб дыскрэдытаваць кіраўнікоў. Прысмакталіся да арцеляй і заможныя саматужнікі даўнейшае эксплёатацыі. Многія з гэтакіх элементаў стаяць нават на чале некаторых арцеляй. Усяму гэтаму сьмецьцю павінна быць абвешчана вайна. Шэрагі сампрамарцеляй павінны быць ачышчаны ад такіх людзей. Віхацца нельга.

Замест вычышчаных павінна быць уцягнута саматужная бедната гораду і мястэчка, якія дзякуючы таму, што іншы раз нават ня можа ўнесьці паявога ўзносу і „ўкладу", не паступіла ў арцель. Ёсьць выпадкі, калі беднякі-саматужнікі ідуць да рабіна за пазыкаю. Апошнія даюць вельмі ахвотна, нават на „ільготных" процантах для таго, каб уцянуць саматужніка ў свой рэлігійны гурток. Гэтага не павінна быць. Арцелі павінны быць адчынены для беднякоў, а не для заможных саматужнікаў і „даўнейшых" людзей.

Кожная арцель на перавыбарчым сходзе павінна паставіць пытаньне, што ёю зроблена для дапамогі беднаце.

Трэба, каб былі вылучаны спэцыяльныя сумы з прыбыткаў для каапэраваньня беднаты. Ёсьць такія выпадкі, што многія арцелі, у якіх многа работы і досыць высокі памер заработнае платы, да гэтага часу яшчэ замкнутыя для беднякоў-саматужнікаў. З такімі арцелямі трэба таксама ваявацъ. Ніякіх адгаворак. Клясавая лінія ў сампрамарцелях павінна праводзіцца сур'ёзна, строга, пабальшавіцку. Трэба даць ведаць бедняку саматужніку што савецкая ўлада для яго, а не для „даўнейшых" людзей.

Другая задача—узмацненьне кіраўнічага складу арцеляй і крэдытнапрамысловых таварыстваў. Да апошняга часу ў многіх арцелях мы наглядаем яшчэ моманты безгаспадарчасьці, безадказнасьці, слабое кіраўніцтва, каапэрацыйную няпісьменнасьць і г. д. Бывае, што на кіраўнічай вяршыні знаходзяцца заможныя саматужнікі. Ад усялякіх дрэнных кіраўнікоў сампрамарцелі сёлета павінны пазбавіцца. Пара даць сампрамкаапэрацыі добрых работнікаў, асабліва цяпер у пэрыод некаторых гаспадарчых цяжкасьцяў.

Партыйныя і савецкія арганізацыі павінны сур'ёзна падумаць пра гэта. Кандыдатуры трэба падрыхтаваць загадзя і выявіць іхную працаздольнасьць.

Пытаньне пра якасьць павінна стаяць вышэй ўсяго. Ад паляпшэньня якасьці залежыць далейшы лёс і разьвіцьцё сампрамкаапэрацыі.

Ня менш важнаю задачаю перавыбарчае кампаніі зьяўляецца пытаньне грашовага ўзмацненьня арцелі. Пай у многіх арцелях невялікі і не адпавядае зваротам арцеляй. Ня ўсюды пай цалкам унесены.

Атрыманы сёлета прыбытак павінен пайсьці цалкам на гаспадарчае ўзмацненьне арцеляй. Разьмеркаваньне прыбыткаў паміж членамі арцелі ня можа быць.

Востра павінна стаць пытаньне пра скарачэньне выдаткаў у арцелях.

У больш буйных арцелях трэба наладзіць культработу. Утварыць гурткі, выдаваць насьценгазэты і г. д. Многа складаных пытаньняў павінна вырашыць сампрамкаапэрацыя. Пачатак пакладзены ў перавыбарчай кампаніі, але работа павінна адбывацца штодня.

Да правядзеньня ўсіх паказаных задач павінны быць мабілізаваны ўсе сілы мясцовых арганізацый. Крэдытна-прамысловыя таварыствы павінны прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні перавыбарчае кампаніі.

---

Воранаў

## З перавыбараў сампрамкаапэрацыі

*(Бабруйшчына)*

На падставе вопыту перавыбарчае кампаніі ў саветы для большае актывізацыі склікаюцца сходы беднаты і па перавыбарах органаў кіраўніцтва і кантролю па сыстэме сампрамкаапэрацыі.

Прапрацоўка пытаньняў, якія належаць да абгаварэньня на сходах, падымае актыўнасьць беднаты, выяўляе налічча барацьбы паміж заможнай часткі членаў і беднаты.

Правадзімая праца сярод беднаты, як паказваюць вынікі ходу перавыбараў, паляпшае склады кіруючых органаў за кошт беднякоў, павялічвае лік беднякоў, якія выступаюць з крытыкаю работы. Дужа рэдкія выпадкі, каб бедната, прымаючы тое ці іншае рашэньне на сваім сходзе, зьмяняла яго.

Уся кампанія праводзіцца пад зьдзейсьненьнем самакрытыкі і ў большасьці гэтая самакрытыка дужа дзелавая.

---

Усе каапэрацыйныя працаўнікі, усе пайшчыкі павінны прымаць самы актыўны ўдзел у сваёй часопісі!

**ПІШЫЦЕ, ШТО НОВАГА У РАБОЦЕ НА МЯСЦОХ, ЯКІЯ ДАСЯГНЕНЬНІ, ШТО ПЕРАШКАДЖАЕ РАБОЦЕ**

Лісты дасылайце па адрасу:

**Менск, Савецкая, 43, Усекабанк Рэдакцыі „Каапэрацыі БССР“.**

# КААПЭРАЦЫЯ ЗА МЯЖОЮ

Кароль Бітэль

## Швэйцарыя

Швэйцарыя налічвае няпоўных 4 мільёны насельніцтва. Яе каапэрацыйнае жыцьцё набыло выразныя формы. Галоўная маса спажывецкіх аб'яднаньняў уваходзіць у „Саюз швэйцарскіх спажывецкіх аб'яднаньняў“ у Базэлі. Акрамя таго, тут, як і ў Нямеччыне, ёсьць Саюз спажывецкіх таварыстваў „Канкордыя“, які блізка стаіць да хрысьціянска-каталіцкіх рабочых арганізацый.

Лік рабочых арганізацый у спажывецкіх саюзах буйнейшых гарадоў Швэйцарыі ўсё зьмяншаецца. Саюз, які існуе з 1890 г., узьнік у зьвязку за барацьбой, якую спажывецкія аб'яднаньні вялі супроць высокіх мытаў на мяса, жыта і віно, якімі ўрад аграрыяў доўга сьціскаў спажыўцоў.

У „Саюз швэйцарскіх спажывецкіх аб'яднаньняў“ уваходзіць 115 мясцовых аб'яднаньняў з амаль 2.000 крамамі і 348.000 членамі. Акрамя таго, саюз налічвае каля 41.000 пакупцоў—ня нленаў. Звароты 1927 году дасягалі 271 міл. швэйцарскіх марак, пры ўласным капітале ў 9 мільёнаў франкаў. Такім чынам, швэйцарскія каапэрацыйныя аб'яднаньні, маючы на мэце даваенныя цэны, дасягнулі толькі 35 проц. павялічэньня. У каапэрацыйных аб'яднаньнях працуе 7.400 рабочых і служачых.

Характэрна, што ў Швэйцарыі, як і ва многіх іншых краінах, лік членаў усё зьмяншаецца. У 1921 годзе агульны лік членаў тут быў 368.655 параўнальна з 1926 годам, калі лік іх зьнізіўся да 352.000 чал. Пасьля ўвядзеньня прадуктовых нормаў, лік членаў усюды зьнізіўся. У зьвязку з гэтым няма нічога дзіўнага, што толькі адзін Цурыхскі прадуктовы саюз за апошні год страціў 2.600 членаў. Памяншэньне ліку членаў у швэйцарыі трэба зьвязаць з тэй акалічнасьцю, што паводле заканадаўства, якое там існуе, скідка, якая даецца ня членам, не абкладаецца падаткам, і, такім чынам, гэтыя каапэратывы ў падатковых адносінах знаходзяцца ў лепшым становішчы.

У якасьці зваротных капіталаў Швэйцарскае каапэрацыйнае аб'яднаньне, аналёгічна іншым краінам, мае, акрамя 9 мільёнаў франкаў уласных сродкаў,—56 мільёнаў укладаў і на 30 мільёнаў аблігацыйных пасьведчаньняў. Ранейшая залежнасьць ад пабочных сродкаў, такім чынам, значна паслабла.

Саюз аднача́сова ўзяў на сябе функцыі таварыства гуртовых закупак. Апэрацыі яго ўсё больш пашыраюцца. За апошні год звароты яго павялічыліся на 10 проц. і дасягнулі цяпер 139 мільёнаў франкаў супроць 123,5 мільёнаў у 1924 г. і 45,7 мільёнаў да вайны ў 1914 г.

У вытворчых адносінах саюзам ахоплены млынавая і абутковая вытворчасьць, вытворчасьць харчовых тлушчаў, кофэ, кухонныя прыправы, кандытэрская, зубнога парашку і друк.

Ранейшы банкаўскі аддзел у чэрвені 1927 г. рэарганізаваны ў самастойны „Каапэрацыйны і Рабочы Банк“, з капіталам у 3,67 міл. швэйцарскіх франкаў, з якіх 2 мільёны ўнесены саюзам.

Тады-ж было пастаноўлена, што акруговыя саюзы, пры наяўнасьці большасьці $^{2}/_{3}$ галасоў, маюць права рэвізаваць дзейнасьць саюзу.

У адносінах прапаганды таксама адзначаны посьпехі. Тыраж каапэрацыйных часопісяй ў 1927 г. дасягаў 247.000 экзэмпляраў. Яны выдаюцца ў нямецкай, францускай і італьлянскай мовах, бо ўсе трымовы зьяўляюцца абіходнымі ў краіне. Вялікі попыт надаецца на фільмы, з якіх 6 складаюць маемасьць саюзу.

З мясцовых спажывецкіх аб'яднаньняў найбольш вядомымі зьяўляюццл Базэльскае і Цурыхскае. Асабліва Базэльскае, бо за ім ёсьць слава, што яно зьяўляецца тым аб'яднаньнем у Эўропе, якое каапэравала амаль 90 проц. насельніцтва. „Усеагульнае Спажывецкае Аб'яднаньне" мае цяпер 43 тысяч членаў розных станаў і сацыяльных становішч. У сваіх 190 крамах яно робіць зварот у 53 мільёны франкаў. Служачых—1.700 чал. Акрамя таго, яно мае склад, спэцыяльныя магазыны і цэлы шэраг уласных прадпрыемстваў. Яно таксама прымае ўдзел у жыльлёвай палітыцы—450 кватэр кіруюцца саюзам.

Трэба таксама адзначыць, што саюз прытрымліваецца „строгага палітычнага нейтралітэту". Гэта асабліва выявілася ў часе барацьбы, якую рабочыя вялі супроць варожых мытаў, калі саюз застаўся ў баку і гэтым натуральна аказаў дапамогу ворагам рабочае клясы. У Базэлі некалькі разоў адбывалася вострая палітычная барацьба за ауладаньне праўленьнем, у якім за апошнія гады камуністыя і сацыял-дэмакраты мелі большасьць, якая перайшла ў апошнім годзе да бюргэраў.

Швэйцарскія спажывецкія аб'яднаньні зноў прымушаны весьці вострую канкурэнтную барацьбу супроць капіталістычнае сыстэмы філіяльнага гандлю прадуктамі першае неабходнасьці, якая адрадзілася. Асаблiва арыгінальную форму набылі ў Цурыху так званыя „крамы-перасоўкі" таварыства „Мігрос". Яны, па загадзя складзенаму пляну, аб'яжджаюць Цурых і яго раёны і забясьпечваюць насельніцтва асабліва ходкімі таварамі ў стандартнай упакоўцы, якія карыстаюцца вялікім посьпехам. Цурыхскаму Прадуктоваму Саюзу гэтай «перасовачнай канкурэнцыяй» нанесена вялікая страта.

# БІБЛІОГРАФІЯ

## Прафэсыянальны рух Беларусі—орган ЦСПСБ і ЦП саюзаў, № 4 (80), 1929 г.

У большасьці нашы часопісы яшчэ не навучыліся падыходзіць да масы, яны ня могуць даваць яшчэ таго, чаго патрабуе наш масавы чытач. Прыкладам, чаго можна патрабаваць ад ПРАФРУХУ? Чытачу жадалася-б, каб часопіс быў жывым, каб-кожная яго старонка падымала што-небудзь новае, каб ён пісаў аб тым, што робіцца на мясцох, больш адводзіў месца самакрытыцы і інш., тады часопіс чытаўся-б.

Што-ж зьмешчана у паданым намі нумары часопісу? Амаль што ўвесь матар'ял, за выключэньнем аднага артыкульчыку, паданы ў сухім выглядзе, дырэктыўнага характару. Праўда, для прафактыву гэта можа і добра, але масаваму чытачу нечага чытаць. Мне здаецца, што ПРАФРУХ хоча ахапіць ня толькі актыў, але і масу, трэба было падумаць аб гэтым.

Часопіс на 60 проц. на расейскай мове. Тыя артыкулы, якія і пададзены на беларускай мове, пададзены на мове цыркулярнай, калечанай. Шмат неправільных зваротаў і слоў нацяганых няма ведама адкуль. А час мусіць ужо і ПРАФРУХУ беларусізавацца.

Падумайце, таварышы, як сапраўды аўладаць масай, а магчымасьці на гэта ў вась ёсьць.

Э. Жванскі

---

## „Жилищная кооперация Украины“ — двухнедельный журнал Всеукраинского союза жилищной кооперации. №№ 23, 24 за 1928 г.

Тэхнічнае выданьне часопісу досыць добрае, хоць, праўда, матар'ял, які падаецца ў часопісе, ня можа задаволіць радавога чытача-коопэратара, бо ён пададзены ў надзвычайна расьцягнутым выглядзе. Чаму, напрыклад, не зьмяшчаецца матар'ял аб тых хібах і дасягненьнях на мясцох у кароценькай жывой форме. А так часопіс больш нагадвае бюлетэнь. І ад гэтага бязумоўна вялікі прой рыш.

Цікава яшчэ і тое, чаму гэта часопіс выходзіць амаль выключна на расейскай мове. Хіба-ж выдаўцы мяркуюць, што украінцу няма чаго яго чытаць. Памыляюцца.

**Больш канкрэтнага, жывога матар'ялу!**

Я. Стальчонак

---

## „Паляўнічы Беларусі“—штомесячны часопіс, орган Белкахотсаюзу № 1, 1929 г.

Паляўнічы Беларусі мае свайго чытача. Ён здолеў падыйсьці да яго. Матар'ял, які падаецца ў часопісе, для паляўнічага цікавы. Узяць хоць бы і гэты нумар. Тут побач з артыкульчыкамі, якія даюць паляўнічаму напрамак у рабоце, зьмяшчаецца крыху і літаратурнага матар'ялу. Гэта асьвяжае часопіс. Нічога верш Сяргея Фаміна, хоць трэба сказаць, што ён добра нагадвае Есеніна. Нарыс Я. Скрыгана „Запаведнік імя Ул. Іл. Леніна“ чытаецца з цікавасьцю.

Адно, што трэба толькі сказаць у дрэнны бок гэта яшчэ няпісьменнасьць часопісу. Сустракаюцца вельмі часта памылкі і скажэньні мовы, калі ўзяць нават у самой назве напісана: БЕЛКАХОТСАЮЗ“, а чаму не: БЕЛПАЛЯУНІЧЫ САЮЗ.

І яшчэ адна вялікая загана. Калі-ж нарэшце часопіс стане цалкам на беларускай мове, бо, скажам, цяпер добрая палова, калі ня больш, часопісу выдаецца на расейскай мове.

І. Златкін

---

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Тэзісы-рэзалюцыя

**па дакладу намесьніка старшыні праўленьня Белсельсаюзу тав. Красоўскага аб сучасным становішчы і далейшым напрамку арганізацыйна-інструктарскай працы сыстэмы сельска-гаспадарчай каапэрацыі.**

1. З пастановы XV партзьезду вынікае сутнасьць арганізацыйнае працы сыстэмы сельска-гаспадарчай каапэрацыі, якая ў асноўным павінна быць накірована на калектывізацыю сельскае гаспадаркі, вытворчае каапэраваньне, уцягненьне ў с.-г. каапэрацыю ўсяе беднаты і значнае часткі сераднякоў і ўзмацненьне спэцыялізацыі сыстэмы.

Пасьпяховае каапэрацыйнае будаўніцтва ў далейшым і замацаваньне сыстэмы будзе залежаць ад правільнага і максімальнага разгортваньня арганізацыйнае працы і якаснага яе паляпшэньня. Першачарговымі задачамі ў арганізацыйнай працы павінны быць:

а) распрацоўка практычных абаснаваных каляндарных плянаў каапэраваньня сельскіх гаспадарак па раёнах, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на поўнае каапэраваньне бядняцкіх гаспадарак і паляпшэньне працы сярод беднаты;

б) усямернае садзейнічаньне арганізацыі калектыўных гаспадарак і іншых вытворчых аб'яднаньняў і пераводу прасьцейшых з іх у больш складаныя формы;

в) вучот каапэрацыйнага актыву і разгортваньне працы сярод яго;

г) поўнае ўцягненьне ў сыстэму існуючых дзікіх аб'яднаньняў і накіраваньне арганізацыйна-гаспадарчае дзейнасьці саюзаў у бок іх абслугоўваньня;

д) правядзеньне мерапрыемстваў па ліквідацыі лжэкаапэратываў;

е) мерапрыемствы ў галіне аздараўленьня і ўзмацненьня грашовага становішча нізавых аб'яднаньняў;

ж) барацьба з растратамі і ўзмацненьне працы саветаў і рэўкамісій;

з) правядзеньне справаздачна-перавыбарчай кампаніі;

і) далейшае працягваньне рэарганізацыі сыстэмы с.-г. каапэрацыі ў бок яе спэцыялізацыі на пачатках больш удасканаленых арганізацыйных узаемадносін асобных зьвеньняў сыстэмы.

2. Пры слабай падрыхтаванасьці ў нізоўцы, дрэннай пастаноўцы рахункаводзтва, недастатковым арганізацыйным абслугоўваньні нізавой сеці з боку саюзаў, слабай працы рэвізійных камісій сеці, растраты ў гэтым годзе прынялі пагражаючы характар, чаму неабходна ўжыць наступныя крокі:

а) зьвярнуць пры правядзеньні справаздачна-перавыбарчае кампаніі асаблівую ўвагу на падбор кандыдатаў у кіруючыя органы (праўленьне, савет і рэвізійную камісію);

б) як правіла паставіць, што рэвізійная камісія ў працягу году павінна зрабіць ня менш двух поўных рэвізій таварыства;

в) пры наяўнасьці растрат прыцягваць да адказнасьці і рэвізійныя камісіі;

г) на працягу году кожнае аб'яднаньне с.-г. каапэрацыі павінна быць абрэвізавана ня менш аднаго разу інструктарам саюзу сумесна з рэвізійнай камісіяй;

д) апроч рэвізійных абследваньняў інструктарскага апарату, неабходна ўвесьці ў практыку працы аргаддзелаў і мэтавыя абследваньні;

е) у мэтах інструктаваньня членаў рэвізійных камісій неабходна праводзіць раённыя курсы-канферэнцыі, на якіх абгаворваць пытаньні аб працы рэвізійных камісій;

ж) прымаючы пад увагу, што справы па растратах судовымі органамі не разглядаюцца доўгія часы (два-тры гады), паставіць пытаньне перад судовымі органамі аб хутчэйшым разгляданьні спраў, яшчэ не разгледжаных, а ў будучым справы па растратах павінны разглядацца ў тэрміновым парадку.

3. Адзінства сыстэмы павінна быць забясьпечана наліччам адзінага арганізацыйна-гаспадарчага пляну, які і зьяўляецца абавязацельствам сыстэмы перад дзяржавай. Прымаючы пад увагу такое значэньне пляну, арганізацыйная праца па складаньню апошняга і яго выконваньне павінны прадугледжваць:

а) поўны ахоп асноўных відаў с.-г. прадукцыі раёну дзейнасьці таварыства, а таксама патрэбнасьць раёну ў сродках прамысловасьці, неабходных у сельска-гаспадарчай вытворчасьці;

б) апроч гадавых плянаў, неабходна складаць паквартальныя пляны і сачыць за іх выкананьнем;

в) пры складаньні пляну павінен быць складзен і каштарыс таварыства, у якім павінна быць прадугледжана капіталанакапленьне, а таксама бясстратнае правядзеньне апэрацый таварыства;

г) плян працы павінен зьяўляцца штодзённым кіруючым матар'ялам, а ня простай фармальнасьцю, як гэта практыкуецца да гэтага часу ўва многіх таварыствах.

4. Да гэтага часу пры правядзеньні арганізацыйна-інструктарскай працы зварочвалася недастаткова ўвагі на гаспадарчы інструктаж, чаму ў будучай працы на гэты бок неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу, а ў прыватнасьці на наступныя моманты:

а) устанаўленьне арганізацыйных форм, найбольш адпавядаючых прыродзе апэрацый;

б) устанаўленьне найлепшых форм арганізацыі кіраўніцтва (структура апарату) узаемаадносіны паміж асобных частак, арганізацыя гаспадаркі і г. д.);

в) распрацоўка пытаньняў тэхнікі арганізацыі апэрацый (тэхніка складзкае справы, тэхніка руху, парадак разрахункаў і г. д.);

г) распрацоўка пытаньняў арганізацыі вытворча-падсобных мерапрыемстваў;

д) распрацоўка сыстэмы арганізацыйнай і апэрацыйнай справаздачнасьці;

е) арганізацыя каапэрацыйна-грамадзкага кантролю (праца саветаў і рэвізійных камісій, даклады ў грамадзкіх і дзяржаўных арганізацыях);

ж) аналіз выкананьня апэрацыйнага пляну;

з) правядзеньне рацыяналізатарскае працы па патаненьню і спрашчэньню апарату і паляпшэньню тэхнікі апэрацый;

і) праверка сацыяльна-клясавае сутнасьці гаспадарчай працы каапэрацыйнай адзінкі і вынікі ўплыву апэрацый таварыства на рэканструкцыю сельскай гаспадаркі.

5. Неабходнай прэдпасылкаю для ажыцьцяўленьня гаспадарчага інструктажу зьяўляецца ўвязка ўсяе інструктарскай працы з адпаведнымі апэрацыйнымі аддзеламі. Гэта ўвязка павінна ажыцьцяўляцца:

а) непасрэдным удзелам інструктара ў вызначэньні ахопу апэрацый аддзелу з каапэратывамі інструктарскага раёну;

б) сыстэматычнай інфармацыяй апэрацыйнага аддзелу аб недахопах у арганізацыі апэрацый як па віне аддзелу, так і па віне каапэратываў, і сумесна з апэрацыйным аддзелам намячаць мерапрыемствы к адхіленьню намечаных недахопаў;

в) своечасовай інфармацыяй апэрацыйнымі аддзеламі арг. аддзелаў па асноўных пытаньнях, якія маюць уплыў на ход апэрацыі (зьмена пляну завозу, варункаў, водпуску і парадку разрахункаў).

6. Інструктар не павінен, як гэта практыкуецца цяпер, абмяжоўвацца толькі пастаноўкай таго ці іншага пытаньня перад аб'яднаньнем, а павінен даць канкрэтнае паказаньне аб пабудове гаспадарчай працы ў нізавым аб'яднаньні, а таксама павінен арганізаваць пастаянны нагляд за правядзеньнем у жыцьцё намечаных ім мерапрыемстваў. Паверка павінна ажыцьцяўляцца шляхам:

а) пэрыодычнае інфармацыі праўленьня нізоўкі аб выніках правядзеньня ў жыцьцё дадзеных раней паказаньняў;

б) паверкі рэвізійнай камісіяй з прыцягненьнем каапэрацыйнага актыву аб'яднаньня.

7. Членства сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў у саюзах павінна ажыцьцяўляцца наступным парадкам:

а) сел.-гасп. крэдытныя таварыствы павінны ўваходзіць непасрэдна членамі ў саюз;

б) у акругах, дзе маюцца спэцыяльныя саюзы, адпаведныя аб'яднаньні павінны ўваходзіць членамі ў гэтыя саюзы непасрэдна, а ўсе іншыя могуць ажыцьцяўляць сваё членства праз с.-г. крэдытныя таварыствы;

в) у акругах, дзе не маецца спэцыяльных саюзаў, усе вытворчыя аб'яднаньні могуць ажыцьцяўляць сваё членства праз с.-г. крэдытныя таварыствы;

г) для поўнае ліквідацыі дзікіх каапэратываў неабходна дабіцца, каб сыстэма с.-г. крэдыту крэдытавала таварыства толькі ў тым выпадку, калі гэта таварыства ўступіла ў саюз непасрэдна альбо праз сел.-гасп. крэдытныя таварыствы. Арганізацыйнае абслугоўваньне павінна праводзіцца саюзамі.

8. Адзначаючы, што сярод аб'яднаньняў сельска-гаспадарчай каапэрацыі ёсьць і лжэкаапэратывы, неабходна ўжыць адпаведныя крокі да іх рэарганізацыі шляхам:

а) арганізацыйнага абслугоўваньня лжэкаапэратываў і наданьня іх працы адпаведнай дзейнасьці с.-г. каапэрацыі;

б) арганізацыю новых аб'яднаньняў праводзіць па раней складзенаму пляну, вывучыўшы пытаньне мэтазгоднасьці арганізацыі таго, ці іншага аб'яднаньня і прагляду асабовага складу ўстаноўцаў таварыства.

9. Грашовае становішча нізавое сеткі не забясьпечвае нармальнага разьвіцьця яе дзейнасьці, чаму неабходна прыняць належныя крокі да стварэньня ўласных капіталаў і прыцягненьня сродкаў насельніцтва шляхам:

а) зьбіраньня як паявых, так і спэцыяльных ўзносаў; у мэтах больш пасьпяховага збору гэтых ўзносаў і каапэраваньня насельніцтва, неабходна працу паставіць так, каб эканамічна зацікавіць пайшчыкаў, чаму даручаецца Белсельсаюзу распрацаваць гэта пытаньне;

б) адлічэньня адпаведнага % па каштарысу аб'яднаньня на капіталанакапленьне, што можна дасягнуць правільнай арганізацыяй апэрацыйнае працы;

в) прыцягненьня ў аб'яднаньне сялянскіх сродкаў у якасьці ўкладаў, а таксама ставіць пытаньне аб таварным крэдытаваньні таварыства па лініі загатавіцельнае працы.

10. Арганізацыйныя праца ў 1928-29 г., апроч пералічаных раней агульных момантаў для ўсяе сыстэмы, павінна быць накіравана да правядзеньня ў жыцьцё наступных момантаў па паасобных відах аб'яднаньняў сель.-гасп. каапэрацыі.

## У галіне калгаснага будаўніцтва

11. Адзначаючы, што другі ўсебеларускі зьезд па калгаснаму будаўніцтву з дастатковай поўнасьцю высьвятляе усе маючыяся да гэтага часу як недахопы, так і дасягненьні ў калгасным будаўніцтве і намеціў правільныя шляхі далейшага разьвіцьця калгаснага будаўніцтва, прапанаваць усёй сыстэме с.-г. каапэрацыі прыняць усе меры да праведзеньня ў жыцьцё пастаноў усебеларускага зьезду калгасаў.

## Малочна-жывёлагадоўчая каапэрацыя

12. Існуючыя віды сел.-гасп. аб'яднаньняў у галіне жывёлагадоўлі і малочнае гаспадаркі павінны быць аб'яднаны ў адным відзе—малочна-жывёлагадоўчым каапэратыве.

Малочна-жывёлагадоўчыя таварыствы павінны весьці і кантрольную працу.

Рэарганізацыя існуючых малочных і жывёлаводных таварыстваў у малочна-жывёлагадоўчыя павінна праводзіцца паступова. Малочныя заводы пры сель.-гасп. крэдытных таварыствах павінны быць ад іх аддзелены з арганізацыяй вакол іх малочна-жывёлагадоўчага таварыства, альбо завод павінен быць перададзены бліжэйшаму малочна-жывёлагадоўчаму таварыству.

Калгасы ў галіне малочнае справы павінны зьявіцца арганізуючымі цэнтрамі і павінны ўваходзіць у члены малочна-жывёлагадоўчых таварыстваў. Калгасам у справах таварыства павінен быць забясьпечаны палітычны і гаспадарчы ўплыў. Пабудову масла-сыр-заводаў малочна-жывёлагадоўчых таварыстваў неабходна прыстасаваць да тэрыторыі калгасаў.

13. Птушкаводныя т-вы павінны ўваходзіць у малочна-жывёлагадоўчыя саюзы. Малочна-жывёлагадоўчыя і птушкаводныя таварыствы будуюцца па трохступянёвай сыстэме—нізоўка, акруговы саюз і беларускі саюз. Саюзы павінны быць як арганізацыйнымі, так і гаспадарчымі арганізацыямі. У акругах Полацкай, Аршанскай і Мазырскай, з малай таварнасьцю малочнай прадукцыі, павінны быць арганізаваны малочна-жывёлагадоўчыя аддзелы.

14. Для абслугоўваньня малочна-жывёлагадоўчых таварыстваў неабходна ўкамплектаваць штаты інструктароў з разьліку: 1 раз'яздны інструктар на 20 таварыстваў; для кіраўніцтва жывёлагадоўчай справай ўвесьці па аднаму інструктару-заатэхніку на кожную акругу і пры разгортваньні птушкаводнай справы ўвесьці інструктара-птушкавода. Усю працу па арганізацыі і абслугоўваньню малочна-жывёлагадоўчых і птушкаводных таварыстваў цесна ўвязаць з агранаміяй зямельных органаў.

15. Працу па каапэраваньню сельскіх гаспадарак узмацніць маючы на ўвазе, што на 1/X—29 г. % каапэраваньня павінен быць давездзен да дзесяці. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на каапэраваньне беднаты. Разам з гэтым неабходна паставіць пытаньне перад белсельбанкам аб шырокім крэдытаваньні бядняцкіх гаспадарак на закупку кароў.

Збор паявых капіталаў узмацняць з тым, каб на 1/X—29 г. сярэдні пай на карову быў сабраны ў разьмеры 4 руб.

16. Павесьці неабходныя мерапрыемствы па пераводу малочна-жывёлагадоўчых таварыстваў на жаночае членства, пры чым к канцу году такіх таварыстваў павінна быць ня менш 10%.

17. Правесьці працу па канчатковым афармленьні радыўсу і тэрыторыі дзейнасьці існуючых т-ваў, захоўваючы ўстаноўленыя прынцыпы пры арганізацыі новых. Пабудову новых заводаў рабіць толькі пасьля грунтоўнага вывучэньня ўсіх эканамічных прадпасылак даннага раёну.

18. У мэтах паляпшэньня якасьці прадукцыі правесьці ў 1928-29 г. 8 конкурсаў па якасьці малочных прадуктаў і 100 конкурсаў на чыстату малака і 8 конкурсаў на лепшае малочнае таварыства.

*(Працяг будзе)*

# Аб здачы каапэрацыі ў арэнду памяшканьняў і аб памеры арэнднае платы

## Постановление Центрального Исполнительного Комитета и Совета Народных Комиссаров Союза ССР о пересмотре ставок арендной платы за помещения и участки земли, сдаваемые для торгово-промышленных и складских целей

В целях внесения единообразия в существующие ставки арендной платы за помещения и участки земли, сдаваемые для торгово-промышленных и складских целей, а равно снижения накладных расходов, связанных с арендой названных помещений и участков ЦИК и СНК Союза ССР постановляет:

1. Предложить правительствам союзных республик:

а) существующие ставки арендной платы за помещения и участки земли, сдаваемые государственным учреждениям и предприятиям, кооперативным организациям и смешанным акционерным обществам для торгово-промышленных и складских целей пересмотреть в 3-месячный срок в направлении максимального снижения этих ставок и установления одинаковых размеров их в районах, имеющих однородное торгово-экономическое значение;

б) вновь выработанные ставки ввести в действие не позднее 1 октября 1928 г.;

в) представить не позднее 1-го сентября 1928 г. Совету Народных Комиссаров Союза ССР доклад о мерах, принятых во исполнение указанных в п. „а" настоящей статьи предложений.

2. Впредь до введения в действие новых арендных ставок, устанавливаемых на основании настоящего постановления, воспретить повышать существующие ставки для указанных в п. „а" ст. 1 учреждений, предприятий и организаций.

Председатель Центрального Исполнительного Комитета
Союза ССР *М. КАЛИНИН*

Зам. Председателя Совета Народных Комиссаров
Союза ССР *Я. РУДЗУТАК*

Секретарь Центрального Исполнительного Комитета
Союза ССР *А. ЕНУКИДЗЕ*

Москва, Кремль. 9 мая 1928 г.
(С. О. СССР, 1928 г., № 28,
„Изв. ЦИК 1928 г., № 124).

---

# Са збору законаў і загадаў Рабоча-Сялянскага Ураду БССР, № 38, за 1928 г.

## Арт. 363. Пра парадак аддачы ў арэнду і аплаты будынкаў, памяшканьняў і пляцоў, якія арандуюцца для гандлёва-прамысловых і складачных мэтаў.

1. Органы мясцовае камунальнае гаспадаркі, дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы і жылішчна-каапэрацыйныя арганізацыі могуць аддав ць у арэнду для гандлёва-прамысловых і складачных мэтаў будынкі, паасобныя памяшканьні і пляцы, а прыватныя ўласьнікі ў гарадох—будынкі і паасобныя памяшканьні толькі паводле гэтае пастановы.

*Увага.* Гэтая пастанова не пашыраецца на гандлёва-прамысловыя і складачныя памяшканьні ў будынках, адноўленых, пабудаваных альбо дабудаваных на падставе артыкулаў 71—86-б Грамадзянскага Кодэксу БССР у рэдакцыі 1927 году.

2. Вольныя будынкі, памяшканьні і пляцы, прызначаныя для гандлю, промыслаў альбо для складаў тавараў, аддаюцца ў арэнду дзяржаўным установам і прадпрыемствам, каапэрацыйным арганізацыям, акцыйным таварыствам з удзелам дзяржаўнага

капіталу, прафэсіянальным саюзам, іншым савецкім і грамадзкім арганізацыям, саматужнікам, якія не карыстаюцца наймовою працаю і зарэгістраваны ў арганізацыях саматужнікаў, без т. ргоў за плату, якая вызначаецца паводле арт. арт. 3, 4, 5, 6, 7, 8, 10, 11, 12 і 13 гэтае пастановы. Памянёныя будынкі, памяшканьні і пляцы аддаюцца ў арэнду з таргоў толькі ў выпадках, паказаных у артыкуле 18-м гэтае пастановы.

Разьмер арэнднае платы зацьвярджаецца арэнднымі камісіямі для кожнага будынку і памяшканьня ў залежнасьці ад выгаднасьці месцазнаходжаньня, каштоўнасьці абсталяваньня будынку, а таксама ад роду і выгаднасьці апэрацый данага прадпрыемства і складаецца:

а) з амартызацыйных налічэньняў на будаўнічы кошт даных будынкаў і памяшканьняў;

б) з налічэньняў на будаўнічы кошт у чысты прыбытак.

4. Разьмер налічэньняў у амартызацыйны фонд не павінен перавышаць на год наступнага процанту:

а) за каменныя і жалеза-бэтонныя б дынкі з агнят ывалымі перакрыцьцямі і такімі самымі падлогамі, з абсталяваньнем ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі 1,8 проц;

б) за такія самыя будынкі, але без абсталяваньня ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі—1,7 проц;

в) за каменныя будынкі з драўлянымі перакрыцьцямі і такімі самымі падлогамі, з абсталяваньнем ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі—2 проц.;

г) за такія самыя будынкі, але без абсталяваньня ацяпленьня, вадаправаду і каналізацыі—1,9 проц.;

д) за будынкі мяшанага тыпу, у якіх першы паверх каменны, а другі—драўляны з драўлянымі падлогамі, з абсталяваньнем ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі 3 проц;

е) за такія самыя будынкі, але без абсталяваньня ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі—2,9 проц.;

ж) за драўляныя будынкі, прыстасаваныя для гандлю, з абсталяваньнем ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі—4 проц.;

з) за такія самыя будынкі, але без абсталяваньня ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі - 3,6 проц.;

і) за каменныя і жалеза-бэтонныя будынкі, прыстасаваныя для склад а—сьвірны, з агнятрывалымі перакрыцьцямі і жалезным дахам—2 проц.;

к) за драўляныя будынкі, прыстасаваныя для складаў—сьвіраны, з рубленымі бярвенчатымі прапакляванымі сьценамі, са столямі, падлогамі і жалезным дахам 4 роц;

л) за драўляныя будынкі спрошчанага тыпу—клеці, са сьценамі з дошчак, замацаванымі ў слупы, з падлогамі і жалезным дахам—5 проц.;

м) за такія самыя будынкі, але з дахам з дошчак альбо гонтаў—7 проц.

5. Разьмер налічэньняў у чысты прыбытак устанаўляецца ў залежнасьці ад умоў, паказаных у арт. 3 гэтае пастановы, але ня можа быць большым:

а) для гарадоў Менска, Віцебска, Гомеля 10 проц. будаўнічага кошту памяшканьня;

б) для гарадоў Бабруйска, Магілева, Воршы, Полацка, Слуцка і Мазыра 7 проц.;

в) для іншых гарадоў—3 проц.;

г) для мястэчак і сельскіх мясцовасьцяй 2 проц.

6. Будаўнічы кошт будынкаў і памяшканьняў вызначаецца паводле кубатуры па даных інвэнтарызацыі. Калі інвэнтарызацыя яшчэ не праведзена, то будаўнічы кошт будынкаў і памяшканьняў вызначаецца ў залежнасьці ад кубатуры будынкаў, якая вылічваецца знадворным абмерам сьцен, памножаным на вышыню будынку (ад абрэзу падмурку да лініі перасячэньня сьцен з дахам), плюс 50 проц. аб'ёму скляпоў, калі яны ёсьць.

7. Будаўнічы кошт кубічнага мэтру будынкаў устанаўляецца арэнднымі камісіямі, якія маюць права патрабаваць ад уласьнікаў будынкаў усе патрэбныя ім для гэтага зьвесткі, але ня можа перавышаць наступнага разьмеру:

а) за каменныя і жалеза-бэтонныя будынкі з агнятрывалымі перакрыцьцямі і такою самаю падлогаю, з абсталяваньнем ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі 24 рублі;

б) за такія самыя будынкі, але без абсталяваньня ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі—22 руб.;

в) за каменныя будынкі з драўлянымі перакрыцьцямі і падлогамі, з абсталяваньнем ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі - 23 руб.;

г) за такія самыя будынкі, але без абсталяваньня ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі—21 руб;

д) за будынкі мяшанага тыпу, у якіх першы паверх каменны, а другі драўляны, з абсталяваньнем ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі—20 руб.;

е) за такія самыя будынкі, але без абсталяваньня ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі—17 руб.;

ж) за драўляныя будынкі, прыстасаваныя для гандлю, з абсталяваньнем ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі—18 руб.

з) за такія самыя будынкі, але без абсталяваньня ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі—15 руб.;

і) за каменныя і жалеза-бэтонныя будынкі для складаў—сьвіраны, з агнятрывалымі перакрыцьцямі і жалезным дахам 20 руб.;

к) за драўляныя будынкі для складаў з рубленымі бярвенчатымі прапакляванымі сьценамі, са столямі, падлогамі і з жалезным дахам—10 руб.;

л) за драўляныя будынкі спрошчанага тыпу—клеці, з сьценамі з дошчак, замацаванымі ў слупы, з падлогамі і дахам з жалеза, дошчак і гонтаў—5 руб.

Калі ў арэнду аддаецца ня ўвесь будынак, а толькі частка яго, то будаўнічы кошт памяшканьня ўстанаўляецца ў залежнасьці ад квадратуры карыснае плошчы. „Кошт адзінкі карыснае плошчы вылічваецца з кошту ўсяго будынку, падзеленага на колькасьць адзінак усяе яго карыснае плошчы.

8. Апроч арэнднае платы, вылічанай на падставах, паказаных у арт. 3 гэтае пастановы, арандатар (субарандатар) павінен:

а) браць на свой кошт усе эксплёатацыйныя выдаткі на сваё памяшканьне: бягучы рамонт, ацяпленьне, асьвятленьне, ачыстка, аплата камунальных паслуг;

б) удзельнічать прапарцыянальна разьмерам свае плошчы ў агульных для ўсяго домаўладаньня эксплёатацыйных выдатках, а ўласна: у страхаваньні будынкаў, у аплаце падаткаў, у асьвятленьні ў ачыстцы месц агульнага карыстаньня, у бягучым знадворным рамонце цэнтральнага ацяпленьня, вадаправоду і каналізацыі, месц агульнага карыстаньня, у рамонце тратуараў, што мяжуюць з домам, і ва ўтрыманьні домаўладаньня.

Гэты пункт у мястэчках і ў сельскіх мясцовасьцях ня ўжываецца.

*Увага.* Зямельная рэнта бярэцца з уласьніка будынку і перакладацца на арандатараў ня можа.

9. Капітальны рамонт памяшканьняў, якія аддаюцца ў арэнду, робіцца самім уласьнікам будынку і ня можа ўскладацца на арандатараў.

10. Разьмер арэнднае платы за адзінку плошчы забудаваных і не забудаваных пляцоў на рынках і іншых мясцох устанаўляецца арэнднымі камісіямі і ня можа быць вышэйшым за разьмер арэнднае платы, устаноўленае для гандлёвых памяшканьняў у бліжэйшых будынках.

11. Разьмер арэнднае платы за памяшканьні ў сутарэньнях зьмяншаецца на 50 проц.

12. Калі аддаюцца ў арэнду будынкі і памяшканьні з інвэнтаром і іншым абсталяваньнем, дык кошт і разьмер амартызацыйных налічэньняў на інвэнтар і абсталяваньне ўстанаўляюцца арэнднымі камісіямі. Калі-ж уласьнік ня згодзен з ацэнкаю арэнднае камісіі, дык ён можа забраць свой інвэнтар і абсталяваньне. Налічэньні на інвэнтар і абсталяваньне ў чысты прыбытак ўстанаўляюцца ў разьмеры 10 проц. гадавых.

13. Разьмеры арэнднае платы ўстанаўляюцца арэнднымі камісіямі ня менш, як на адзін год.

14. Органы мясцовае камунальнае гаспадаркі, дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы, каапэрацыйныя арганізацыі і прыватныя ўласьнікі павінны аддаваць у арэнду вольныя будынкі, памяшканьні і пляцы, прызначаныя для гандлю, промыслаў і складаў, у першую чаргу дзяржаўным установам і прадпрыемствам, каапэрацыйным арганізацыям, акцыйным таварыствам з удзелам дзяржаўнага капіталу, прафэсыянальным саюзам, іншым савецкім і грамадзкім арганізацыям.

Калі аддаюцца ў арэнду будынкі, памяшканьні і пляцы, якія знаходзяцца на рынках, плошчах і ў іншых мясцох агульнага карыстаньня, дык права на арэнду ў першую чаргу маюць таксама і камітэты сялянскае ўзаемадапамогі, арцелі саматужнікаў, інвалідаў альбо беспрацоўных, калі гэтыя арцелі ўваходзяць у склад аб'яднаньняў (арцеляй) і паасобныя саматужнікі, якія не карыстаюцца наймовую працаю і зарэгістраваны ў арганізацыях саматужнікаў.

15. Акуратныя арандатары будынкаў, памяшканьняў і пляцоў з ліку дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў, каапэрацыйных арганізацый, акцыйных таварыстваў з удзелам дзяржаўнага капіталу, прафэсыянальных саюзаў і іншых савецкіх і грамадзкіх арганізацый у кожным разе маюць пераважнае права на аднаўленьне арэнды на новы тэрмін за плату у разьмеры, які існуе ў момант аднаўленьня арэнды.

16. Калі на які-небудзь будынак, памяшканьне альбо пляц ёсьць патрабаваньні ад некалькіх устаноў, прадпрыемстваў, арганізацый альбо асоб, паказаных у арт. 14 гэтае пастановы, дык пытаньне аб аддачы яго таму ці іншаму арандатару вырашаецца арэнднаю камісіяю.

17. Калі за месяц да сканчэньня тэрміну арэнднага дагавору арандатары не паведамяць наймадаўцаў аб жаданьні аднавіць арэндны дагавор, дык наймадаўцы—органы мясцовае камунальнае гаспадаркі, дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы і каапэрацыйныя арганізацыі—абвяшчаюць праз друк альбо праз расклейку абвестак аб часе апаражненьня гандлёва-прамысловых і складачных памяшканьняў з прапановаю ўстановам і арганізацыям падаць у пэўны тэрмін заявы аб сваім жаданьні арандаваць той ці іншы будынак, памяшканьне альбо пляц пад гандлёвае ці прамысловае прадпрыемства. На працягу двох тыдняў ад вызначанага тэрміну арэндныя камісіі павінны ўстанавіць разьмеры арэнднае платы і заключыць дагаворы з новымі арандатарамі.

18. Будынкі, памяшканьні і пляцы, якія ня будуць аддадзены ў арэнду парадкам, паказаным у арт. арт. 13—16 гэтае пастановы, аддаюцца ў арэнду з публічных таргоў.

Калі памяшканьні аддаюцца ў арэнду з таргоў, дык пераважнае перад усімі іншымі спаборнікамі права на арэнду пры іншых роўных умовах маюць ранейшыя акуратныя арандатары.

Таргі на аддачу ў арэнду камунальных будынкаў, памяшканьняў і пляцоў пад гандаль, промыслы і склады праводзяцца арэнднымі камісіямі паводле пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 10 мая 1926 году „Аб парадку здачы ў арэнду прадпрыемстваў, падпарадкаваных акруговым і раённым выканаўчым камітэтам“ (З. З. БССР 1926 г., № 20, арт. 74).

Пры гэтым таргі пачынаюцца з цаны, якая ўстанаўляецца арэнднымі камісіямі на падставе артыкулаў 3—8 гэтае пастановы.

*Увага.* Прыватныя асобы, калі няма заявак ад арганізацый, пералічаных у арт. 2 гэтае пастановы, могуць аддаваць свае памяшканьні ў арэнду па свайму пагляду.

19. Перадаваць арандаваныя будынкі і памяшканьні альбо часткі іх у субарэнду маюць права толькі тыя ўстановы і арганізацыі, якія арандуюць данае ўладаньне цалкам.

Перадаваць у субарэнду будынкі, памяшканьні і пляцы на рынках, плошчах і ў іншых мясцох агульнага карыстаньня маюць права толькі камітэты сялянскае ўзаемадапамогі.

Пры аддачы ў субарэнду ўжываюцца артыкулы 13, 15, 16 і 18 гэтае пастановы.

Пры перадачы ў субарэнду не дазваляецца павялічваць разьмеры арэнднае платы, устаноўленае паводле гэтае пастановы.

20. У склад арэндных камісій уваходзяць у акруговых гарадох: старшыня—прадстаўнік аддзелу камунальнае гаспадаркі гарадзкога савету і 4 члены—прадстаўнікі ад акруговых органаў Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі, Народнага Камісарыяту Гандлю, Народнага Камісарыяту Фінансаў і Белкаапсаюзу; у неакруговых гарадох, мястэчках і ў сельскіх мясцовасьцях: старшыня—прадстаўнік органу камунальнае гаспадаркі раённага выканаўчага камітэту і 4 члены, якія назначаюцца акруговымі органамі Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі, Народнага Камісарыяту Гандлю, Народнага Камісарыяту Фінансаў і Белкаапсаюзу.

21. Дагаворы на арэнду і субарэнду будынкаў, памяшканьняў і пляцоў, паказаных у арт. 1 гэтае пастановы, павінны складацца на наступных падставах:

а) арэндная (субарэндная) плата ўносіцца наперад за час па згодзе старон, але наймадавец ня мае права патрабаваць ад дзяржаўных, каапэрацыйных і грамадзкіх устаноў і арганізацый, каб яны ўносілі плату больш, як за адзін месяц наперад;

б) арэндная і субарэндная плата на працягу тэрміну дагавору можа зьмяняцца толькі паводле згоды старон і ў выпадках, спэцыяльна прадугледжаных законам;

в) пеня за пропуск тэрміну ўнясеньня арэнднае (субарэнднае) платы ня можа перавышаць $^{1}/_{3}$% сумы, ня ўнесенай у час платы за кожны дзень пропуску тэрміну;

г) калі арэндная альбо субарэндная плата ня будзе ўнесена на працягу аднаго месяца ад дню пропуску платы, дык наймадавец можа ўзьняць іск аб скасаваньні арэнднага (субарэнднага) дагавору;

д) няўстойка за невыкананьне дагавору ня можа перавышаць 10-проц. гадовае арэнднае платы.

22. Гэтая пастанова не пашыраецца на гандлёвыя і складачныя памяшканьні і пляцы, якія знаходзяцца пад ведамам Народнага Камісарыяту Шляхоў і ў паласе адчужэньня чыгунак, а таксама і на халадзільнікі, хлебныя элеватары і хлебныя лабазы, пад чыім-бы загадам яны ні знаходзіліся.

23. Гэтая пастанова набывае сілу з студзеня 1929 году. З гэтага-ж часу касуюцца пастановы СНК БССР: за 19 лістапада 1924 году „Пра спагнаньне платы за памяшканьні, якія аддаюцца пад гандлёва-прамысловыя прадпрыемствы і склады ў муніцыпалізаваных домаўладаньнях“ (З. З. БССР 1925 г., № 4—5, арт. 16), за 30 красавіка

1928 году пра зьмену арт. 3 гэтае пастановы (З. З. БССР. 1928 г., № 18, арт. 171) і за 13 кастрычніка 1926 году „Аб зьмене арт. 4 пастановы аб плаце за памяшканьні, якія здаюцца пад гандлёва-прамысловыя прадпрыемствы і склады ў муніцыпалізаваных домаўладаньнях“ (З. З. БССР. 1926 г., № 41, арт. 153).

24. Усе ранейшыя дагаворы на арэнду будынкаў, памяшканьняў і пляцоў, паказаных у арт. 1 гэтае пастановы, павінны быць зьменены на працягу аднаго месяца пасьля ўваходу яе ў сілу. Калі стораны не згаджаюцца зьмяніць дагавор, дык ён касуецца паводле артыкулу 146 Грамадзянскага Кодэксу БССР у рэдакцыі 1927 году.

*Увага*. Калі ўвядзеньне гэтае пастановы павялічыць чынны разьмер арэнднае платы, дык арэндныя камісіі маюць права захаваць для паасобных арганізацый чынны дагавор на далей, але ня больш, як да 1 кастрычніка 1929 году.

25. Народнаму Камісарыяту Фінансаў даручаецца выдаць інструкцыю пра парадак захаваньня і выдаткаваньня амартызацыйнага фонду на памяшканьні, якія належаць органам камунальнае гаспадаркі.

Старшыня ЦВК БССР **А. ЧАРВЯКОЎ.**

Старшыня СНК БССР **М. ГАЛАДЗЕД.**

Сакратар ЦВК БССР **А. ХАЦКЕВІЧ.**

27 сьнежня 1928 г.
г. Менск.

---

*Рэдактар—РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ*

*Выдавец—Каапцэнтры БССР, Белсельбанк і Ўсекабанк*